# ПРАДМОВА

Беларуская Энцыклапедыя ў 18 тамах выпускаецца ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 565 ад 19 жніўня 1993 года. Гэта будзе сістэматызаваны універсальны даведачны дапаможнік, прызначаны для шырокіх колаў чытачоў. Прымаючы пад увагу задачы выдання, распрацаваны «Метадычныя ўказанні для рэдактараў Беларускай Энцыклапедыі». У іх аснову пакладзены вопыт выдання універсальнай, рэгіянальных і галіновых энцыклапедый, набыты больш чым за чвэрць стагоддзя ў выдавецтве, а таксама вопыт энцыклапедычных выдавецтваў дзяржаў СНД і іншых замежных краін.

Кожны рэдактар БелЭн павінен карыстацца гэтымі метадычнымі ўказаннямі, няўхільна выконваць іх патрабаванні і рэкамендацыі. Рыхтуючы метадычныя ўказанні, Галоўная рэдакцыя кіравалася тым, што ў энцыклапедыі выключна важнае значэнне мае адзіная методыка падрыхтоўкі, рэдагавання і афармлення артыкулаў. Адхіленні ад адзінай методыкі не толькі непамерна зацягваюць выданне, патрабуюць дапрацоўкі і перапрацоўкі матэрыялаў, але і пазбаўляюць магчымасці ў сціслых аб'ёмах даваць найбольш поўную навуковую інфармацыю.

Мэта метадычных патрабаванняў — забяспечыць лепшую, больш дакладную і поўную ўзаемасувязь энцыклапедычных матэрыялаў, павысіць іх даведачны ўзровень. А гэта ў сваю чаргу паможа чытачу хутчэй і лягчэй знайсці патрэбныя яму звесткі. Вось чаму надрукаваныя ў зборніку патрабаванні *абавязковыя* для ўсіх рэдактараў БелЭн.

Змены «Метадычных указанняў...» і дадаткі да іх будуць ажыццяўляцца ў форме загадаў і распараджэнняў Галоўнага рэдактара БелЭн.

# І. СКЛАДАННЕ ТЭМАТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАЎ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Запланаваны аб'ём Беларускай Энцыклапедыі (БелЭн) каля 80 тысяч артыкулаў. Характар і аб'ём гэтай універсальнай энцыклапедыі патрабуюць аптымальна ўлічваць месца кожнай навукі ў сістэме ведаў і адбіраць неабходныя тэрміны для галіновых слоўнікаў.

2. Як і ўсякае універсальнае энцыклапедычнае выданне, БелЭн не зборнік паасобных артыкулаў, а сістэматызаваны збор ведаў. Ажыццявіць гэтую сістэмнасць магчыма толькі пры ўмове, калі ў галіновых структурах і артыкулах будзе належным чынам адладжана ўнутраная сувязь навук, падзей і фактаў, калі сумежныя паняцці будуць падпарадкаваны адно аднаму, калі будуць вызначаны спасылкі на загаловачныя і ўнутрытэкставыя тэрміны.

3. Слоўнік БелЭн павінен арыентавацца на новую тэрміналогію. Устарэлыя ці малаўжывальныя тэрміны ў энцыклапедыю дапускаюцца толькі ў тых выпадках, калі ад іх тлумачэння залежыць разуменне сучаснай тэрміналогіі тэорый і паняццяў навукі і грамадскага жыцця. У слоўніку не павінна быць захаплення вузкаспецыяльнай тэрміналогіяй, якая выконвае дапаможную ролю ў агульным ладзе катэгорый пэўных галін ведаў.

4. У БелЭн павінны быць адлюстраваны прырода, эканоміка, гісторыя, культура, навука краін свету, найважнейшыя сацыяльна-палітычныя і грамадскія падзеі. Пры адборы тэрмінаў па прыродазнаўстве і тэхніцы найбольшая ўвага павінна быць звернута на іх перадавыя і вырашальныя кірункі.

5. У БелЭн павінны быць поўна, наколькі гэта магчыма, адлюстраваны прырода, эканоміка, гісторыя, культура, навука Беларусі, усе з'явы з сённяшняга яе жыцця і гістарычнага

мінулага: войны, паўстанні, бітвы, ваенныя аперацыі і інш. гістарычныя падзеі, што адбываліся на Беларусі або гістарычна з ёй звязаны.

6. Слоўнік і артыкулы БелЭн павінны абавязкова адлюстроўваць сувязь галін ведаў з дасягненнямі Беларусі ў развіцці гаспадаркі, навукі і культуры, з яе прыроднымі багаццямі і памятнымі мясцінамі, нацыянальнымі асаблівасцямі і міжнароднымі адносінамі.

7. У Беларускай Энцыклапедыі змяшчаюцца артыкулы:

а) пра навукі і іх раздзелы;

б) пра найважнейшыя аб'екты прыроды;

в) пра галіны прамысловасці і сельскай гаспадаркі, галіны эканомікі, тэхнікі і культуры;

г) пра ўсе этапы, эпохі і найважнейшыя падзеі ў гісторыі чалавецтва;

д) пра з'явы, якія характарызуюць гісторыю навукі і культуры;

е) пра стылі, віды, роды, жанры літаратуры і мастацтва, іх метады і сродкі даследавання;

ё) пра найважнейшыя навуковыя, навукова-даследчыя і культурна-асветныя ўстановы і арганізацыі (акадэміі, універсітэты, інстытуты, бібліятэкі, выдавецтвы, таварыствы, творчыя саюзы, цэнтры, музеі і інш.);

ж) пра з'явы палітычнага і грамадскага жыцця (сучасныя і ў мінулым);

з) біяграфічныя артыкулы.

8. У БелЭн шырока практыкуецца змяшчэнне абагульняльных артыкулаў універсальнай тэматыкі з тлумачэннем у іх падпарадкаваных тэме паняццяў, напр.: Адзенне, Антысептычныя сродкі і да т.п. Калі змяшчаюцца асобныя артыкулы па больш дробных падпарадкаваных ім паняццях, то яны абмяжоўваюцца невялікім аб'ёмам з прывядзеннем бібліяграфіі.

9. Даюцца асобныя артыкулы пра ўсе універсітэты, ВНУ, спецыяльныя сярэднія навучальныя ўстановы, навукова-даследчыя ўстановы Беларусі і пра старэйшыя замежныя акадэміі навук і галіновыя акадэміі і універсітэты замежных дзяржаў.

10. Побач з абагульняльнымі артыкуламі пра галіны народнай гаспадаркі даюцца артыкулы пра асобныя буйныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Беларусі, адбор якіх робіцца ў адпаведнасці з іх эканамічным значэннем у развіцці краіны, а таксама артыкулы пра буйныя прадпрыемствы, што маюць вялікія дасягненні, даўнюю гісторыю ці звязаны з дзейнасцю вынаходнікаў і наватараў вытворчасці.

11. Змяшчаюцца артыкулы пра асобныя выданні мінулых часоў і найбольш вядомыя сучасныя (агульнарэспубліканскія, абласныя, нават раённыя).

12. Як правіла, даюцца артыкулы пра асобныя народы, звесткі пра народы прыводзяцца таксама ў комплексных артыкулах пра краіны ў раздзеле «Насельніцтва».

13. У якасці асноўных крыніц слоўнікава-тэрміналагічнага фонду БелЭн выкарыстоўваюцца найноўшая навуковая літаратура, усе існуючыя энцыклапедычныя выданні, энцыклапедычныя слоўнікі, галіновыя энцыклапедыі, усе выданні выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя».

14. Работа над слоўнікам БелЭн не спыняецца да выхаду яе апошняга тома. У працэсе выдання энцыклапедыі ў слоўнік уносяцца папраўкі ў адпаведнасці са зменамі і дасягненнямі ў той ці іншай галіне ведаў. Дадаткі на літары алфавіта, якія ўвайшлі ў выдадзеныя тамы, робяцца ў канцы апошняга тома ў раздзеле «Дадатак».

15. БелЭн павінна быць вынікам працы вялікага калектыву вучоных, спецыялістаў народнай гаспадаркі, дзеячаў культуры і мастацтва, творчых і грамадскіх арганізацый, работнікаў міністэрстваў і ведамстваў і інш. Гэтыя ж катэгорыі асоб удзельнічаюць у складанні і абмеркаванні тэматычных слоўнікаў.

## ПРЫНЦЫПЫ АДБОРУ ПЕРСАНАЛІІ Ў ТЭМАТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАХ

1. У Беларускай Энцыклапедыі змяшчаюцца артыкулы пра вядомых дзеячаў усіх галін навукі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва, грамадска-палітычнага жыцця, нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі і за мяжой, пра дзеячаў мінулага і сучаснасці.

2. Пры вырашэнні пытання пра ўключэнне ў слоўнік пэўнага біяграфічнага артыкула трэба найперш кіравацца тым, які ўклад зрабіў гэты дзеяч у развіццё навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва, якую ролю адыграў у грамадскім жыцці.

3. Пры адборы персаналіі асноўнае значэнне мае крытэрый вядомасці. Маюцца на ўвазе не толькі карыфеі навукі, мастацтва, палітыкі і г.д., але і асобы, якія дасягнулі творчых поспехаў у пэўнай галіне ведаў параўнаўча нядаўна. Такія дзеячы ёсць, напрыклад, сярод артыстаў, якія не мелі вышэйшых званняў ці прэмій, але набылі шырокую папулярнасць у гледачоў. Ва ўсіх выпадках галоўным крытэрыем для ўключэння такіх

асоб у слоўнік БелЭн з'яўляюцца іх творчыя дасягненні. Але і гэты прынцып патрабуе даволі асцярожнага падыходу.

4. Памеры біяграфічных артыкулаў (колькасць знакаў тэксту), а таксама партрэт і іншыя ілюстрацыі павінны планавацца ў залежнасці ад значэння гэтага дзеяча. Аднак не заўсёды варта кіравацца правілам, што чым больш значная асоба, тым большы (па памерах) пра яго павінен быць артыкул. Напрыклад, артыкул пра Міколу Гусоўскага, які стварыў адзіны геніяльны твор, непазбежна будзе карацейшы, чым пра вядомага пісьменніка, які напісаў шмат твораў. Нарвежскі матэматык Н.Абель (1802—29) за кароткае жыццё зрабіў значны ўклад у навуку, але артыкул пра яго будзе карацейшы за артыкул пра вучонага, прыкладна роўнага яму навуковага «рангу», які за больш доўгае жыццё паставіў і вырашыў больш навуковых праблем. Факты асабістай біяграфіі, творчага ці службовага шляху розных дзеячаў надзвычай розныя, і гэта нельга не ўлічваць пры планаванні памераў артыкулаў. Калі пра якога-небудзь дзеяча старажытнасці ці сярэднявечча зберaглося мала біяграфічных звестак, то артыкул пра яго, вядома, будзе меншы, чым артыкул пра дзеяча прыкладна такога ж значэння, звестак пра якога захавалася значна больш.

На памер біяграфічнага артыкула ўплывае і тое, што ў слоўніку БелЭн могуць быць прадугледжаны самастойныя артыкулы пра вучэнні, адкрыцці, законы, формулы і г.д., якія створаны гэтым дзеячам і часта названы імем свайго стваральніка (напрыклад, Перыядычная сістэма Мендзялеева, Дарвінізм, Станіслаўскага сістэма). Аналагічная сітуацыя, калі змяшчаецца асобны артыкул пра палітычны рух, названы імем свайго кіраўніка (напрыклад, акрамя артыкула Булавін К.А. можа быць артыкул Булавінскае паўстанне). Усё гэта трэба ўлічваць пры рабоце над слоўнікамі біяграфічных артыкулаў і пры планаванні аб'ёма артыкулаў.

У асобных выпадках, калі трэба даць ацэнку поглядаў і дзейнасці пэўнай асобы, памеры артыкула пра яго могуць быць павялічаны.

5. Пытанне пра ўключэнне ў БелЭн біяграфічнага артыкула пра пэўнага дзеяча вырашае навукова-галіновая рэдакцыя на аснове рэкамендацый адпаведных спецыялістаў, навуковых і грамадскіх арганізацый.

6. Пра айчынных і замежных дзеячаў абавязкова павінны быць запланаваны наступныя артыкулы:

1) Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь;

2) Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі;

3) Старшыня Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь і яго намеснікі, а таксама міністры, старшыні дзяржаўных камітэтаў Кабінета Міністраў і камітэтаў пры Кабінеце Міністраў;

4) старшыні выканкомаў абласных Саветаў дэпутатаў;

5) рэдактары вядучых газет («Звязда», «Народная газета» і інш.);

6) кіраўнікі суседніх з Беларуссю дзяржаў і ўрадаў, а таксама ўсіх вялікіх замежных краін;

7) лаўрэаты Нобелеўскай і іншых агульнапрызнаных міжнародных прэмій;

8) выдатныя ваенныя дзеячы, якія нарадзіліся на Беларусі ці ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад нямецкай акупацыі ў гады Вялікай Айчыннай вайны;

9) арганізатары і кіраўнікі партызанскага руху і патрыятычнага падполля, якія асабліва вызначыліся ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны; у тым ліку Героі Савецкага Саюза, якія нарадзіліся на Беларусі або вызначыліся ў баях за Беларусь;

10) военачальнікі і героі іншых войнаў, якія нарадзіліся або вызначыліся ў баях на тэрыторыі Беларусі;

11) выдатныя беларускія і зарубежныя вучоныя, заснавальнікі навук, вучэнняў, школ, стваральнікі важнейшых тэорый, аўтары найбольш значных адкрыццяў і вынаходстваў;

12) акадэмікі і члены-карэспандэнты АН Беларусі, а таксама іншых акадэмій (аграрнай і г.д.);

13) акадэмікі і члены-карэспандэнты былой АН СССР і сённяшняй Расійскай АН, якія нарадзіліся ці працуюць на Беларусі;

14) прафесары, дактары навук, якія працуюць на Беларусі і зрабілі значны ўклад у навуку, маюць свае навуковыя школы;

15) беларускія вучоныя, якія зрабілі значны ўклад у развіццё навукі (незалежна ад звання);

16) дзеячы навукі і тэхнікі — лаўрэаты Ленінскіх прэмій, Дзяржаўных прэмій, якія працуюць на Беларусі;

17) кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, якія зрабілі вялікі ўклад у справу станаўлення і развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі і доўгі час займаюць ці займалі гэтыя пасады (паводле спісу);

18) дзеячы народнай гаспадаркі — лаўрэаты Дзяржаўных прэмій, якія жывуць на Беларусі;

19) пісьменнікі, кампазітары, мастакі, архітэктары, артысты Беларусі, чые творы атрымалі ўсеагульную вядомасць і прызнанне і якія маюць ганаровыя званні «народны» ці «заслужаны»;

20) заслужаныя работнікі культуры, якія зрабілі значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры Беларусі;

21) дзеячы культуры і мастацтва, творчасць якіх зрабіла значны ўплыў на нацыянальную культуру і якія нарадзіліся ці працуюць на Беларусі;

22) самыя выдатныя дзеячы культуры замежных краін усіх часоў;

23) спартсмены Беларусі — чэмпіёны і рэкардсмены свету, Алімпійскіх гульняў і Еўропы;

24) сусветна вядомыя спартсмены — чэмпіёны Алімпійскіх гульняў.

## ТЭМАТЫЧНЫЯ СЛОЎНІКІ

1. Работа над слоўнікам пачынаецца з уліку вузкай класіфікацыі тэрмінаў па дысцыплінах і раздзелах навук. Таму агульны слоўнік БелЭн дзеляць на часткі — тэматычныя слоўнікі. Падзел слоўніка па тэмах не толькі палягчае яго складанне, але і дае магчымасць кваліфікавана вызначыць месца кожнай дысцыпліны і артыкула, бібліяграфіі і ілюстрацый у агульным аб'ёме энцыклапедыі.

2. Тэматычныя слоўнікі па дысцыплінах складаюць навукова-галіновыя рэдакцыі ў адпаведнасці са строга вызначанай колькасцю тэрмінаў і ў запланаваным аб'ёме знакаў. У кожнай рэдакцыі можа быць столькі тэматычных слоўнікаў, колькі навуковых дысцыплін яна вядзе. Раздзелы «Біяграфічныя артыкулы» («Персаналія») уваходзяць састаўнымі часткамі ў тэматычныя слоўнікі.

3. Унутры галіны ведаў слоўнік у сваю чаргу павінен разбівацца на тэмы і нават падтэмы для больш зручнага яго складання, рэцэнзавання і абмеркавання.

4. Раздзел «Рознае» («Варыя») рыхтуецца кантрольна-метадычнай рэдакцыяй з тэрмінаў, якія застаюцца па-за межамі тэматыкі навукова-галіновых рэдакцый. З праектам гэтага слоўніка абавязкова знаёмяцца ўсе навукова-галіновыя рэдакцыі.

5. У тэматычныя слоўнікі ўключаюцца словы-сінонімы са спасылкамі на асноўныя артыкулы.

6. У тэматычныя слоўнікі навукова-галіновыя рэдакцыі ўключаюць тэрміны комплексных артыкулаў з паметай

«компл.» і звесткамі пра тое, якую частку комплекснага артыкула рыхтуе пэўная рэдакцыя і ў якім аб'ёме (у знаках).

7. Навукі звычайна маюць стыкавыя галіны і тэрміны, многія з якіх цяжка дакладна размежаваць (напрыклад, кібернетыку ў яе дачыненні да тэхнікі, матэматыкі і грамадскіх навук), таму неабходна старанна прасачыць, каб тэрміны стыкавых галін ведаў не засталіся па-за ўвагай складальнікаў слоўніка. Тэрміны сумежных галін ведаў пажадана ўключаць у галіновыя слоўнікі, але з паметай, што гэтыя тэрміны могуць дубліравацца.

8. Складаючы тэматычныя слоўнікі, навукова-галіновая рэдакцыя павінна сабраць самыя поўныя звесткі пра паняцці, асоб, выданні, якім не будуць прысвечаны спецыяльныя артыкулы, каб выкарыстаць гэтыя звесткі ў адпаведных артыкулах.

9. У тэматычных слоўніках тэрміны размяшчаюцца ў алфавітным парадку (у адпаведнасці са структурай галін ведаў). Да тэматычнага слоўніка пішацца прадмова, у якой даюцца неабходныя тлумачэнні і звесткі пра колькасць артыкулаў і іх аб'ёмы.

10. Тэрміны ў тэматычным слоўніку павінны мець:

а) кароткую анатацыю, якая паказвае раздзел навукі, літаратурны жанр, гістарычную эпоху, нацыянальную ці дзяржаўную прыналежнасць, спецыяльнасць дзеяча і г.д.;

б) аб'ём (памер) артыкула ў знаках;

в) памету пра бібліяграфію: Б.;

г) паметы пра ілюстрацыі і карты: І — ілюстрацыя, П — партрэт, К — карта;

д) у «чорным слове» абавязкова пазначаецца націск.

11. Тэматычныя слоўнікі, падрыхтаваныя навукова-галіновымі рэдакцыямі, друкуюцца на ратапрынце, шырока абмяркоўваюцца ў навуковых і іншых установах, разглядаюцца навукова-рэдакцыйным саветам і зацвярджаюцца Галоўным рэдактарам БелЭн.

## II. НАЗВЫ АРТЫКУЛАЎ

1. Назвы энцыклапедычных артыкулаў — гэта тэрміны пэўных навук, галін ведаў, прозвішчы дзеячаў, найменні прадпрыемстваў, арганізацый, таварыстваў, геаграфічныя назвы і г.д., якія пры наборы вылучаюцца паўтлустым шрыфтам (адсюль назва «чорнае слова»).

2. Назвы артыкулаў даюцца пераважна ў форме назоўнікаў адзіночнага ліку: **АТАМ, ВУЛКАН, ГЛЕБА, МАНЕТА, СТАНОК.** Множны лік дапускаецца тады, калі гэта зборнае паняцце адпавядае прынятай навуковай тэрміналогіі (**ГРЫЗУНЫ, ТЛУШЧЫ**) ці артыкул мае абагульняльны характар (**БАЛТЫЙСКІЯ МОВЫ, НЕРВОВЫЯ ХВАРОБЫ**).

3. Калі паняцце абазначаецца некалькімі словамі, то на першае месца, ад якога залежыць і месца артыкула ў алфавітным слоўніку, ставіцца слова, што нясе на сабе сэнсавы і лагічны націск: **БЕЛАРУСКАЯ МОВА**.

4. У назвах тэорый, законаў, навуковых палажэнняў, формул на першае месца не ставяцца словы «закон», «тэорыя», «машына» і г.д. Трэба пісаць: **АРХІМЕДА ЗАКОН, ІМАВЕРНАСЦЯЎ ТЭОРЫЯ**. Выключэнні дапускаюцца, калі гэта апраўдана і замацавана традыцыяй.

5. Артыкулы пра заводы, фабрыкі, прадпрыемствы даюцца па афіцыйнай назве; на першае месца ставіцца іх геаграфічнае знаходжанне (**БАРЫСАЎСКАЯ ФАБРЫКА ПІЯНІНА, ГРОДЗЕНСКІ ТОНКАСУКОННЫ КАМБІНАТ, МАРЫУПАЛЬСКІ МЕТАЛУРГІЧНЫ КАМБІНАТ «АЗОЎСТАЛЬ»**). У некаторых выпадках назва можа будавацца з улікам галіновых вытворчых адзнак (**АБУТКОВАЕ ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ПРАМЕНЬ»**).

6. Артыкулы пра навукова-даследчыя інстытуты, іншыя падраздзяленні АН Беларусі даюцца па іх афіцыйнай назве, а пра

астатнія навукова-даследчыя інстытуты — па галіновых адзнаках.

7. Слова «дзяржаўны» ў загалоўках артыкулаў звычайна не даецца. Выключэнне дапускаецца, калі тэрмін без гэтага слова нельга ўжыць або калі для тэрміна існуе традыцыйная абрэвіятура (**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ, БДУ**, але **ГРОДЗЕНСКІ УНІВЕРСІТЭТ**).

8. Скарочаныя словы і абазначэнні ў назвах асноўных артыкулаў не ўжываюцца. Найбольш ужывальныя скарачэнні слоў і абазначэнняў могуць давацца як спасылачныя артыкулы.

Як выключэнне ў загаловак выносяцца абрэвіятуры, якія набылі самастойны сэнс (**КАЛГАС**), ці традыцыйныя і агульнавядомыя назвы: (**«БЕЛАРУСЬФІЛЬМ»**) і інш.

9. Калі ёсць два тэрміны з аднолькавым значэннем — беларускі і іншамоўны, — артыкул даецца на той тэрмін, які прыняты ў сучаснай навуковай тэрміналогіі. Другі сінанімічны тэрмін даецца разрадкай пасля першага праз коску або ў дужках; ён можа давацца і як спасылачны артыкул.

Прыклады:

АКАНІТ, боцікі,

АСПІРЫН, ацэтылсаліцылавая кіслата,

ГАНДБОЛ, тое, што *ручны мяч.*

10. Заалагічныя і батанічныя назвы суправаджаюцца адпаведнымі лацінскімі назвамі, якія даюцца адразу за назвай артыкула ў дужках.

Прыклады:

АКСАМІТ АМУРСКІ (Phellodendron amurense),

БЛІШЧАНКІ (Nitidulidae).

11. Дапускаецца скарачэнне «чорнага слова». Але, каб тэрмін не страціў асноўнага сэнсу, за «чорным словам» разрадкай даецца неабходнае ўдакладненне.

Прыклады:

АКТЫЎНАЯ ЗОНА атамнага рэактара,

ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ПАДПОЛЛЕ ў Вялікую Айчынную вайну,

АНГЛІЙСКАЯ БУРЖУАЗНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ 17 стагоддзя,

АРЫТМІЯ сардэчная,

АСКАНІЙСКАЯ парода авечак.

12. У найменнях заводаў, фабрык, інстытутаў, тэатраў, бібліятэк і г.д. паўтлустым набіраецца толькі асноўная назва, а ўсе астатнія словы даюцца разрадкай.

Прыклад:

**БЕЛАРУСКІ РАБОЧЫ ТЭАТР** імя Цэнтральнага савета прафсаюзаў Беларусі.

Выключэнне: «чорным словам» набіраюцца ўсе назвы, асноўнае найменне якіх аднолькавае.

Прыклады:

**ВІЦЕБСКІ СТАНКАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД ІМЯ С.М.КІРАВА,**

**ВІЦЕБСКІ СТАНКАБУДАЎНІЧЫ ЗАВОД ІМЯ КАМІНТЭРНА.**

13. Даты, якія ўваходзяць у назвы артыкулаў, як правіла, уключаюцца ў «чорнае слова».

Прыклады:

**БЕЛАРУСКАЯ АПЕРАЦЫЯ 1944,**

**КУЛІКОЎСКАЯ БІТВА 1380,**

**МАГІЛЁВА АБАРОНА 1941.**

14. Калі артыкул прысвячаецца ўстанове, арганізацыі, серыйнаму выданню, назва якіх складаецца з вялікай колькасці слоў, то «чорнае слова» павінна ўключаць у сябе толькі асноўныя элементы і пачынацца з таго слова, на якое чытач хутчэй за ўсё будзе шукаць гэты артыкул, а поўная назва даецца ў дужках разрадкай.

Прыклад:

**АКТЫ ЗАХОДНЯЙ РАСІІ** («Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею»)

15. У тэрмінах, якія абазначаюць прозвішчы ці імёны князёў, цароў, каралёў і інш. гістарычных дзеячаў, паўтлустым набіраецца толькі прозвішча ці імя з лічбай. Другое імя і мянушка даюцца разрадкай.

Прыклады:

**БАЛЯСЛАЎ I** Храбры,

**БАЛЯСЛАЎ III** Крывавусты.

16. У «чорнае слова» нельга ўключаць сінонімы ў сярэдзіне тэрміна ў дужках. У геалагічных тэрмінах «век (ярус)», «эпоха (аддзел)», «перыяд (сістэма)», «эра (група)» усе словы набіраюцца тлустым шрыфтам.

Прыклады:

Няправільна: **АСАБІСТАЯ** (персанальная) **УНІЯ.**

Правільна: **АСАБІСТАЯ УНІЯ** (персанальная),

**АКСФОРДСКІ ВЕК (ЯРУС),**

**АРДОВІКСКІ ПЕРЫЯД (СІСТЭМА).**

17. Разрадкай карыстаюцца і пры вызначэнні спецыфікі тэрміна. Паняцце, пры дапамозе якога вызначаецца спецыфіка тэрміна, можа стаяць у дужках, але калі яно ўваходзіць у назву тэрміна як састаўная частка — без дужак.

Прыклады:

АРЫЕНТАЦЫЯ (у касманаўтыцы),

ЖЫЛА (у геалогіі),

АДАПТАЦЫЯ біялагічная.

18. Калі спецыфіка тэрміна пазначаецца скарочаным словам, разрадка не ўжываецца.

Прыклад:

АКРУЖЭННЕ (ваен.)

19. Нельга даваць разрадкай частку тэрміна, калі ён утварае абрэвіятуру, якая ставіцца за тэрмінам.

Прыклады:

**АРГАНІЗАЦЫЯ ПАЎНОЧНААТЛАНТЫЧНАГА ДАГАВОРУ (НАТО),**

**ЗАПІС АКТАЎ ГРАМАДЗЯНСКАГА СТАНУ (ЗАГС).**

20. Тэрміны, якія маюць сінонімы, афармляюцца наступным чынам:

а) сінонім, які ідзе адразу за тэрмінам, даецца разрадкай праз коску.

Прыклад:

АЛГАРЫТМ, алгарыфм (ад лацінізаванага імя узбекскага матэматыка 9 ст. аль-Харэзмі).

б) калі тэрмін суправаджаецца лацінскай назвай, сінонімы даюцца пасля назвы праз коску, а потым лацінская назва ў дужках.

Прыклады:

БАЙБАК, стэпавы сурок (Marmota bobac),

БРЫЁНІЯ, пярэступ (Bryonia).

21. Калі тэрміны маюць пры сабе этымалагічную даведку, сінонімы аднолькавага паходжання даюцца пасля назвы артыкула, сінонімы рознага паходжання — пасля этымалагічнай даведкі.

Прыклады:

АЛІГАЦЭНАВАЯ ЭПОХА (АДДЗЕЛ), алігацэн (грэч. oligos нязначны + kainos новы)

АГАНІСТЫКІ (лац. agonistici здольныя да барацьбы), цыркумцэліёны

22. Назвы перыядычных выданняў, якія друкаваліся ці друкуюцца на рускай мове, даюцца па-руску.

Назвы перыядычных выданняў лацінскай графікі даюцца транслітарацыяй па-беларуску, у дужках за «чорным словам» даецца арыгінальнае напісанне і пераклад на беларускую мову.

Прыклад:

**«КУР'ЕР ЛІТЭВСКІ»** («Kurier litewski», «Літоўскі веснік»)

24. Назвы зборнікаў афіцыйных, навуковых матэрыялаў даюцца на беларускай мове з арыгінальным (у дужках) напісаннем пасля «чорнага слова».

Прыклады:

**АРХІЎ ГІСТАРЫЧНАЙ КАМІСІІ** (Archiwum Komisyi Historycznej),

**ГІСТОРЫКА-ЮРЫДЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ** («Историко-юридические материалы, извлечённые из актовых книг губерний Витебской и Могилёвской, хранящиеся в Центральном архиве в Витебске...»).

25. Калі асноўнае слова (звычайна геаграфічная назва) мае дзве разнамоўныя формы, то другая назва даецца ў дужках з указаннем мовы.

Прыклад:

**БАКУ** (азерб. Бакы)

26. Калі назва артыкула — сапраўднае прозвішча якога-небудзь дзеяча, а ў яго ёсць і найб. вядомы псеўданім, то ў дужках разрадкай пішацца гэты псеўданім. Калі назва артыкула — псеўданім, у дужках разрадкай пішацца сапраўднае прозвішча.

Прыклады:

**ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ** Вінцэнты (псеўд. Навум Прыгаворка),

**ТАНК** Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч),

**ЦЁТКА** (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна).

## НАЦІСКІ

1. Знак націску ставіцца абавязкова ў назвах артыкулаў («чорных словах», калі яны не аднаскладовыя) над націскной галоснай, акрамя літары «ё».

2. У складаных словах як беларускіх, так і іншамоўных ставіцца толькі асноўны націск: **РЭНТГЕНАСКАПІ́Я, ВОДАЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ, ЛЕСАРАЗВЯДЗЕ́ННЕ.** Два націскі ставяцца ў словах, што маюць дваякую акцэнтную форму.

3. Націск у іншамоўных прозвішчах, імёнах і геаграфічных назвах павінен паказваць правільнае іх вымаўленне на тых мовах, якім гэтыя прозвішчы, імёны і назвы належаць: **АРЫСТАФА́Н, БАДУЭ́Н ДЭ КУРТЭНЭ́, БА́ЙРАН, НЕ́ЕДЛЫ.**

Ва ўсіх словах, утвораных ад іншамоўных прозвішчаў, імён і геаграфічных назваў, націск ставіцца ў адпаведнасці з нормамі беларускага літаратурнага вымаўлення: **АМЕ́РЫКА**, але **АМЕРЫКА́НСКІ РЫСА́К**; **А́НГЛІЯ**, але **АНГЛІ́ЙСКАЯ МО́ВА**.

Выключэнне дапускаецца ў словах, за якімі традыцыя замацавала вымаўленне, не ўласцівае мове-першакрыніцы: **ШЭКСПІ́Р**, **ЛІВЕРПУ́Л**.

4. Пасля прозвішчаў, імён і назваў, за якімі традыцыя замацавала няправільную транскрыпцыю і няправільны націск, неабходна даваць правільную транскрыпцыю і правільны націск: **ГАРВЕ́Й** (больш правільна Ха́рві).

Вырашаючы пытанне пра націск, абавязкова трэба ўлічваць этымалогію слова.

# III. АЛФАВІТНЫЯ СЛОЎНІКІ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Алфавітныя слоўнікі складаюцца: а) слоўнікі па асобных раздзелах ведаў у кожнай навукова-галіновай рэдакцыі; б) агульны слоўнік на ўсё выданне з дзяленнем па тамах.

2. Алфавітны слоўнік камплектуецца з тэматычных слоўнікаў шляхам расстаноўкі тэрмінаў у алфавітным парадку. У яго пераносяцца з тэматычных слоўнікаў усе паметы пра памеры артыкулаў, бібліяграфію, ілюстрацыі і карты.

3. Алфавітны слоўнік павінен памагаць:

а) улічваць размеркаванне тэрмінаў па тамах энцыклапедыі (у залежнасці ад вызначанага аб'ёму артыкулаў);

б) весці ўлік артыкулаў у вызначаным аб'ёме;

в) кантраляваць падрыхтоўку ілюстрацый і карт;

г) весці ўлік выключаных і ўключаных артыкулаў, змененых назваў артыкулаў.

4. Кожнаму артыкулу ў алфавітным слоўніку тома прысвойваецца парадкавы нумар, пад якім гэты артыкул праходзіць усе этапы рэдагавання аж да камплектавання тома энцыклапедыі і перадачы матэрыялаў у архіў. Калі ў працэсе работы над томам уключаюцца новыя артыкулы ці выключаюцца тэрміны, то ўключаныя артыкулы атрымліваюць нумары, якія ўжо ёсць у праекце слоўніка, з дадатковымі літарнымі індэксамі, а выключэнне тэрмінаў (артыкулаў) вядзе да аўтаматычнага выключэння іх нумароў з агульнага алфавітнага слоўніка.

## РАССТАНОЎКА ТЭРМІНАЎ ПА АЛФАВІЦЕ

1. Пры расстаноўцы тэрмінаў у алфавітным парадку трэба ўлічваць наступныя арфаграфічныя моманты:

а) раздзяляльны знак апостраф (´) у беларускай мове літарай не лічыцца і не ўплывае на алфавітнае размяшчэнне артыкулаў;

б) афрыкаты «дз» і «дж» не лічацца самастойнымі літарамі;

в) тэрміны, у т.л. прозвішчы і геаграфічныя назвы, якія складаюцца з некалькіх кампанентаў і пішуцца праз дэфіс або працяжнік, лічацца ў алфавіце як адно слова;

г) кітайскія, карэйскія, в´етнамскія прозвішчы і назвы ставяцца ў алфавіце як адно слова, незалежна ад таго, пішуцца праз злучок або асобна;

д) замежныя прозвішчы з часцінкамі «ван», «ван дэр», «дэ», «ды», «ла», «ле» і інш. ставяцца ў алфавіце таксама як адно слова.

2. У алфавітным слоўніку найбольш цяжка расставіць тэрміны-амонімы, якія маюць аднолькавае напісанне, але рознае значэнне. Асноўным крытэрыем пры вызначэнні іх месца ў алфавіце з´яўляецца храналогія і важнасць тэрміна.

3. Парадак размяшчэння артыкулаў пра каралёў, цароў, князёў, дзяржаўных і царкоўных дзеячаў, якія маюць толькі імя, наступны:

а) на першае месца ставіцца імя з парадкавай лічбай, потым імя з мянушкай, прозвішчам і г.д.

Прыклады:

**ЖЫГІМО́НТ I** Стары,

**ЖЫГІМО́НТ II** Аўгуст,

**ЖЫГІМО́НТ КЕ́ЙСТУТАВІЧ**;

б) артыкулы пра манархаў, якія маюць пасля імя лічбу I, II, III і г.д., даюцца ў храналагічным парадку. Другое імя пасля лічбы ў алфавіце не ўлічваецца, бо яно набіраецца разрадкай.

Прыклады:

**УЛАДЗІСЛА́Ў I** Лакетак,

**УЛАДЗІСЛА́Ў II** Ягайла,

**УЛАДЗІСЛА́Ў III** Варненьчык,

**УЛАДЗІСЛА́Ў IV** Ваза;

в) тэрміны пра манархаў розных краін з аднолькавымі імёнамі і лічбамі I, II, III, IV ... ставяцца ў алфавіце па краінах і ў храналагічным парадку.

Прыклады:

**ГЕ́НРЫХ II** (англ.),

**ГЕ́НРЫХ VIII** (англ.),

ГЕ́НРЫХ IV (ням.),

ГЕ́НРЫХ IV Н а в а р с к і (франц.).

4. Калі ў алфавіце стаяць побач два тэрміны, адзін з якіх абазначае агульнае паняцце, а другі — прыватную з'яву, то на першае месца ставіцца тэрмін-паняцце агульнае, а на другое тэрмін-паняцце прыватнае з улікам алфавіту назначэння.

П р ы к л а д ы :

АГЛЯ́Д (у некалькіх значэннях),

АГЛЯ́Д (у праве),

ДЭПРЭ́СІЯ (у медыцыне),

ДЭПРЭ́СІЯ (у эканоміцы),

РУХ (у філасофіі),

РУХ (у геаметрыі),

ПРАЛЕТАРЫЯ́Т (у філасофіі),

«ПРАЛЕТАРЫЯ́Т» (арганізацыя).

5. У выпадках, калі стаяць побач два аднолькавыя тэрміны і адзін з іх — назва з'явы ці прадмета, а другі — персаналія, на першае месца ставіцца тэрмін-назва, а потым ідзе персаналія.

П р ы к л а д ы :

БАРАВІ́К (грыб),

БРАВІ́К Аляксандр Аляксандравіч,

БРЫЛЬ (капялюш),

БРЫЛЬ Янка,

ЛАПА́ЦІНА (вёска),

ЛАПА́ЦІНА Таццяна Карнееўна,

ТАНК (у тэхніцы),

ТАНК Максім.

Такі парадак прыняты і для тэрмінаў, якія абазначаюць назву горада і персаналію.

П р ы к л а д ы :

ЛО́НДАН (горад),

ЛО́НДАН Джэк (пісьменнік),

ЛЬВОЎ (горад),

ЛЬВОЎ М.А. (архітэктар).

6. Калі ў алфавіце побач стаяць прозвішча вучонага і тэрмін, які абазначае адкрыты ім элемент, закон, або імем гэтага вучонага названа фізічная ці іншая адзінка, на першае месца ставіцца прозвішча.

П р ы к л а д ы :

АМПЕ́Р Андрэ Мары,

АМПЕ́Р (адзінка вымярэння сілы электрычнага току),

БОР Нільс,

БОР (элемент),

КУЛО́Н Шарль,

КУЛО́Н (адзінка колькасці электрычнасці).

7. Пры спалучэнні назваў міфалагічных багоў і такіх жа назваў жывёл, раслін, рэк на першае месца ставіцца міфалагічная назва.

Прыклады:

АДО́НІС (міфалагічны бог расліннасці),

АДО́НІС (расліна).

Такі ж парадак расстаноўкі назваў багоў і планет, сузор'яў, штучных спадарожнікаў і інш.

Прыклады:

ВЕНЕ́РА (багіня),

ВЕНЕ́РА (планета),

«ВЕНЕ́РА» (аўтаматычная міжпланетная станцыя),

МАРС (бог вайны),

МАРС (планета),

«МАРС» (аўтаматычная міжпланетная станцыя).

8. У геаграфічных назвах прынята наступнае размяшчэнне тэрмінаў:

а) калі ідзе некалькі вёсак з аднолькавай назвай, то яны размяшчаюцца ў алфавітным парадку па раёнах, у якія яны ўваходзяць.

Прыклады:

МАЛІ́НАЎКА (в. ў Бераставіцкім р-не),

МАЛІ́НАЎКА (в. ў Лоеўскім р-не),

МАЛІ́НАЎКА (в ў Смаргонскім р-не),

МАЛІ́НАЎКА (в. ў Чэрыкаўскім р-не);

б) пры некалькіх аднолькавых назвах рэк пад увагу бярэцца іх даўжыня.

Прыклады:

АКА́ (прыток Волгі, 1480 км),

АКА́ (прыток Ангары, 935 км);

в) азёры з аднолькавай назвай ставяцца ў адпаведнасці з велічынёй іх плошчы.

Прыклады:

БЕ́ЛАЕ (пл. 7,1 км$^2$),

**БЕ́ЛАЕ** (пл. 5,5 км$^2$),

**БЕ́ЛАЕ** (пл. 2,4 км$^2$),

**БЕ́ЛАЕ** (пл. 1,36 км$^2$) і г.д.;

г) калі побач стаіць некалькі аднолькавых геаграфічных назваў, то захоўваецца наступны парадак: на першае месца ставяцца рака, возера, балота, потым вёска, прыстань, чыг. станцыя, горад, штат, рэспубліка, краіна, утвораныя ад іх назвы.

Прыклады:

**ДЗЯ́ГІЛІ** (возера),

**ДЗЯ́ГІЛІ** (вёска),

**ДУКО́РА** (балота),

**ДУКО́РА** (вёска),

**НІ́ГЕР** (рака),

**НІ́ГЕР** (рэспубліка),

**Е́ЛЬНЯ** (рака),

**Е́ЛЬНЯ** (возера),

**Е́ЛЬНЯ** (балота),

**Е́ЛЬНЯ** (вёска);

д) назвы населеных пунктаў, калі яны супадаюць з гістарычнымі, біялагічнымі, фізічнымі, літаратурнымі, мастацкімі і інш. назвамі, даюцца на другім месцы пасля больш агульнага паняцця.

Прыклады:

**БАЯ́РЫ** (гіст.),

**БАЯ́РЫ** (вёска),

**ВО́ЛЯ** (філас.),

**ВО́ЛЯ** (вёска),

**ГАЛУБЫ́** (біял.),

**ГАЛУБЫ́** (вёска),

**ЗО́РКА** (фіз.),

**ЗО́РКА** (вёска);

е) назвы населеных пунктаў ставяцца на другое месца і ў выпадках, калі побач стаяць гістарычныя назвы тыпу: гарадзішча, паселішча, курганны могільнік.

Прыклады:

**ХАЛО́ПЕНІЧЫ** (гарадзішча),

**ХАЛО́ПЕНІЧЫ** (гар. пас.),

**ГЛІ́НІШЧА** (курганная група),

**ГЛІ́НІШЧА** (вёска);

ж) штучныя вадаёмы, што ўзніклі ў больш позні час (канал, вадасховішча), а таксама назвы санаторыяў, дамоў адпачынку даюцца пасля назвы ракі, возера, вёскі, горада.

Прыклады:

МАЛАРЫ́ТА (гар. пасёлак),

МАЛАРЫ́ТА (канал),

ГАЦЬ (рака),

ГАЦЬ (вёска),

ГАЦЬ (вадасховішча),

СВІ́ЦЯЗЬ (возера),

СВІ́ЦЯЗЬ (паселішча),

«СВІ́ЦЯЗЬ» (дом адпачынку),

СВІР (возера),

СВІР (гар. пасёлак),

«СВІР» (санаторый).

9. Калі назвы старажытных гарадоў і дзяржаў супадаюць з сучаснымі, то спачатку ідуць старажытныя (сярэдневяковыя), а потым сучасныя гарады і краіны.

Прыклады:

ГРЭ́ЦЫЯ (старажытная),

ГРЭ́ЦЫЯ (сучасная краіна),

АФІ́НЫ (старaж. горад-дзяржава),

АФІ́НЫ (сталіца Грэцыі).

Калі побач стаяць аднолькавыя назвы горада, краіны (штата, вобласці, зямлі), то горад ставіцца на другое месца.

Прыклады:

АЛЖЫ́Р (краіна),

АЛЖЫ́Р (горад),

ТУНІ́С (рэспубліка),

ТУНІ́С (горад).

10. Назвы выдавецтваў, літаратурных арганізацый, мастацкіх аб'яднанняў ставяцца перад назвамі часопісаў і газет.

Прыклады:

БЕЛАРУ́СЬ (краіна),

«БЕЛАРУ́СЬ» (выдавецтва),

«БЕЛАРУ́СЬ» (часопіс),

«БЕЛАРУ́СЬ» (газета),

НАРО́ДНАЯ АСВЕ́ТА ,

«НАРО́ДНАЯ АСВЕ́ТА» (выдавецтва),

«НАРО́ДНАЯ АСВЕ́ТА» (часопіс).

11. Калі побач стаяць тэрміны-паняцці філасофскіх, грамадскіх, фізічных, біялагічных, тэхнічных навук, то на першае месца звычайна ставяцца гуманітарныя тэрміны (філасофіі, гісторыі, эканомікі), а потым фізікі, тэхнікі, біялогіі і інш.

Прыклады:

**АСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (у псіхалогіі),
**АСАЦЫЯ́ЦЫЯ** (у батаніцы),
**МО́МАНТ** (у філасофіі),
**МО́МАНТ** (у фізіцы),
**РОД** (у філасофіі),
**РОД** (у гісторыі),
**РОД** (у мовазнаўстве),
**РОД** (у біялогіі).

# IV. АГУЛЬНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА АРТЫКУЛАЎ

## МОВА І СТЫЛЬ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫХ АРТЫКУЛАЎ

1. Энцыклапедыя — адзін з відаў навуковай літаратуры. Яе стыль і мова — гэта агульныя стыль і мова навуковых выданняў, якія маюць і свае асаблівасці. Характэрныя асаблівасці мовы і стылю энцыклапедыі — выразнасць і строгасць фармулёвак, сціслась выкладу, яснасць і агульнадаступнасць тэрміналогіі.

Для дасягнення выразнасці і лаканічнасці мовы ў энцыклапедычных артыкулах рэкамендуецца пазбягаць:

а) агульных выразаў, не апраўданых інфармацыйным зместам;

б) вузкаспецыяльных тэрмінаў без іх тлумачэння;

в) адступленняў і экскурсаў, якія непасрэдна не адносяцца да тэмы;

г) пабочных і іншых слоў тыпу: «неабходна сказаць, што», «патрэбна мець на ўвазе», «трэба адзначыць», «неабходна спаслацца на», «як было сказана вышэй» і г.д.;

д) пытальных формаў: «Але як гэта зрабіць?», «Што такое адбор?» і інш.;

е) іншасказальных, вобразных і іншых метафарычных характарыстык прадметаў: «мініяцюрныя астраўкі»;

ё) штампаў.

2. Многія артыкулы энцыклапедыі (пра навуковыя тэорыі, пра краіны, галіны прамысловасці, тэхнічныя дасягненні і інш.) маюць формулы і статыстычныя табліцы, суправаджаюцца картамі, дыяграмамі, схемамі, чарцяжамі, рысункамі, фотаздымкамі і іншым ілюстрацыйным матэрыялам. Выкарыстанне пералічаных сродкаў мэтазгодна ў тых выпадках, калі яно замяняе доўгае апісанне якой-небудзь прылады, пабудовы, з'явы і нават выклад тэорыі параўнальна кароткім спосабам падачы

інфармацыі. Подпісы пад ілюстрацыямі павінны несці дадатковую інфармацыю.

3. Дамагаючыся спалучэння строгай навуковасці і папулярнасці выкладу тэмы, неабходна ў асноўным арыентавацца на чытача, які мае агульную сярэднюю адукацыю. Толькі ў выключных выпадках у артыкулах могуць давацца матэрыялы, прызначаныя для чытачоў са спецыяльнай падрыхтоўкай.

## ДАВЕДАЧНАСЦЬ І ІНФАРМАЦЫЙНАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ

1. Кароткія па форме артыкулы павінны быць грунтоўнымі па змесце. У артыкулах асаблівая ўвага аддаецца найважнейшым прынцыповым пытанням тэмы: артыкул неабходна напоўніць найноўшым даведачным, фактычным матэрыялам, а лічбы даваць у дынаміцы. У артыкулах энцыклапедыі не дазваляецца прыводзіць фактычныя звесткі, якія маюць апаратыўны характар, бо такі матэрыял хутка старэе.

2. Прыведзеныя факты і лічбы абавязкова датуюцца. У энцыклапедычных артыкулах забараняецца пісаць: «Цяпер», «У апошні час», «У наш час», «У апошнія гады», «У мінулым годзе», «У наступным годзе», «У мінулым». У кожным выпадку трэба даваць канкрэтныя звесткі. У залежнасці ад характару прыведзеных фактаў (лічбаў) дапускаецца ўзбуйненае датаванне (указанне стагоддзя, пачатку стагоддзя, сярэдзіны стагоддзя, канца стагоддзя, дзесяцігоддзя).

3. Пры паўтарэнні ў тэксце шэрагу лічбаў, якія адносяцца да аднаго перыяду і маюць аднолькавую адзінку вымярэння, дата і адзінка вымярэння даюцца перад першай лічбай і не паўтараюцца пры наступных.

4. Калі некаторыя лічбы адносяцца да іншага перыяду ці маюць іншую адзінку вымярэння, то гэта адзначаецца ў дужках пасля кожнай лічбы ці зноскаю ў канцы табліцы.

П р ы к л а д ы :

«Здабыча (1994, млн. т): нафты 2196, вугалю 62 500, жалезнай руды 8792, марганцавай руды 481, медзі 32 (тыс. т), свінцу 5 (тыс. т; 1952) ...»

5. Звесткі звычайна даюцца за год, а не за частку года.

6. Усе лічбавыя і іншыя фактычныя паказчыкі даюцца па першакрыніцах (статыстычныя даведнікі, архівы, дакументы, манаграфіі і г.д.). Гэта адносіцца да гістарычных фактаў і іх храналогіі, да бібліяграфіі, да лічбавых статыстычных звестак, якія характарызуюць прыроду, насельніцтва, эканоміку, дзяржаўны лад, да біяграфіі і інш. Аўтар і рэдактар абавязаны на палях рукапісу назваць крыніцы выкарыстанага імі фактычнага

матэрыялу, рэдактар — старанна праверыць дакладнасць пададзеных аўтарам звестак.

7. Статыстычныя звесткі, што датычаць адной і той жа з'явы, якая трактуецца ў розных частках аднаго артыкула (напр., тэрыторыя краіны, сума зямельных угоддзяў) ці ў некалькіх узаемазвязаных артыкулах (напр., звесткі пра колькасць насельніцтва горада ў артыкуле пра краіну і ў артыкуле пра гэты горад), павінны быць ідэнтычныя. Ва ўсіх выпадках магчымае разыходжанне звестак павінна быць апраўдана і чытачу павінны быць зразумелыя прычыны гэтага (розныя метады ўліку, выкарыстанне пазнейшых ці ўдакладненых звестак, канчатковых замест папярэдніх і г.д.). Калі ўзнікае неабходнасць выкарыстаць у артыкуле прыблізныя звесткі, то робіцца адпаведная агаворка. Калі прыводзяцца ўдакладненыя звесткі, якія розняцца з прыведзенымі ў папярэдніх тамах, гэта таксама паясняецца ў дужках («паводле апошніх звестак», «паводле ўдакладненых звестак»), («паводле іншых крыніц»).

8. Артыкул можа быць насычаны статыстычнымі табліцамі.

Пры складанні статыстычных табліц неабходна:

а) каб кожная табліца мела адпаведную зместу назву (загаловак); калі ў артыкуле даецца некалькі табліц, кожная з іх нумаруецца;

б) абавязкова даваць адсылку на табліцы ў тэксце артыкула: «гл. табл.» ці «гл. табл. 1, табл. 2» і г.д.;

в) калі ўсе лічбы, якія даюцца ў табліцы, адносяцца да аднаго перыяду (года і да т.п.) і маюць аднолькавую адзінку вымярэння, паказваць гэта ў загалоўку табліцы;

г) развіццё з'явы, якое ілюструецца шэрагам лічбаў у табліцы ці ў тэксце артыкула, даваць на пераломных датах;

д) не дапускаць занадта вялікіх табліц за кошт уключэння ў іх другарадных і малазначных звестак;

е) гарызантальныя рады лічбаў у табліцах павінны быць дадзены ў кожнай вертыкальнай графе. Калі з'ява для той ці іншай графы адсутнічае і звесткі пра яе вымяраюцца менш як палавінай прынятай для табліцы адзінкі вымярэння, у адпаведнай графе прастаўляецца знак«—» (працяжнік); калі звесткі пра з'яву на пэўную дату адсутнічаюць, у адпаведнай графе ставіцца знак«...» (тры кропкі);

ж) статыстычныя табліцы суправаджаюць у тэксце артыкула вывадамі, якія апіраюцца на матэрыял табліц, але не падмяняюць гэтыя вывады пераказам у тэксце зместу табліц;

з) пазбягаць паўтарэння ў тэксце тых лічбаў, якія прыводзяцца ў табліцах. Аднак, апіраючыся на прыведзеныя ў

табліцах абсалютныя лічбы, дапушчальна карыстацца ў тэксце адноснымі данымі (напр., працэнт росту, шчыльнасць і да т.п.), якія ілюструюць сцвярджэнне аўтара.

**9.** Адно з найважнейшых патрабаванняў да ўсіх артыкулаў — іх максімальная сувязь з Беларуссю. Напрыклад, у артыкуле пра галіну народнай гаспадаркі (машынабудаванне, жывёлагадоўля і г.д.) побач з агульнымі звесткамі абавязкова павінны быць звесткі пра развіццё гэтай галіны на Беларусі. Характарызуючы дзеяча ці арганізацыю, трэба імкнуцца асвятляць іх сувязь з дзеячамі ці адпаведнымі арганізацыямі Беларусі. У артыкулах, прысвечаных найбольш важным навуковым праблемам, трэба паказваць беларускіх вучоных, якія працавалі ці працуюць над тымі ж праблемамі. У бібліяграфіі да артыкулаў побач з іншымі крыніцамі прыводзяцца працы, выкананыя ці выдадзеныя на Беларусі.

**10.** Неабходна мець на ўвазе, што кожны асобны энцыклапедычны артыкул уваходзіць у агульны тэматычны комплекс па пэўнай навуковай дысцыпліне ці па пэўных пытаннях, таму ён павінен знаходзіцца ва ўзаемасувязі з іншымі артыкуламі гэтага і сумежных комплексаў. Інфармацыя ў артыкулах не павінна паўтарацца. Узаемасувязь артыкулаў ажыццяўляецца як тэматычна, так і з дапамогай сістэмы спасылак.

**11.** Цытаты даюцца ў выключных выпадках, калі яны маюць прынцыповае значэнне для асвятлення пытання і павышаюць даведачную вартасць артыкула. Ужываць многа цытат, вялікага аб'ёму і цытаты без двукосся не дазваляецца.

**12.** Артыкулы, як правіла, павінны суправаджацца бібліяграфіяй, арганічна звязанай з іх зместам. (Пра парадак адбору і афармленне бібліяграфіі гл. раздзел «Бібліяграфія».)

**13.** Для павышэння даведачнасці і інфармацыйнасці артыкулаў рэкамендуецца асвятляць у іх пытанні практычнага выкарыстання асобных галін ведаў, раздзелаў навук і тэорый, якім прысвечаны артыкулы.

**14.** Для большай даведачнасці і пазнавальнага значэння матэрыялаў рэкамендуецца ў шэрагу артыкулаў гістарычнага, геаграфічнага і іншага характару, тэматыка якіх знайшла яркае ўвасабленне ў выдатных творах літаратуры і мастацтва, прыводзіць у канцы артыкула [перад прыартыкульнай (падтэкставай) бібліяграфіяй] кароткія даведкі пра найбольш значныя творы сусветнай літаратуры і мастацтва, тэматычна звязаныя са зместам артыкула. Тэкст такіх дадаткаў да артыкула рыхтуе галіновая рэдакцыя, адказная за артыкул; тэкст дадатку пры

неабходнасці даецца на сумежнае чытанне і рэдагаванне адпаведнай спецыяльнай рэдакцыі ці рэдакцыям.

П р ы к л а д:

У артыкуле «Вайна 1812» сказаць пра адлюстраванне падзей гэтай вайны ў рамане Л.М.Талстога «Вайна і мір».

## ТЫПЫ АРТЫКУЛАЎ

1. Асноўны тып у БелЭн складаюць артыкулы, прысвечаныя раскрыццю аднаго паняцця (катэгорыі) навук ці некалькіх блізкіх па тэме паняццяў (катэгорый), паказу адной з'явы, падзеі ці некалькіх аднолькавых па характары з'яў і падзей. Такія артыкулы ў адрозненне ад іншых можна назваць тэматычнымі. Іх рыхтуюць навукова-галіновыя рэдакцыі.

2. У многіх артыкулах ёсць раздзелы, якія адносяцца да розных навукова-галіновых рэдакцый. Такія артыкулы называюцца комплекснымі. Да іх належаць артыкулы пра краіны, гарады і інш. У складанні комплексных артыкулаў удзельнічае некалькі рэдакцый (кожная па сваім профілі).

3. Артыкулы, якія аб'ядноўваюць некалькі паняццяў, абазначаных аднайменна, называюцца куставымі. Куставанне артыкулаў дапускаецца звычайна ў тых выпадках, калі даюцца кароткія тлумачэнні тэрмінаў. Куставыя артыкулы рыхтуе адна ці некалькі рэдакцый.

4. Дазваляецца аб'ядноўваць на ўзор куставых артыкулы пра дзеячаў навукі, культуры і інш., якія належаць да адной сям'і (роду), у тых выпадках, калі некалькі прадстаўнікоў гэтай сям'і (роду) працавалі (працуюць) у адной ці блізкіх галінах.

П р ы к л а д:

**БЫЧКО́ВЫ**, удзельнікі рэв. руху 1870—80-х г., браты.

У л а д з і м і р І в а н а в і ч (1861, Горкі Магілёўскай вобл. — 18.8.1883)...

Я ў г е н І в а н а в і ч (1858, Горкі Магілёўскай вобл. — ?)...

А л я к с а н д р І в а н а в і ч (1862, Кіеўская вобл. — 27.9.1925)...

5. Калі артыкул прысвечаны адной тэме, але для больш поўнага асвятлення пытанняў патрэбны ўдзел розных спецыялістаў, то такі артыкул называецца агульным, яго рыхтуе адна рэдакцыя, а асобныя часткі могуць рыхтаваць рэдакцыі па спецыяльнасці. Напрыклад, артыкул «Каліноўскі Кастусь» рыхтуе рэдакцыя гісторыі Беларусі, але ў яго ўваходзяць і матэ-

рыялы пра літаратурную і грамадска-філасофскую дзейнасць, якія могуць рыхтаваць рэдакцыі літаратуры і філасофіі.

## ТЫПІЗАЦЫЯ ПЛАНАЎ АРТЫКУЛАЎ

1. Артыкулы ў энцыклапедыі пішуцца паводле тыпізаваных планаў. Гэта памагае больш дакладна адбіраць інфармацыю, павышае даведачнасць выдання пры мінімальных аб'ёмах артыкулаў і палягчае чытачу пошук патрэбных матэрыялаў.

2. На аснове тыпізаваных планаў навукова-галіновая рэдакцыя распрацоўвае схемы артыкулаў, якія потым выкарыстоўвае ў рабоце.

3. Для унікальных артыкулаў навукова-галіновыя рэдакцыі разам з аўтарамі выпрацоўваюць індывідуальныя планы, у якіх павінны дакладна ўлічвацца ўсе патрабаванні да адбору энцыклапедычнай інфармацыі.

4. Тыпавыя планы і ўзоры артыкулаў не павінны скоўваць ініцыятывы спецыялістаў — аўтараў і кансультантаў, прапановы якіх старанна вывучаюцца і могуць весці да змены планаў артыкулаў у канчатковай рэдакцыі.

# V. ПЛАНЫ І ПАТРАБАВАННІ ДА ЗМЕСТУ БІЯГРАФІЧНЫХ АРТЫКУЛАЎ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Змест значнай колькасці біяграфічных артыкулаў і іх структурная схема павінны ўключаць:

а) асноўныя факты, якія характарызуюць біяграфію дзеяча (поўны паслужны спіс асобы не даецца);

б) факты, якія характарызуюць творчы бок яго дзейнасці;

в) сціслую характарыстыку асаблівасцей і вынікаў яго дзейнасці, у неабходных выпадках — з яе ацэнкай;

г) калі дзеяч беларускі — яго месца ў гісторыі беларускага народа, у развіцці навукі, культуры і мастацтва Беларусі; яго сувязь з сацыяльным жыццём, культурай, літаратурай і выдатнымі дзеячамі іншых народаў; калі дзеяч не беларускі — сувязь з Беларуссю, яе гісторыяй, культурай, навукай, літаратурай ці яе выдатнымі дзеячамі.

2) У невялікіх артыкулах слоўнікавага памеру характарыстыка (ацэнка) можа быць абмежавана адной фразай або зусім адсутнічаць (калі даведачны матэрыял, выкладзены ў артыкуле, можа падвесці чытача да агульнай ацэнкі гэтай асобы).

3) Агульным вызначэннем дзеяча з´яўляюцца словы: «дзяржаўны дзеяч», «грамадскі дзеяч», «ваенны дзеяч», «іспанскі паэт», «скульптар», «вучоны ў галіне гідрадынамікі», «беларускі пісьменнік», «адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобласці ў Вялікую Айчынную вайну» і г.д.

4. У біяграфічных артыкулах паказваецца месца нараджэння дзеяча. Месца смерці адзначаецца толькі ў тых выпадках, калі смерць адбылася пры якіх-небудзь асаблівых абставінах ці калі гэтыя звесткі памагаюць раскрыць біяграфію асобы. Такая інфармацыя даецца звычайна ў тэксце артыкула.

5. Дата нараджэння, дата смерці ва ўсіх артыкулах даюцца звычайна з паказам дня, месяца і года, выключэнні могуць быць толькі пры адсутнасці дакладных звестак.

6. Звычайна даюцца звесткі пра адукацыю. Указанне на тое, чыім вучнем з'яўляецца асоба (вучоны, мастак, музыкант), робіцца пры ўмове, калі настаўнікам быў выдатны дзеяч, заснавальнік навуковай ці мастацкай школы.

Тэмы доктарскіх ці магістарскіх дысертацый называюцца ў артыкулах пра дзеячаў ці ў бібліяграфіі толькі ў тых выпадках, калі дысертацыя з'явілася выдатным укладам у навуку.

7. Каб захаваць правільныя суадносіны аб'ёму артыкулаў пра дзеячаў розных галін і спецыяльнасцей, прыкладна аднолькавых па сваім значэнні і гістарычных маштабах, неабходна групаваць артыкулы па памерах.

Усе біяграфічныя артыкулы паводле памераў могуць быць падзелены на 4 групы. Падзел на групы ўмоўны, але памагае супастаўляць біяграфічныя артыкулы розных галіновых рэдакцый і кантраляваць іх адпаведнасць прынятым у БелЭн схемам.

Першая група — найбольшыя артыкулы. Яна ўключае артыкулы пра карыфеяў навукі і мастацтва ўсіх часоў і народаў, такіх, як Леанарда да Вінчы, У.Шэкспір, Л.Бетховен, Я.Колас, Я.Купала, М.В.Ламаносаў, А.С.Пушкін, Л.М.Талстой і інш.

Другая група — вялікія артыкулы. Яна ўключае артыкулы пра выдатных палітычных дзеячаў, вучоных, дзеячаў літаратуры, мастацтва.

Трэцяя група — сярэднія артыкулы. Яна ўключае артыкулы пра вядомых палітычных дзеячаў, вучоных, дзеячаў культуры, якія зрабілі істотны ўклад у вырашэнне навуковых праблем, тэхнічных задач або стварылі значныя творы літаратуры, мастацтва і г.д.

Чацвёртая група — невялікія артыкулы слоўнікавага памеру. Яна ўключае асноўную колькасць біяграфічных даведак пра дзяржаўных, палітычных, ваенных дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, архітэктараў, спартсменаў і інш.

8. Агульны план вялікіх біяграфічных артыкулаў (першай і другой групы) з некаторымі скарачэннямі можа быць выкарыстаны для сярэдніх артыкулаў (трэцяй групы). Агульны план кароткага артыкула (чацвёртай групы) — для малых артыкулаў слоўнікавага памеру.

## ЗВАННІ І ВУЧОНЫЯ СТУПЕНІ

1. У біяграфічных артыкулах пра дзеячаў указваюцца наступныя ганаровыя званні, вышэйшыя вучоныя ступені і званні, артыстычныя, ваенныя, спартыўныя і некаторыя іншыя званні:

а) народны артыст, народны мастак, народны архітэктар, народны паэт;

б) акадэмік АН, член-карэспандэнт АН, правадзейны член (акадэмік) галіновай АН;

в) маршал, маршал роду войск, генерал арміі, адмірал флоту, генерал-палкоўнік, генерал-лэйтэнант;

г) Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы;

д) заслужаны дзеяч навукі (навукі і тэхнікі), заслужаны дзеяч мастацтваў, заслужаны артыст і да т.п., а таксама заслужаны майстар спорту, міжнародны гросмайстар, гросмайстар (па шахматах і шашках).

2. У артыкулах пра выдатных дзеячаў навукі, культуры і грамадска-палітычных дзеячаў могуць быць паказаны некаторыя вышэйшыя ганаровыя званні замежных краін ці міжнародных арганізацый, напрыклад: «ганаровы член» ці «член акадэміі», «ганаровы прафесар універсітэта».

3. Званне і вучоная ступень дзеяча прыводзяцца ў дэфініцыі ці пасля яе, адразу за паказам галіны дзейнасці. Прычым паказваюцца не ўсе званні і вучоныя ступені, якія былі прысвоены гэтай асобе, а толькі найвышэйшыя. Напрыклад, калі ёсць званне акадэміка ці члена-карэспандэнта, ступені і званні доктар навук, прафесар не паказваюцца. Для дзеячаў Беларусі даюцца ўсе званні і вучоныя ступені — доктар, прафесар.

4. У артыкулах пра акадэмікаў (правадзейных членаў) АН звесткі пра акадэмічныя званні і гады іх прысваення даюцца так: «акад. АН Беларусі (1958, чл.-кар. 1950)».

5. У тэксце артыкулаў пра акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў слова «прафесар» можна пісаць, калі яно азначае пасаду, якую займаў дзеяч навукі ў пэўны перыяд ці займае яе да гэтага часу.

6. Усе звесткі пра вучоныя ступені і званні (у тым ліку ваенныя) даюцца з датамі (паказваецца год прысваення).

7. У артыкулах пра замежных дзеячаў паказваецца, як правіла, толькі членства ў нацыянальных акадэміях ці ў адпаведных ім навуковых установах, напрыклад у Лонданскім каралеўскім таварыстве. Называюцца таксама вышэйшыя ганаровыя званні краін. У артыкулах пра замежных ваенных дзеячаў

паказваецца іх вышэйшае вайсковае званне, напрыклад: маршал, генерал-фельдмаршал і г.д.

8. У біяграфічных артыкулах пра рускіх дарэвалюцыйных акадэмікаў і ў артыкулах, дзе акадэмікі ўпамінаюцца ў сувязі з адкрыццямі і вынаходствамі, захоўваюцца тыя ж прынцыпы і пішацца адпаведна: «чл. Пецярбургскай АН».

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА Ў БІЯГРАФІЧНЫХ АРТЫКУЛАХ

1. У дэфініцыях артыкулаў пра дзеячаў, як правіла, паказваецца дзяржаўная, а не нацыянальная прыналежнасць. У артыкулах пра дзеячаў б. СССР дзяржаўная прыналежнасць можа вызначацца словам «савецкі».

Нацыянальная характарыстыка даецца ў дэфініцыях артыкулаў пра дзеячаў мастацтва і літаратуры. Адпаведна ў дэфініцыях трэба пісаць: «беларускі пісьменнік», «украінскі акцёр», «латышская спявачка» і г.д.

2. Калі творчая дзейнасць асобы праходзіць на дзвюх ці больш мовах, то гэта паказваецца ў дэфініцыі, напрыклад: «аварскі пісьменнік, піша таксама на рускай мове».

3. Калі дзейнасць вучоных, кампазітараў, мастакоў і інш. праходзіла не толькі ва ўласнай краіне, але і на тэрыторыі іншых дзяржаў або іх мастацкая творчасць належыць не адной нацыянальнай культуры, трэба адлюстраваць гэта ў дэфініцыі (напрыклад, «беларускі і ўкраінскі мастак»; «грузінскі і рускі акцёр» і інш.).

4. У артыкулах пра асобу, якая нарадзілася за межамі Беларусі, але доўга тут жыве (жыла) і працуе (працавала), можа давацца дзяржаўная прыналежнасць «беларускі», вызначэнне такога дзеяча можна даваць і так: «мастак», «гісторык», «вучоны ў галіне хіміі».

5. У артыкулах пра замежных дзеячаў у некаторых выпадках, акрамя ўказання дзяржаўнай прыналежнасці, даюцца звесткі пра нацыянальнае паходжанне: **РАСТРЭЛІ** Варфаламей Варфаламеевіч (1700—71), рускі архітэктар. Па паходжанні італьянец.

## ПРЭМІІ (ЛАЎРЭАЦТВА)

1. Звесткі аб прэміях даюцца або ў канцы артыкула, або ў тэксце разам з творамі, адкрыццямі і г.д., за якія прысуджаны прэміі.

2. Звесткі аб прэміях датуюцца (год прысуджэння прэміі).

3. Дзеля эканоміі месца слова «лаўрэат» не пішацца, а даецца толькі скарочаная назва прэміі, напрыклад: «Дзярж. прэмія Беларусі 1980».

4. Нельга пісаць: «Кніга (твор, праца і г.д.) вучонага ўдастоена ... прэміі». Трэба пісаць: «... прэмія за кнігу (твор, працу і г.д.)» або: назва твора (Дзяржаўная прэмія Беларусі 1990).

5. У біяграфічных артыкулах прыводзяцца звесткі аб прысуджэнні наступных прэмій:

а) Дзяржаўнай прэміі Беларусі;

б) вышэйшых прэмій у замежных краінах (даецца сучасная назва дзяржавы);

в) міжнародных прэмій: Нобелеўская прэмія і г.д.;

г) прэмій б. СССР: Ленінскай прэміі, Дзяржаўных прэмій СССР, вышэйшых прэмій б. саюзных рэспублік;

д) найважнейшыя прэміі ў дарэвалюцыйнай Расіі;

е) не называюцца прэміі (узнагароды), атрыманыя на Сусветных фестывалях моладзі і студэнтаў.

## ТЫТУЛЫ

1. У артыкулах пра дзеячаў культуры тытул даецца толькі ў тых выпадках, калі гэта характарызуе які-небудзь істотны бок іх біяграфіі і прыводзіцца ў тэксце артыкула, а не ў дэфініцыі. Напрыклад, у артыкуле пра Байрана разам з біяграфічнымі звесткамі трэба сказаць, што ён атрымаў у спадчыну тытул лорда і таму быў членам палаты лордаў. У артыкуле пра Л.М.Талстога ўпамінанне пра спадчынны графскі тытул даецца пры выкладанні біяграфіі.

2. У артыкулах пра дзеячаў, якія не мелі спадчыннага тытула, але атрымалі яго за пэўныя заслугі, упамінанне пра тытул даецца ў адпаведных месцах тэксту, дзе выкладаюцца асноўныя біяграфічныя звесткі і паказваецца, якія адзнакі і ў сувязі з чым атрымаў гэты дзеяч.

## УЗНАГАРОДЫ

Звесткі пра ўзнагароды дзеячаў ордэнамі і медалямі не даюцца.

Даюцца медалі: Ф.Скарыны, прысуджаныя Акадэміяй навук б. СССР і інш.

У неабходных выпадках паказваецца, за што прысуджаны медаль.

## ДЭПУТАЦТВА

У артыкулах пра дзеячаў Беларусі даюцца звычайна звесткі пра дэпутацтва ў Вярхоўным Савеце рэспублікі з указаннем гадоў. Гэтыя звесткі змяшчаюцца, як правіла, у канцы тэксту артыкула, перад звесткамі аб прэміях.

У артыкулах пра замежных дзеячаў разам са звесткамі пра палітычную і грамадскую дзейнасць можа быць указана членства ў парламентах.

## ДАТЫ

Даты нараджэння і смерці дзеяча даюцца ў новым каляндарным стылі.

## МЕСЦА НАРАДЖЭННЯ

1. Месца нараджэння дзеяча даецца па існуючым на час падрыхтоўкі артыкула адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле.

2. У артыкулах пра дзеячаў, якія нарадзіліся на Беларусі, называецца горад (вёска), раён, вобласць.

3. У артыкулах пра дзеячаў Украіны, Расіі называецца горад (вёска), раён, вобласць, рэспубліка (у складзе Расійскай Федэрацыі, але без пазначэння апошняй).

4. У артыкулах пра замежных дзеячаў пры месцы нараджэння абавязкова пазначаецца адміністрацыйны статус гэтага населенага пункта (горад, вёска) і краіна.

## УВЕКАВЕЧАННЕ ПАМЯЦІ

У артыкулах пра беларускіх дзеячаў называюцца музеі (калі яны ёсць), помнікі (месца, дзе яны пастаўлены).

## АГУЛЬНЫЯ ТЫПАВЫЯ ПЛАНЫ БІЯГРАФІЧНЫХ АРТЫКУЛАЎ

У тыпавыя планы вялікага і малога біяграфічных артыкулаў, а таксама ў планы артыкулаў пра дзеячаў розных галін ведаў закладзены максімальны аб'ём інфармацыі, які можа прысутнічаць у артыкуле. Улічваючы дзейнасць канкрэтнай асобы, пра якую ідзе артыкул, і вызначаны слоўнікам памер артыкула, рэдактар павінен творча карыстацца гэтымі планамі.

## АГУЛЬНЫ ПЛАН ВЯЛІКАГА БІЯГРАФІЧНАГА АРТЫКУЛА

1. Прозвішча, імя і імя па бацьку; псеўданім (ці псеўданімы).

З а ў в а г і. Артыкулы пра старажытных ці сярэдневяковых дзеячаў, а таксама артыкулы пра манархаў і рэлігійных дзеячаў даюцца на імя дзеяча.

У артыкулах пра замежных дзеячаў (калі адпаведная мова карыстаецца лацінскай графікай), даецца і арыгінальнае напісанне прозвішча ці імя.

Калі назва артыкула — псеўданім (літаратурны, артыстычны, партыйны і інш.), то ўслед за назвай артыкула паказваюцца сапраўднае прозвішча дзеяча, імя і імя па бацьку.

Прозвішча ад імя коскай не аддзяляецца.

2. Дата (дзень, месяц, год) нараджэння і смерці. Гл. раздзел «Даты».

3. Месца нараджэння, у некаторых выпадках таксама месца і дата пахавання. У залежнасці ад матэрыялу месца нараджэння і месца смерці можа быць паказана пры падачы біяграфічных звестак.

З а ў в а г а. Месца нараджэння і смерці (горад, вёска, раён, вобласць, рэспубліка, дзяржава) паказваецца паводле сучаснага адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу.

4. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць, у некаторых выпадках і нацыянальнасць; асноўная галіна дзейнасці (прафесія, род заняткаў, спецыяльнасць); вышэйшае званне ці вучоная ступень (паказваецца год прысваення).

У асобных выпадках у дэфініцыі можа быць і больш разгорнутая характарыстыка дзеяча, а менавіта — пасля ўказання навуковай ці іншай спецыяльнасці яго даецца сціслая фармулёўка асноўнага ўкладу, зробленага ў адпаведнай галіне. Напрыклад, пра дацкага вучонага Н.Бора: «фізік, стваральнік тэорыі атама, адзін з пачынальнікаў квантавай механікі».

5. Прыналежнасць да партыі (для дзеячаў партый); калі трэба, паказваецца год уступлення ў партыю.

6. Сацыяльнае паходжанне, як правіла, не даецца.

7. Дзе і калі атрымаў спецыяльную адукацыю; чым вучнем ці прадаўжальнікам з'яўляецца (у неабходных выпадках).

З а ў в а г а. Калі гэта важна для біяграфічнай характарыстыкі дзеяча, можна даваць і звесткі пра сярэднюю адукацыю.

8. Звесткі пра настаўнікаў даюцца толькі ў тых выпадках, калі настаўнік — заснавальнік новай школы, мастацкага кірунку і г.д. — зрабіў значны ўплыў на свайго вучня.

9. Найбольш важныя факты асабістай біяграфіі з пачатку самастойнай работы і да канца жыцця.

Заўвага. Даюцца звесткі, дзе (у якім горадзе ці гарадах) жыў і працаваў дзеяч, якую навуковую, палітычную, педагагічную ці іншую работу вёў, асноўныя пасады і г.д. Усе звесткі даюцца з датамі. У некаторых артыкулах мэтазгодна даць (сцісла) характарыстыку грамадска-палітычнага, часам сямейнага асяроддзя, у якім праходзіла дзейнасць гэтай асобы. У артыкулах пра дзеячаў навукі і мастацтва магчымы дваякі спосаб размеркавання фактычнага матэрыялу: спачатку даюцца асноўныя факты біяграфіі, а потым больш падрабязная характарыстыка творчай дзейнасці ці ўвесь матэрыял выкладаецца ў храналагічнай паслядоўнасці.

10. Асноўныя навуковыя працы, тэорыі, адкрыцці і вынаходствы; буйныя ўдасканаленні ў галіне вытворчасці, будаўніцтва, ваеннай справы і інш.; самыя важныя творы літаратуры, мастацтва і г.д., створаныя гэтай асобай (усе звесткі датуюцца і, як правіла, даецца кароткая характарыстыка).

Заўвага. У тэксце робяцца спасылкі на іншыя артыкулы энцыклапедыі, у якіх больш падрабязна апісваюцца вучэнні, тэорыі, законы, машыны, прылады і г.д., створаныя, адкрытыя ці развітыя гэтым дзеячам.

11. Дзяржаўная, партыйная і грамадская дзейнасць: дэпутацтва ў вышэйшых прадстаўнічы органах, кіраўнічая работа ў вышэйшых дзяржаўных, партыйных, прафсаюзных і іншых грамадскіх арганізацыях, у т.л. міжнародных.

Заўвага. Звесткі пра дэпутацтва даюцца ў заключнай частцы артыкула. Акрамя слоў «дэпутат Вярхоўнага Савета...» трэба паказваць гады.

12. Прэміі, у т.л. міжнародныя. Звесткі аб прэміях даюцца звычайна ў заключнай частцы артыкула. Калі прэмія адносіцца да пэўнага твора, адкрыцця і г.д., звесткі аб прэміях даюцца ў тэксце артыкула, непасрэдна пасля назвы твора, за які прысуджана прэмія.

13. Бібліяграфія: а) творы гэтай асобы (акрамя названых у тэксце артыкула); б) літаратура пра дзеяча.

## АГУЛЬНЫ ПЛАН НЕВЯЛІКАГА БІЯГРАФІЧНАГА АРТЫКУЛА

1. Прозвішча, імя і імя па бацьку, псеўданім (ці псеўданімы).

2. У артыкулах пра замежных дзеячаў даецца і арыгінальнае напісанне прозвішча ці імя. Дата і месца нараджэння, дата смерці (месца смерці звычайна не паказваецца).

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць, у неабходных выпадках і нацыянальнасць; асноўная галіна дзейнасці (прафесія, род заняткаў, спецыяльнасць); вышэйшае званне ці навуковая ступень (з годам прысваення).

4. Адукацыя.

5. Пры неабходнасці коратка пра дзейнасць (дзяржаўную, навуковую, партыйную і г.д.).

6. Кароткая характарыстыка асноўнага ўкладу, які зрабіў дзеяч у адпаведную галіну навукі, тэхнікі, мастацтва, грамадска-палітычнага жыцця; галоўная друкаваная праца (працы), адкрыццё ці вынаходства.

7. Прэміі, у т.л. міжнародныя (з годам прысваення).

8. Бібліяграфія: творы і літаратура (пры наяўнасці).

## ПЛАНЫ БІЯГРАФІЧНЫХ АРТЫКУЛАЎ ПРА РОЗНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

### АРТЫКУЛ ПРА ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАГА І ПАРТЫЙНАГА ДЗЕЯЧА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку, партыйныя і літаратурныя псеўданімы.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя. Вышэйшыя званні і ступені.

4. Адукацыя.

5. Партыйная прыналежнасць (пры неабходнасці).

6. Кароткія звесткі пра асноўныя этапы грамадска-палітычнай дзейнасці.

7. Выбранне ў вышэйшыя партыйныя, камсамольскія, прафсаюзныя і дзяржаўныя органы, (Вярхоўны Савет СССР, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь), для дарэвалюцыйных дзеячаў — членства ў Дзяржаўнай думе.

8. Прэміі, у т.л. і міжнародныя (з годам прысваення).

9. Бібліяграфія: а) работы гэтай асобы (калі яны маюць грамадскае значэнне); б) літаратура пра дзеяча.

10. Партрэт (у артыкулах пра выдатных дзеячаў).

## АРТЫКУЛ ПРА ВУЧОНАГА Ў ГАЛІНЕ ГРАМАДСКІХ НАВУК

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (у неабходных выпадках — і тое і другое); у якой галіне грамадскіх навук працуе, асноўная спецыяльнасць; ганаровыя званні (самыя важныя); вучоная ступень ці званне (з годам прысваення).

4. Спецыяльная адукацыя.

5. Асноўныя этапы навуковай дзейнасці: важныя пасады ў навукова-даследчых і вышэйшых навучальных установах; галоўныя навуковыя працы; удзел у выдатных экспедыцыях (археалагічных, этнаграфічных, мовазнаўчых і інш.); распрацоўка тэарэтычных праблем і іх практычнае скарыстанне ў розных галінах гаспадаркі і культуры.

6. Да якой навуковай школы (кірунку) належаў ці належыць; ці з'яўляецца стваральнікам новай школы або кірунку.

7. Членства і кіраўнічая работа ў акадэміях і буйных навуковых таварыствах; удзел у найбольш важных айчынных і замежных навуковых з'ездах, канферэнцыях, кангрэсах.

8. Выбранне ў органы дзяржаўнай улады (напр., Вярхоўны Савет Беларусі).

9. Прэміі, у т.л. міжнародныя (з годам прысваення).

10. Бібліяграфія: а) творы вучонага (акрамя названых у тэксце артыкула);

б) літаратура аб ім.

11. Партрэт (у артыкулах пра вялікіх дзеячаў).

## АРТЫКУЛ ПРА ВАЕННАГА ДЗЕЯЧА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку (у артыкулах пра замежных дзеячаў даецца і арыгінальнае напісанне прозвішча).

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (у неабходных выпадках — і тое і другое); асноўная ваенная спецыяльнасць; вышэйшае вайсковае званне і іншыя ганаровыя званні (з годам прысваення).

4. Агульная і спецыяльная ваенная адукацыя. З якога часу ў арміі (або флоце).

5. Асноўныя этапы ваеннай службы: важнейшыя ваенныя пасады, удзел у войнах і кампаніях, навукова-педагагічная і навуковая дзейнасць.

6. Прэміі; у асобных выпадках таксама замежнай краіны (паказваецца год).

7. Бібліяграфія.

## АРТЫКУЛ ПРА ЗАМЕЖНАГА ДЗЯРЖАЎНАГА, ПАЛІТЫЧНАГА ДЗЕЯЧА

1. Прозвішча, імя, псеўданім; даецца і арыгінальнае напісанне прозвішча.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (у неабходных выпадках — і тое і другое); асноўная галіна дзяржаўнай і палітычнай дзейнасці.

4. Кароткія біяграфічныя звесткі: сацыяльнае паходжанне (калі трэба), адукацыя; важнейшыя дзяржаўныя ці грамадскія пасады (паказваецца час, у які яны займаліся); калі гэты дзеяч з'яўляецца ідэолагам грамадскага руху, даецца кароткая характарыстыка яго грамадска-палітычных поглядаў; калі ён стваральнік палітычнай партыі, паказваецца назва партыі і час яе стварэння.

5. Ганаровыя званні, вышэйшыя прэміі, у т.л. міжнародныя (з годам прысваення).

6. Бібліяграфія: а) творы (калі яны маюць грамадскае значэнне ці шырока вядомыя); б) літаратура пра дзеяча.

## АРТЫКУЛ ПРА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВА
### (мастака, музыканта, акцёра і г.д.)

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку; артыстычны псеўданім.

З а ў в а г а . Калі дзеяч мастацтва найбольш вядомы пад артыстычным псеўданімам, то спачатку даецца псеўданім, а потым сапраўднае прозвішча.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (у неабходных выпадках — і тое і другое); галіна мастацтва, у якой працуе; асноўная спецыяльнасць (жанр, амплуа і інш.); ганаровыя званні: народны артыст, народны мастак, народны архітэктар, заслужаны дзеяч мастацтва і г.д. (з годам прысваення).

4. Асноўныя этапы жыццёвага і творчага шляху: агульная і спецыяльная адукацыя; умовы фарміравання таленту; першае публічнае выступленне; работа ў музычных, тэатральных і іншых калектывах; чый вучань ці прадаўжальнік (у неабходных выпадках); да якой школы (кірунку) належаў ці нале-

жыць; ці стварыў сваю школу (кірунак); ці вядзе педагагічную работу ў сваёй галіне мастацтва (могуць быць названы найбольш выдатныя вучні); грамадская дзейнасць (кіраўнічая работа ў творчых саюзах, дэпутацтва і інш.).

Заўвага. Пры характарыстыцы дзейнасці паказваюцца найбольш значныя творчыя дасягненні, лепшыя творы музыкі, выяўленчага мастацтва і архітэктуры, дасягненні музыкантаў-выканаўцаў, лепшыя ролі і партыі і г.д.

5. Прэміі, у т.л. міжнародныя (з годам прысваення).

6. Бібліяграфія: а) творы асобы (акрамя названых у тэксце); б) літаратура пра дзеяча.

## АРТЫКУЛ ПРА ПЕДАГОГА, ДЗЕЯЧА НАРОДНАЙ АСВЕТЫ

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (у неабходных выпадках — і тое і другое); асноўная галіна работы ці спецыяльнасць; ганаровыя званні (важнейшыя); вучоная ступень ці званне (паказваецца год прысваення).

4. Спецыяльная адукацыя.

5. Тэарэтычныя погляды па пытаннях педагогікі; асноўныя этапы педагагічнай і навуковай дзейнасці па спецыяльнасці; кіраўнічая ці арганізацыйная дзейнасць у галіне народнай адукацыі.

6. Асноўныя друкаваныя працы па навукова-педагагічных, метадычных і арганізацыйных пытаннях народнай асветы.

7. Прэміі (паказваецца год).

8. Бібліяграфія: а) найважнейшыя творы гэтай асобы (акрамя названых у артыкуле); б) літаратура пра дзеяча.

## АРТЫКУЛ ПРА ПІСЬМЕННІКА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: да якой літаратуры належыць — па моўнай і дзяржаўнай прыкмеце, напрыклад: «рускі пісьменнік», «канадскі пісьменнік, піша на французскай мове»; часам дастаткова паказаць адну з названых прыкмет, напрыклад: «амерыканскі пісьменнік», «аўстрыйскі пісьменнік», «аўстралійскі пісьменнік», у якой галіне літаратуры працуе; ганаровае званне: народны паэт, заслужаны дзеяч мастацтваў і г.д. (з годам прысваення).

4. Кароткая біяграфічная даведка: агульная і спецыяльная адукацыя; прафесія (калі ў пісьменніка літаратурная творчасць не з´яўляецца адзінай яго прафесіяй) і г.д. У артыкуле пра выдатнага пісьменніка біяграфічная даведка даецца шырэй.

5. З якога года пачаў друкавацца.

6. Ці належыць (або належаў) да таго ці іншага літаратурнага кірунку (школы).

7. Мастацкая характарыстыка творчасці. Асноўныя этапы творчага шляху. Важнейшыя творы і даты іх публікавання (у неабходных выпадках — даты напісання і апублікавання). Грамадская дзейнасць (кіраўнічая работа ў творчых саюзах, дэпутацтва і інш.).

8. Прэміі, у т.л. міжнародныя (паказваецца год).

9. Бібліяграфія: а) важнейшыя творы (акрамя названых у тэксце); б) найбольш значная літаратура пра пісьменніка.

## АРТЫКУЛ ПРА ВУЧОНАГА Ў ГАЛІНЕ ПРЫРОДАЗНАЎСТВА І ТЭХНІКІ

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць; у якой галіне навукі і тэхнікі працуе; асноўная спецыяльнасць; ганаровыя званні, вучоная ступень або званне (год прысваення).

4. Спецыяльная адукацыя.

5. Асноўныя этапы навуковай дзейнасці: вядучыя пасады ў навукова-даследчых, навучальных, канструктарскіх і іншых установах і прадпрыемствах, галоўныя навуковыя працы, тэорыі, адкрыцці, вынаходствы, канструкцыі машын, станкоў, прылад і г.д.

6. Да якой навуковай ці навукова-тэхнічнай школы (кірунку) належаў (ці належыць); ці з´яўляецца стваральнікам новай школы (кірунку).

7. Членства і кіраўнічая праца ў акадэміях і буйнейшых навуковых таварыствах.

8. Прэміі, у т.л. міжнародныя (паказваецца год).

9. Бібліяграфія: а) творы гэтай асобы (акрамя названых у тэксце артыкула); б) літаратура пра дзеяча.

## АРТЫКУЛ ПРА ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.

3. Дэфініцыя.

4. Кароткія біяграфічныя звесткі.
5. Кароткія звесткі пра подзвіг.

## АРТЫКУЛ ПРА СПАРТСМЕНА

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку.
2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.
3. Дэфініцыя: дзяржаўная прыналежнасць ці нацыянальнасць (калі неабходна — і тое і другое); асноўная прафесія; спартыўная спецыяльнасць (спецыяльнасці); вышэйшае спартыўнае званне.
4. Фізкультурная адукацыя.
5. Важнейшыя спартыўныя дасягненні, першыя месцы ў вялікіх айчынных і замежных спаборніцтвах (рэкорды б. СССР, Еўропы, свету, Алімпійскіх гульняў — паказваецца год); педагагічная, трэнерская і навуковая праца ў галіне фізічнай культуры і спорту. Месца працы.
6. Бібліяграфія: а) друкаваныя творы спартсмена, якія маюць навуковае і грамадскае значэнне; б) літаратура пра яго (пры наяўнасці).

## АРТЫКУЛ ПРА МАНАРХА (ПРАВІЦЕЛЯ)

1. Імя (для замежных дзеячаў даецца таксама арыгінальнае напісанне); калі ёсць замацаванае за гэтай асобай іншае імя, яно даецца разрадкай адразу за імем.
2. Дата і месца нараджэння, дата смерці.
3. У якой дзяржаве (ці дзяржавах) правіў (даты праўлення).
4. Да якой дынастыі належаў ці якую дынастыю заснаваў; ад каго атрымаў у спадчыну трон. У неабходных выпадках называюцца бацька і маці манарха.
5. Найважнейшыя падзеі, якія характарызуюць дзейнасць манарха ва ўнутранай і знешняй палітыцы дзяржавы; агульная ацэнка перыяду праўлення гэтага манарха.
6. Кароткая характарыстыка асобы манарха (буйных дзеячаў).
7. Бібліяграфія (у артыкулах пра буйных дзеячаў).

# VI. ПЛАНЫ І ПАТРАБАВАННІ ДА ЗМЕСТУ КОМПЛЕКСНЫХ АРТЫКУЛАЎ

## АРТЫКУЛЫ ПРА ДЗЯРЖАВЫ

### 1-я група

К р а і н ы — ч л е н ы С Н Д:

Азербайджан,
Арменія,
Беларусь,
Грузія,
Казахстан,
Кыргызстан,
Малдова,
Расійская Федэрацыя,
Таджыкістан,
Туркменістан,
Узбекістан,
Украіна.

К р а і н ы - с у с е д з і:

Латвія,
Літва,
Польшча,
Эстонія.

І н ш ы я к р а і н ы:

Вялікабрытанія,
Германія,
ЗША,
Індыя,
Італія,
Кітай,
Францыя,
Японія.

### 2-я група

Аўстрыя,
Балгарыя,
Бельгія,
Грэцыя,
Боснія і Герцагавіна,
Бразілія,
Венгрыя,
В'етнам,
Егіпет,
Ізраіль,
Інданезія,
Іран,
Іспанія,
Канада,
Карэя,
Мексіка,
Нарвегія,
Нідэрланды,
Румынія,
Славакія,
Славенія,
Турцыя,
Фінляндыя,
Чэхія,

Швецыя,

Югаславія.

3-я група

Албанія,
Алжыр,
Аргенціна,
Аўстралія,
Афганістан,
Бангладэш,
Венесуэла,
Данія,
Заір,
Ірландыя,
Куба,
Манголія,
Марока,
Пакістан,
Партугалія,
Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка,
Чылі,
Швейцарыя.

4-я група

Ангола,
Балівія,
Гана,
Ірак,
Ісландыя,
Калумбія,
Камбоджа,
Камерун,
Лаос,
Ліван,
Лівія,
Малайзія,
Малі,
Нігерыя,
Новая Зеландыя,
Парагвай,
Перу,
Сірыя,
Судан,
Тайланд,
Туніс,
Уругвай,
Філіпіны,
Эфіопія.

5-я група

Аб'яднаныя Арабскія Эміраты,
Аман,
Андора,
Антыгуа і Барбуда,
Багамскія астравы,
Барбадас,
Батсвана,
Бахрэйн,
Беліз,
Бенін,
Бермудскія Астравы,
Бруней,
Буркіна-Фасо,
Бурундзі,
Вануату,
Ватыкан,
Габон,
Гаіці,
Гаяна,
Гамбія,
Гандурас,
Ганконг,
Гвадэлупа,
Гватэмала,
Гвінея,
Гвінея-Бісау,
Гібралтар,
Грэнада,
Дамініканская Рэспубліка,
Джыбуці,
Замбія,
Зімбабвэ,
Іарданія,
Йемен,

Каба Вердэ,
Кайманавы Астравы,
Каморскія Астравы,
Катар,
Кенія,
Кергелен,
Кіпр,
Конга,
Коста-Рыка,
Кот д'Івуар,
Кувейт,
Лесота,
Ліберыя,
Ліхтэнштэйн,
Люксембург,
Мадагаскар,
Мазамбік,
Макао,
Македонія,
Малаві,
Мальдыўская Рэспубліка,
Мальта,
Манака,
Марцініка,
Маўрыкій,
Маўрытанія,
М'янма,
Намібія,
Непал,
Нігер,
Нікарагуа,
Новая Каледонія,
Палау,
Панама,
Папуа — Новая Гвінея,
Паўднёвая Карэя,
Пуэрта-Рыка,
Руанда,
Сальвадор,
Самалі,
Самоа,
Сан-Марына,
Сан-Томе і Прынсіпі,
Саудаўская Аравія,
Свазіленд,
Сейшэльскія Астравы,
Сенегал,
Сент-Люсія,
Сінгапур,
Сурынам,
Сьера-Леоне,
Таіці,
Тайвань,
Танзанія,
Тога,
Тонга,
Трынідад і Табага,
Уганда,
Фіджы,
Харватыя,
Цэнтральнаафрыканская Рэспубліка,
Чад,
Шры-Ланка,
Эквадор,
Экватарыяльная Гвінея,
Ямайка.

## АРТЫКУЛ ПРА СУЧАСНУЮ ЗАМЕЖНУЮ ДЗЯРЖАВУ

I. Агульныя звесткі:

а) скарочаная афіцыйная назва дзяржавы ў беларускай транскрыпцыі, праз коску разрадкай поўная афіцыйная назва дзяржавы ў беларускай транскрыпцыі (у дужках арыгінальнае напісанне, калі гэта лацінскі алфавіт ці рускі);

б) геаграфічнае становішча;

в) плошча;

г) колькасць насельніцтва;

д) дзяржаўная мова;

е) рэлігія;

ё) сталіца;

ж) адміністрацыйны падзел;

з) нацыянальнае свята.

II. Д з я р ж а ў н ы л а д

1. Тып дзяржавы, форма праўлення.
2. Дзейная канстытуцыя.
3. Кіраўнік дзяржавы.
4. Вышэйшы орган дзяржаўнай улады.
5. Урад.
6. Мясцовае кіраванне.
7. Судовая сістэма.

III. П р ы р о д а

1. Асаблівасці фізіка-геаграфічнага становішча.
2. Рэльеф.
3. Геалагічная будова.
4. Клімат.
5. Гідраграфія.
6. Расліннасць.
7. Жывёльны свет.

IV. Н а с е л ь н і ц т в а

1. Этнічны склад. Асноўныя мовы.
2. Размяшчэнне насельніцтва; гарадское насельніцтва (%).
3. Вялікія гарады.

V. Г і с т о р ы я

1. Кароткая археалагічная характарыстыка (там, дзе гэта неабходна).

2. Пераказ гісторыі па сацыяльна-эканамічных фармацыях і буйных гістарычных перыядах. Сацыяльна-эканамічнае, палітычнае і грамадскае жыццё выкладаецца комплексна. Нарыс павінен даць усе асноўныя звесткі па гісторыі краіны.

Пры выкладанні матэрыялу ўжываецца сістэма спасылак на самастойныя артыкулы па пытанні, якое асвятляецца. Аднак наяўнасць спецыяльных артыкулаў, прысвечаных найбольш важным падзеям у жыцці краіны, не выключае неабходнасці сціслага пераказу ў гістарычным нарысе асноўнага зместу гэтых падзей.

Прыкладныя суадносіны аб'ёмаў гістарычнага нарыса паміж раздзеламі: на перыяд новай гісторыі — 1/3 аб'ёму, на навейшую гісторыю ад 1/3 да 1/2 аб'ёму.

VI. П а л і т ы ч н ы я п а р т ы і і п р а ф с а ю з ы

1. Палітычныя партыі:

а) пералік асноўных сучасных партый з іх дакладнай назвай (на беларускай мове);

б) дата заснавання; сацыяльны склад і колькасць, дзе гэта магчыма.

2. Прафсаюзы і грамадскія арганізацыі:

а) пералік асноўных прафсаюзных цэнтраў і грамадскіх арганізацый;

б) дата іх заснавання; колькасць членаў; у якія міжнародныя арганізацыі ўваходзяць.

VII. Гаспадарка:

а) канцэнтрацыя вытворчасці і капіталу;

б) эканамічная экспансія (для буйных краін);

в) роля замежнага капіталу ў эканоміцы краіны;

г) цыклічнасць у развіцці эканомікі.

3. Прамысловасць:

а) агульная характарыстыка; структура і асноўныя рысы размяшчэння прамысловасці;

б) здабыўная прамысловасць;

в) электраэнергетыка;

г) апрацоўчая прамысловасць.

4. Сельская гаспадарка:

а) агульная характарыстыка;

б) зямельны фонд і яго выкарыстанне;

в) важнейшыя галіны сельскай гаспадаркі і іх размяшчэнне.

5. Транспарт:

а) чыгункі (агульная даўжыня, працэнт электрыфікаваных чыгунак);

б) унутраныя водныя шляхі;

в) марскі транспарт; найбольш значныя парты;

г) важнейшыя шашэйшыя дарогі (агульная даўжыня дарог; даўжыня дарог з цвёрдым пакрыццём).

6. Знешнія эканамічныя сувязі:

а) аб'ём і структура знешнегандлёвага абароту;

б) гандаль (у т.л. з Рэспублікай Беларусь).

7. Грашовая адзінка.

VIII. Узброеныя сілы

1. Склад і агульная колькасць узброеных сіл.

2. Вышэйшае ваеннае кіраўніцтва.

3. Арганізацыя і віды ўзброеных сіл (склад, колькасць, узбраенне).

IX. Ахова здароўя

1. Арганізацыя аховы здароўя; бюджэтныя сродкі (працэнт ад агульнага бюджэту).

2. Колькасць лячэбных устаноў і ложкаў у іх (і на 10 тыс. жыхароў).

3. Колькасць урачоў (і на 10 тыс. жыхароў), сярэдняга медыцынскага персаналу. Падрыхтоўка кадраў.

4. Дэмаграфічныя паказчыкі (нараджальнасць, смяротнасць, сярэдняя працягласць жыцця, дзіцячая смяротнасць).

5. Асноўныя курорты.

X. Асвета, навуковыя ўстановы

(для дзяржаў 4-й і 5-й гр. — Асвета)

1. Заканадаўства пра абавязковае навучанне. Стан пісьменнасці.

2. Дашкольнае выхаванне; пачатковая школа; сярэдняя школа (колькасць навуч. устаноў і колькасць навучэнцаў у іх).

3. Ніжэйшая і сярэдняя прафесійная адукацыя.

4. Вышэйшая адукацыя. Буйнейшыя ВНУ.

5. Буйнейшыя бібліятэкі, музеі.

XI. Друк, тэлебачанне, радыё

1. Друк:

а) колькасць газет і колькасць часопісаў;

б) пералік асноўных органаў друку ў беларускай транскрыпцыі (у дужках — на мове арыгінала, калі гэта лацінскі ці рускі алфавіт); чый орган.

2. Тэлебачанне і радыё (кароткая даведка пра іх сучасны стан).

XII. Літаратура

1. Вусная народная творчасць. Пісьменнасць.

2. Развіццё літаратуры па перыядах.

XIII. Архітэктура, выяўленчае мастацтва

Асноўныя этапы развіцця архітэктуры, выяўленчага мастацтва. Асноўныя школы, кірункі, выдатныя помнікі, вядучыя майстры.

XIV. Музыка

1. Музычная народная творчасць.

2. Кароткі нарыс развіцця прафесійнай музычнай культуры.

3. Сучасныя музычныя тэатры, калектывы, дзеячы.

XV. Тэатр

1. Вытокі тэатральнага мастацтва.

2. Кароткая гісторыя развіцця нацыянальнага тэатра.

3. Асобныя тэатры, дзеячы.

XVI. Кіно

1. Узнікненне нацыянальнага кіно.

2. Развіццё нацыянальнай кінематаграфіі; лепшыя фільмы; узнагароды на міжнародных фестывалях; вядомыя дзеячы.

XVII. Бібліяграфія

Заўвага. У артыкулах пра краіны неабходна даваць звесткі пра эканамічныя сувязі і навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь.

# VII. ПЛАНЫ І ПАТРАБАВАННІ ДА ЗМЕСТУ АРТЫКУЛАЎ ПА РОЗНЫХ ГАЛІНАХ ВЕДАЎ

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПРА НАВУКУ, ГАЛІНУ ВЕДАЎ, ВАЖНЕЙШЫЯ ТЭОРЫІ І ПРАБЛЕМЫ

### Артыкул пра навуку і галіну ведаў

1. Дэфініцыя: прадмет навукі (навуковай дысцыпліны) і яе месца ў сістэме ведаў.

2. Структура (класіфікацыя) навукі; яе асноўныя галіны і дапаможныя дысцыпліны.

3. Даведка пра развіццё навукі:

а) месца, час і абставіны ўзнікнення;

б) асноўныя этапы гістарычнага развіцця;

в) сучасны стан.

Заўвага. У даведцы паказваюцца вядомыя прадстаўнікі (дзеячы) навукі; важныя тэорыі, вучэнні, кірункі гэтай навукі. Асаблівая ўвага аддаецца гісторыі развіцця навукі ў Беларусі.

4. Галоўныя формы даследавання.

5. Асноўныя сувязі гэтай навукі з іншымі сумежнымі галінамі навуковых ведаў і іх узаемаўплыў.

6. Значэнне навукі для развіцця матэрыяльнай вытворчасці, будаўніцтва, транспарту і іншых галін тэхнікі, эканомікі, культуры, іншых навук.

7. Галоўныя беларускія і замежныя арганізацыі (таварыствы, саюзы, установы і інш.) у гэтай галіне навукі.

8. Галоўныя органы друку (часопісы, перыядычныя зборнікі і інш.) — беларускія, замежныя.

9. Бібліяграфія пра гісторыю навукі і яе сучасны стан. Пажадана літаратура па развіцці навукі на Беларусі (можна называць і часопісныя артыкулы).

### Артыкул пра вучэнне і тэорыю ў галіне прыродазнаўчых і тэхнічных навук

1. Дэфініцыя.
2. Неабходнасць распрацоўкі вучэння, тэорыі.
3. Гістарычная даведка (коратка).
4. Зыходныя палажэнні вучэння, тэорыі, іх эксперыментальнае абгрунтаванне.
5. Важнейшыя паняцці і заканамернасці (растлумачыць на найбольш простых з´явах).
6. З´явы, якія тлумачыць тэорыя. Прадказанні тэорыі.
7. Практычнае дастасаванне.
8. Сувязь з іншымі вучэннямі, тэорыямі.
9. Нявырашаныя праблемы.
10. Бібліяграфія.

### Артыкул пра навуковую і тэхнічную праблему

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка.
3. Значэнне праблемы.
4. Сучасны стан.
5. Перспектывы распрацоўкі праблемы.
6. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА МАСТАЦТВЕ І АРХІТЭКТУРЫ

### Артыкул пра від пластычных мастацтваў

1. Дэфініцыя: спецыфіка і межы гэтага віду; значэнне і сацыяльная функцыя (пазнавальныя задачы), мастацкія магчымасці.
2. Тэхналагічная, тыпалагічная і функцыянальная класіфікацыя яго асноўных формаў і разнавіднасцей, іх прызначэнне.
3. Узнікненне гэтага віду, асноўныя этапы развіцця, іх кароткая характарыстыка, вядучыя майстры, нацыянальныя асаблівасці.
4. Сучаснае развіццё гэтага віду ў Беларусі і замежных краінах; галоўныя кірункі, тэндэнцыі і вядучыя прадстаўнікі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра музыку, тэатр, кіно

1. Дэфініцыя: характэрныя рысы гэтай галіны мастацтва, адрозненне ад сумежных галін.

2. Час і месца ўзнікнення, асноўныя этапы развіцця.

3. Творы, якія вызначылі этапы развіцця гэтай галіны; найбуйнейшыя майстры, якія працавалі ці працуюць у ёй.

4. Сучасны стан галіны мастацтва ў Беларусі і за мяжой; галоўныя кірункі, тэндэнцыі і асобныя прадстаўнікі.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра жанры мастацтва

1. Дэфініцыя: характарыстыка жанру, спецыфіка, разнавіднасць, адрозненне ад сумежных жанраў.

2. Час і месца ўзнікнення; асноўныя этапы развіцця жанру.

3. Найбуйнейшыя прадстаўнікі і творы гэтага жанру.

4. Сучасны стан жанру.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра музей і вялікую пастаянную выстаўку

1. Дэфініцыя: месца знаходжання (правядзення), профіль музея (выстаўкі).

2. Год заснавання ці адкрыцця, у выпадку неабходнасці — умовы заснавання.

3. Характарыстыка асноўнай экспазіцыі музея (выстаўкі).

4. Філіялы музея (выстаўкі).

5. Навуковая, прапагандысцкая і экскурсійная работа (пра буйныя музеі).

6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра музычны інструмент

1. Дэфініцыя: да якой групы інструментаў адносіцца.

2. У якой краіне і калі з'явіўся і атрымаў найбольшае пашырэнне.

3. Строй і дыяпазон.

4. Сфера выкарыстання.

5. З якога матэрыялу (ці матэрыялаў) вырабляецца.

6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра помнік архітэктуры

1. Дэфініцыя: тып збудавання, месца знаходжання, час стварэння, аўтары.

2. Прызначэнне, план, кампазіцыя, памеры, будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы, сінтэз мастацтваў.

3. Мастацкая характарыстыка, месца ў ансамблі, гістарычнае значэнне.

4. Калі неабходна, даецца характарыстыка манументальнага жывапісу, скульптуры і інш.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра стыль (школу, кірунак) мастацтва

1. Дэфініцыя.
2. Кароткая гістарычная даведка.
3. Сацыяльная прырода, умовы фарміравання стылю.
4. Эстэтычныя прынцыпы і іх ацэнка, характарыстыка галоўных асаблівасцей наогул і ў розных відах мастацтва.
5. Вядучыя майстры.
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра танец

1. Дэфініцыя: від танца, нацыянальныя рысы.
2. Час і месца ўзнікнення.
3. Музычная форма.
4. Характар пабудовы танца (у некаторых выпадках).
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра тэатр

1. Дэфініцыя.
2. Час і месца ўзнікнення тэатральнага калектыву.
3. Пад якой назвай (ці назвамі) працаваў.
4. Этапныя працы тэатра і яго вядучыя дзеячы.
5. Склад трупы (на перыяд падрыхтоўкі тома БелЭн); галоўны рэжысёр, галоўны дырыжор, галоўны мастак, акцёры, якія маюць званні, для беларускіх тэатраў — і заслужаных артыстаў.
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра тэрмін музыказнаўства, тэатразнаўства, кіназнаўства і літаратуразнаўства

1. Дэфініцыя: кароткае вызначэнне паняцця (калі неабходна, з этымалагічнай даведкай).

2. Гістарычная даведка пра развіццё паняцця (у вялікіх артыкулах), час і месца ўзнікнення.

3. Месца гэтай з'явы ў сучасным мастацтве.

4. Бібліяграфія (у неабходных выпадках).

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА БІЯЛОГІІ, МЕДЫЦЫНЕ І СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

### Артыкул пра агратэхнічны прыём

1. Дэфініцыя, прызначэнне.
2. Умовы выкарыстання і эфектыўнасць.
3. Значэнне прыёму ў агратэхнічным комплексе.
4. Тэхніка прыёму.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра біялагічную з'яву

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка.
3. Апісанне сутнасці з'явы.
4. Якім арганізмам уласціва.
5. Значэнне для арганізма.
6. Метады даследавання.
7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра біяхімічнае злучэнне

1. Дэфініцыя (рацыянальная хімічная назва, формула).
2. Фізічныя і хімічныя ўласцівасці.
3. Кім і калі ўпершыню вылучана, сінтэзавана.
4. Значэнне для арганізма.
5. Выкарыстанне.
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від жывёл

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Агульны арэал, пашырэнне ў свеце і на Беларусі.
3. Кароткае марфалагічнае апісанне.
4. Экалагічныя звесткі.
5. Практычнае значэнне.
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від раслін

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Кароткае марфалагічнае апісанне.
3. Агульны арэал; арэал у Беларусі.

4. Біялагічныя і экалагічныя звесткі.

5. Практычнае значэнне і выкарыстанне. Карысць, шкода.

6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від сельскагаспадарчых жывёл

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Паходжанне.
3. Марфалагічная характарыстыка (памеры, маса і інш.).
4. Анатама-фізіялагічныя асаблівасці.
5. Працягласць жыцця; узрост племяннога выкарыстання, плоднасць.
6. Прадукцыйнасць: малочная, мясная і інш.
7. Утрыманне, кармленне.
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра пароду сельскагаспадарчых жывёл

1. Дэфініцыя.
2. Месца і час фарміравання.
3. Метады вывядзення.
4. Асаблівасці канстытуцыі, маса, асноўныя памеры.
5. Прадукцыйнасць.
6. Плоднасць.
7. Раянаванне.
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра галіну сельскай гаспадаркі

1. Дэфініцыя.
2. Значэнне для народнай гаспадаркі.
3. Асноўныя вытворчыя кірункі.
4. Кароткая гісторыя і дынаміка развіцця.
5. Найбольш прадукцыйныя сарты сельскагаспадарчых культур і пароды жывёл, іх раянаванне ў Беларусі.
6. Дасягненні навукі і перадавога вопыту; навуковыя ўстановы і перадавыя гаспадаркі.
7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра глебы

1. Дэфініцыя.
2. Паходжанне (генезіс) у сувязі з асаблівасцямі глебаўтваральнага працэсу.
3. Хімічныя і фізічныя ўласцівасці.
4. Класіфікацыя (надтыпы, віды, разнавіднасці).

5. Раёны пашырэння (Беларусь).

6. Агравытворчая характарыстыка.

7. Асноўныя мерапрыемствы па захаванні і павышэнні ўрадлівасці.

8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра групу біяхімічных злучэнняў

1. Дэфініцыя.
2. Якім арганізмам уласцівы, дзе ўтвараюцца і змяшчаюцца.
3. Біялагічнае значэнне.
4. Класіфікацыя.
5. Хімічныя ўласцівасці.
6.Ператварэнні ў арганізмах.
7. Метады даследавання.
8. Практычнае выкарыстанне.
9. Бібліяграфія.

### Артыкул пра групу лекавых рэчываў

1. Дэфініцыя.
2. Асноўныя прадстаўнікі.
3. Фармакалагічнае дзеянне.
4. Паказанні і проціпаказанні ўжывання (у абагульненай форме).
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра лекавы сродак

1. Дэфініцыя (да якой групы належыць паводле лекавага дзеяння).
2. Кароткая хімічная характарыстыка.
3. Механізм дзеяння.
4. Форма і спосаб лекавага ўжывання.
5. Паказанні і проціпаказанні ўжывання (у абагульненай форме).
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра запаведнік

1. Назва.
2. Дэфініцыя.
3. Месца знаходжання і час абвяшчэння дзяржаўным запаведнікам.
4. Гістарычная даведка.
5. Плошча.

6. Рэльеф, гідраграфія, глебы.
7. Клімат.
8. Расліннасць.
9. Жывёльны свет.
10. Каштоўнасць запаведніка для навукі, народнай гаспадаркі і культуры.
11. Бібліяграфія.

### Артыкул пра кармы

1. Дэфініцыя.
2. Крыніцы атрымання.
3. Класіфікацыя.
4. Батанічны і хімічны састаў.
5. Каштоўнасць і ацэнка. Якасць кармоў.
6. Уплыў кармоў на якасць прадукцыі.
7. Захоўванне.
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра курорт

1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Лячэбныя фактары.
4. Паказанні курортнага лячэння.
5. Сезон.
6. Санаторыі, дамы адпачынку, пансіянаты.
7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра медыцынскую ўстанову

1. Дэфініцыя.
2. Форма арганізацыі і метады працы.
3. Спецыялізацыя.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра метады лячэння

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка (калі і хто ўвёў упершыню).
3. Механізм дзеяння.
4. Паказанні.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра орган жывёлы

1. Дэфініцыя.

2. Якім жывёлам уласцівы.
3. Вонкавая і ўнутраная будова органа.
4. Функцыі органа.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра орган расліны

1. Дэфініцыя.
2. Якім раслінам уласцівы.
3. Вонкавая і ўнутраная будова органа.
4. Функцыя органа.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра паталагічны працэс

1. Дэфініцыя.
2. Прычыны ўзнікнення (этыялогія).
3. Спрыяльныя моманты.
4. Механізм развіцця (патагенез).
5. Патолагаанатамічныя звесткі.
6. Патолагафізіялагічныя звесткі.
7. Пры якіх хваробах найчасцей бывае гэты працэс.
8. Меры папярэджання развіцця і метады ліквідацыі працэсу (у абагульненай форме).
9. Бібліяграфія.

### Артыкул пра пустазелле ці паразітную расліну

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Марфалагічная характарыстыка, асаблівасці росту і развіцця; патрабаванні да глебы, клімату.
3. Культуры, якім спадарожнічае пустазелле (або на якіх паразітуе).
4. Раёны найбольшага пашырэння ў Беларусі.
5. Уплыў на ўраджай і якасць прадукцыі.
6. Прафілактыка і меры барацьбы.
7. Карысныя якасці пустазелля (лекавыя, кармавыя і інш.).
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра род і іншую таксанамічную групу жывёл

1. Дэфініцыя.
2. Агульная колькасць відаў (або родаў) і агульны арэал, найбольш пашыраныя віды.
3. Колькасць відаў (або родаў) у Беларусі, пашыранасць у Беларусі.

4. Кароткая марфалагічная характарыстыка.
5. Экалагічныя звесткі.
6. Практычнае значэнне і выкарыстанне.
7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра род і іншую таксанамічную групу раслін

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Агульная колькасць відаў (або родаў), агульны арэал.
3. Найбольш пашыраныя і практычна важныя віды — дзікарослыя і культурныя.
4. Колькасць відаў (або родаў) у Беларусі, арэал Беларусі.
5. Кароткая марфалагічная і біялагічная характарыстыкі.
6. Экалогія (коратка).
7. Практычнае значэнне і ўжыванне. Карысць, шкода.
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра сельскагаспадарчую культуру

1. Дэфініцыя (сінонім, лацінская назва, таксанамічная прыналежнасць).
2. Марфалагічная характарыстыка; асаблівасці росту і развіцця, патрабаванні да клімату, глебы. Паходжанне і раёны вырошчвання ў Беларусі.
3. Кароткая гістарычная даведка.
4. Гаспадарчае значэнне; пасяўныя плошчы і ўраджайнасць у Беларусі.
5. Асноўныя сарты і іх гаспадарчыя ўласцівасці.
6. Спосабы вырошчвання (коратка).
7. Асноўныя шкоднікі і хваробы (без апісання мер барацьбы).
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра таксанамічную катэгорыю

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка.
3. Становішча сярод іншых таксанамічных катэгорый (на якія катэгорыі падзяляецца і ў якія аб'ядноўваецца).
4. Прыклады з заалогіі і батанікі.
5. Бібліяграфія.

## Артыкул пра тканку або клетачную структуру раслін і жывёл

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка пра даследаванне.
3. Якім арганізмам ці тканкам уласціва.
4. Будова і функцыя ў эвалюцыйным аспекце.
5. Бібліяграфія.

## Артыкул пра ўгнаенне

1. Дэфініцыя.
2. Хімічныя і фізічныя ўласцівасці.
3. Агранамічная характарыстыка.
4. Асноўныя прынцыпы найбольш эфектыўнага выкарыстання.
5. Захоўванне.
6. Бібліяграфія.

## Артыкул пра фізіялагічную сістэму

1. Дэфініцыя.
2. Біялагічнае і функцыянальнае значэнне.
3. Характарыстыка сістэмы, якія органы ў яе ўваходзяць.
4. Кароткая анатама-гісталагічная і функцыянальная характарыстыка органаў і тканак, якія ўваходзяць у сістэму.
5. Бібліяграфія.

## Артыкул пра фізіялагічны працэс у жывёл

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка пра вывучэнне працэсу.
3. Якім арганізмам уласцівы працэс.
4. Сутнасць працэсу (механізм, хімізм, рэгуляцыя).
5. Біялагічнае і функцыянальнае значэнне працэсу.
6. Тэорыі, якія паясняюць працэс (іх аўтары, даты).
7. Метады даследавання.
8. Бібліяграфія.

## Артыкул пра фізіялагічны працэс у раслін

1. Дэфініцыя.
2. Гістарычная даведка пра даследаванне.
3. Апісанне сутнасці працэсу.
4. Значэнне для арганізма.
5. Бібліяграфія.

## Артыкул пра хваробу чалавека і жывёл

1. Дэфініцыя.
2. Калі і хто апісаў упершыню.
3. Шляхі заражэння (для інфекцыйных і інвазійных хвароб).
4. Механізм развіцця (патагенез).
5. Клінічная карціна (прыкметы, працягласць, ускладненне).
6. Уклад беларускіх вучоных у вывучэнне хваробы.
7. Лячэнне (для чалавека; у агульнай форме).
8. Прафілактыка.
9. Бібліяграфія.

## Артыкул пра хваробу раслін

1. Дэфініцыя.
2. Якія расліны і іх часткі пашкоджвае, у якой стадыі; раёны пашырэння.
3. Узбуджальнік (беларуская і лацінская назвы).
4. Пераносчык (шляхі пашырэння).
5. Прыкметы хваробы. Дыягназ.
6. Уплыў хваробы на ўраджай і якасць прадукцыі.
7. Меры барацьбы.
8. Прафілактыка; сарты, устойлівыя да хваробы.
9. Бібліяграфія.

## Артыкул пра шкоднікаў сельскагаспадарчых раслін

1. Дэфініцыя (сінонімы, лацінская назва), таксанамічная прыналежнасць.
2. Марфалагічная характарыстыка і біялагічныя асаблівасці.
3. Раёны пашырэння.
4. Якія віды раслін пашкоджвае, у якой стадыі і якія органы.
5. Дыягназ.
6. Меры барацьбы.
7. Сарты раслін, устойлівыя да гэтага шкодніка.
8. Бібліяграфія.

## Артыкул пра ядавітыя расліны

1. Дэфініцыя (таксанамічная прыналежнасць).
2. Марфалагічная характарыстыка і біялогія (коратка).
3. Раёны пашырэння.
4. Ядавітыя часткі расліны, назва і хімічны састаў ядавітага рэчыва.
5. На якіх жывёл шкодна дзейнічае, сімптомы атручэння.

6. Першая дапамога і лячэнне.
7. Меры прафілактыкі атручэнняў.
8. Лекавыя і іншыя карысныя якасці ядавітай расліны.
9. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ЛІТАРАТУРЫ, ФАЛЬКЛОРЫ І МОВЕ

### Артыкул пра літаратурную арганізацыю

1. Дэфініцыя: мэты арганізацыі (у артыкулах пра буйныя арганізацыі — некаторыя палажэнні статута).
2. Год і месца заснавання арганізацыі; для існуючай арганізацыі — год узнікнення.
3. Кароткая характарыстыка і ацэнка дзейнасці; у артыкулах пра буйныя арганізацыі — таксама найважнейшыя, этапныя моманты дзейнасці: з´езды, апублікаванне дэкларацый і інш.
4. Склад удзельнікаў.
5. Бібліяграфія (спецыяльныя працы пра дзейнасць і ролю арганізацыі).

### Артыкул пра літаратурныя кірунак, плынь, школу

1. Дэфініцыя.
2. Час і месца ўзнікнення; сацыяльныя і філасофскія вытокі кірунку.
3. Эстэтычнае і светапогляднае крэда; эвалюцыя кірунку (калі яна мела месца).
4. Роля і значэнне ў гісторыка-літаратурным працэсе.
5. Найбольш значныя прадстаўнікі і іх творы.
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра мову

1. Дэфініцыя: які народ гаворыць на гэтай мове; да якой групы ці сям´і яна адносіцца.
2. Колькасць людзей, якія гавораць на гэтай мове.
3. На якія асноўныя дыялекты падзяляецца.
4. Тэрыторыя пашырэння.
5. Кароткія звесткі пра фанетычны і марфалагічны склад.
6. Кароткія звесткі пра гісторыю (развіццё) літаратурнай мовы.
7. Ці ёсць пісьменнасць на гэтай мове і якая менавіта; калі яна ўзнікла.

8. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ГЕАГРАФІІ І ГЕАЛОГІІ

### Артыкул пра адміністрацыйную адзінку замежнай краіны (правінцыя, штат, ваяводства, зямля, рэспубліка)

1. Дэфініцыя. Агульныя звесткі:

а) афіцыйная назва на беларускай мове і арыгінальнае напісанне;

б) геаграфічнае становішча;

в) насельніцтва (колькасць з паказам года перапісу або ацэнкі, нацыянальны склад паказваецца ў асобных выпадках);

г) адміністрацыйны цэнтр і вялікія гарады (без колькасці жыхароў).

2. Прырода. Агульная характарыстыка.

3. Агульная характарыстыка гаспадаркі; структура і спецыялізацыя гаспадаркі.

4. Прамысловасць: здабыўная і апрацоўчая.

5. Сельская гаспадарка.

6. Шляхі зносін. Парты.

З а ў в а г а. Для адміністрацыйных адзінак з адметнай гісторыяй дазваляецца ўключэнне раздзела гэтай тэматыкі.

### Артыкул пра акіян і мора

А) Варыянт для артыкула на 1000 знакаў і больш

1. Дэфініцыя з паказам класіфікацыйнага тыпу мора і яго месца знаходжання ў Сусветным акіяне.

2. Плошча.

3. Найбольшыя і пераважныя глыбіні.

4. Залівы.

5. Астравы.

6. Вялікія рэкі, якія ўпадаюць у мора.

7. Клімат. Тэмпература і салёнасць вады на паверхні.

8. Лядовы рэжым.

9. Прылівы.

10. Найбольшыя парты.

11. Бібліяграфія.

Б) Варыянт для артыкула на 400—500 знакаў

1. Дэфініцыя з паказам класіфікацыйнага тыпу мора і яго месца знаходжання ў Сусветным акіяне.

2. Плошча.

3. Найбольшая глыбіня.

4. Тэмпература і салёнасць вады на паверхні.
5. Лядовы рэжым.
6. Найбольшыя парты.
7. Бібліяграфія.

## Артыкул пра возера

А) Варыянт для артыкула больш за 1000 знакаў
1. Дэфініцыя.
2. Геаграфічнае становішча.
3. Абсалютная вышыня ўзроўню.
4. Плошча, даўжыня і шырыня. Ваганні памераў (для азёраў засушлівых краін).
5. Найбольшыя і пераважныя глыбіні.
6. Галоўныя рэкі, якія ўпадаюць у возера. Сувязь возера з суседнімі басейнамі (праз рэкі і каналы).
7. Астравы. Асаблівасці берагавой лініі.
8. Характэрныя мясцовыя кліматычныя асаблівасці.
9. Фізіка-хімічныя ўласцівасці вады.
10. Найбольш пашыраныя прадстаўнікі расліннага і жывёльнага свету (пераважна прамысловыя рыбы).
11. Гаспадарчае выкарыстанне.
12. Асноўныя гарады і прыстані.

Б) Варыянт для артыкула да 1000 знакаў
1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Плошча. Глыбіня.
4. Сувязь возера з суседнімі басейнамі (праз рэкі і каналы).
5. Гаспадарчае выкарыстанне.

## Артыкул пра востраў

1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Плошча.
4. Насельніцтва.
5. Дзяржаўная прыналежнасць.
6. Генетычны тып.
7. Рэльеф.
8. Геалагічная будова і карысныя выкапні.
9. Клімат.
10. Найбольшыя гарады.

## Артыкул пра гарадскі і рабочы пасёлак, чыгуначную станцыю, прыстань, вёску Беларусі

1. Назва населенага пункта.
2. Адміністрацыйна-гаспадарчае значэнне.
3. Геаграфічнае становішча.
4. Транспартнае становішча.
5. Колькасць жыхароў (і двароў для вёсак).
6. Найбольш важныя гістарычныя падзеі.
7. Звесткі пра колькасць мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.
8. Прадпрыемствы.
9. Навучальныя і асветныя ўстановы, установы аховы здароўя, бытавыя і інш. арганізацыі.
10. Брацкія магілы савецкіх воінаў і партызанаў, магілы ахвяр фашызму.
11. Гістарычныя, архітэктурныя і скульптурныя помнікі.
12. Звесткі пра выдатных дзеячаў, якія маюць дачыненне да гэтага населенага пункта.

## Артыкул пра горад сучасны (сярэдні і невялікі)

1. Назва ў беларускім арыгінальным напісанні, былая назва.
2. Геаграфічнае становішча.
3. Колькасць насельніцтва.
4. Эканоміка горада. Транспартнае становішча. Галоўныя галіны прамысловасці.
5. Вышэйшыя навучальныя ўстановы, найважнейшыя навуковыя ўстановы, бібліятэкі, музеі, тэатры, тэлецэнтры і інш.
6. Помнікі архітэктуры.
7. Бібліяграфія.

## Артыкул пра горную пароду

1. Дэфініцыя з паказам прыналежнасці да генетычнай групы.
2. Выкарыстанне.
3. Мінералагічны састаў (паказваюцца толькі асноўныя мінералы, якія вызначаюць пароду). Структура і тэкстура (пры неабходнасці). Колер (які найчасцей сустракаецца). Другасныя змяненні. Формы залягання.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра горную сістэму (нагор'е, пласкагор'е і інш.)

1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Працягласць.
4. Асноўныя хрыбты.
5. Максімальныя і пераважныя вышыні.
6. Рэльеф. Генетычныя тыпы рэльефу. Неатэктоніка.
7. Абледзяненне.
8. Геалагічная будова і найважнейшыя карысныя выкапні.
9. Клімат.
10. Рэкі і азёры.
11. Расліннасць.
12. Жывёльны свет.
13. Бібліяграфія.

### Артыкул пра заліў

1. Дэфініцыя з паказам воднага басейна, часткай якога з'яўляецца заліў.
2. Максімальная даўжыня і шырыня.
3. Максімальныя і пераважныя глыбіні.
4. Іншыя неабходныя гідралагічныя звесткі.
5. Парты.

### Артыкул пра мацярык і частку свету

### Агульныя звесткі

1. Дэфініцыя.
2. Геаграфічнае становішча (з паказам крайніх пунктаў), граніцы, берагавая лінія.
3. Памеры (у т.л. плошча астравоў, якія належаць частцы свету). Найважнейшыя астравы.

Прырода

1. Характэрныя рысы рэльефу.
2. Асноўныя рысы геалагічнага развіцця і тэктанічная будова. Карысныя выкапні.
3. Гісторыя фарміравання і тыпы рэльефу.
4. Клімат. Умовы фарміравання. Цеплавы рэжым і ўвільгатненне. Асноўныя тыпы клімату.
5. Унутраныя воды. Асноўныя асаблівасці рачной сеткі. Найбуйнейшыя рэкі. Тып рэжыму, жыўлення і сцёку. Генетычныя тыпы азёраў.

6. Ледавікі.

7. Глебы, іх тыпы і пашырэнне.

8. Раслiннасць. Асноўныя тыпы раслінных фармацый і іх пашырэнне.

9. Жывёльны свет. Характэрныя прадстаўнікі фауны.

10. Прыродныя рэсурсы і галоўныя кірункі іх выкарыстання. Ахова і пераўтварэнне прыроды.

11. Раянаванне (зоны, сектары, індывідуальныя рэгіёны).

12. Гісторыя даследаванняў (да сярэдзіны 20 ст.).

13. Палітычны падзел.

14. Насельніцтва. Дэмаграфічныя і этнаграфічныя звесткі.

15. Бібліяграфія.

### Артыкул пра мінерал

1. Дэфініцыя. Прыналежнасць да групы або класа. Формула (хімічны састаў).

2. Крышталаграфічная сістэма, выгляд крышталяў і іншых вылучэнняў.

3. Фізічныя ўласцівасці (колер, бляск, цвёрдасць, шчыльнасць).

4. Умовы ўтварэння і знаходжання.

5. Выкарыстанне ў народнай гаспадарцы.

6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра паўвостраў

1. Дэфініцыя.

2. Месца знаходжання.

3. Плошча.

4. Характарыстыка берагавой лініі.

5. Рэльеф.

6. Геалагічная будова (для вялікіх паўастравоў) і карысныя выкапні.

7. Клімат.

8. Найбольшыя гарады.

### Артыкул пра праліў

1. Дэфініцыя з паказам участкаў сушы, падзеленых пралівам, і водных басейнаў, злучаных пралівам.

2. Найменшая шырыня праліва.

3. Найменшая глыбіня на фарватэры.

4. Парты.

## Артыкул пра раён Беларусі

1. Агульныя звесткі (тэрыторыя, геаграфічнае становішча).

2. Прырода (рэльеф, карысныя выкапні, клімат, гідраграфія; глебы: іх тыпы і механічны склад; расліннасць).

3. Насельніцтва (шчыльнасць, працэнт гарадскога насельніцтва).

4. Цэнтр раёна; гарады, гарадскія пасёлкі.

5. Колькасць сельскіх населеных пунктаў.

6. Колькасць сельсаветаў, іх пералік.

7. Гаспадарка (агульная характарыстыка прамысловасці, найбольш важныя яе галіны, прадпрыемствы); характарыстыка сельскай гаспадаркі (спецыялізацыя, звесткі пра зямельны фонд і структуру пасяўных плошчаў, пытанні меліярацыі, пагалоўе прадукцыйнай жывёлы ва ўсіх катэгорыях гаспадарак).

8. Транспарт.

9. Звесткі пра асвету, культуру, медыцыну (школы, тэхнікумы, вучылішчы, бібліятэкі, культурна-асветныя ўстановы, бальніцы, фельчарска-акушэрскія пункты, друк, помнікі архітэктуры).

## Артыкул пра раўніну (нізіну)

1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Пераважныя мінімальныя і максімальныя вышыні.
4. Генетычны тып.
5. Геалагічная будова і найважнейшыя карысныя выкапні.
6. Рэльеф.
7. Клімат.
8. Рэкі і азёры.
9. Глебы, расліннасць.
10. Гаспадарчае выкарыстанне.

## Артыкул пра рэкі

А) Варыянт для артыкула на 1000 знакаў і больш

1. Дэфініцыя.

2. Даўжыня. Плошча басейна.

3. Месца знаходжання і характар басейна і вытокаў. Куды ўпадае.

4. Геаграфічныя асаблівасці басейна і даліны, характар вусця.

5. Асноўныя марфалагічныя асаблівасці даліны і галоўныя прытокі па ўчастках цячэння.

6. Жыўленне. Тып рэжыму і фактары, якія яго вызначаюць. Паказчыкі сцёку.

7. Гаспадарчае выкарыстанне.

8. Асноўныя гарады.

Б) Варыянт для артыкула менш за 1000 знакаў

1. Дэфініцыя.
2. Даўжыня.
3. Месца знаходжання басейна і вытокаў.
4. Геаграфічныя асаблівасці басейна і даліны.
5. Жыўленне. Тып рэжыму. Паказчыкі сцёку.
6. Гаспадарчае выкарыстанне.
7. Асноўныя гарады.

## Артыкул пра вялікі горад

1. Назва горада, іншая або былыя назвы (з указаннем часу перайменавання).

2. Адміністрацыйна-палітычныя функцыі горада (паказваецца час, калі стаў сталіцай ці адміністрацыйным цэнтрам).

3. Колькасць насельніцтва.

4. Гістарычная даведка. Год заснавання ці першага ўпамінання ў крыніцах, перанясення горада ў іншыя месцы, разбурэнняў і аднаўленняў; сувязь горада са значнымі гістарычнымі падзеямі; паказаць, якія з буйнейшых міжнародных кангрэсаў (канферэнцый) праходзілі ў горадзе (назваць гады).

5. Эканоміка-геаграфічная характарыстыка:

а) транспартнае становішча;

б) галіны прамысловасці і найбуйнейшыя прадпрыемствы.

6. Вышэйшыя навучальныя ўстановы, найважнейшыя навуковыя ўстановы, бібліятэкі, музеі, тэатры, тэлецэнтры і інш. (ВНУ, тэатры, музеі даюцца з назвамі). Калі ёсць неабходнасць, паказваюцца і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

7. Помнікі гісторыі і архітэктуры (найбольш значныя).

## Артыкул пра горны хрыбет

1. Дэфініцыя.
2. Месца знаходжання.
3. Працягласць.
4. Максімальныя і пераважныя вышыні.
5. Літалагічная характарыстыка.
6. Рэльеф. Генетычныя тыпы неатэктонікі.
7. Абледзяненне.

З а ў в а г а. У артыкулах пра беларускія рэкі, азёры, населеныя пункты і да т.п. ў дэфініцыі даецца прыналежнасць да краіны.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА НАРОДНАЙ АСВЕЦЕ І ДРУКУ

### Артыкул пра від узброеных сіл або род войск

1. Асноўнае прызначэнне і задачы.
2. Гісторыя зараджэння і развіцця (асноўныя этапы).
3. Сучасны стан:
а) арганізацыйная структура і склад;
б) узброенае і тэхнічнае аснашчэнне;
в) асноўныя баявыя якасці.
4. Перспектывы развіцця.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра навукова-даследчую ўстанову Беларусі

1. Назва ўстановы — поўная і, калі неабходна, скарочаная.
2. Асноўныя тэарэтычныя і практычныя пытанні, якія распрацоўваюцца навукова-даследчай установай.
3. Дата і месца заснавання ўстановы; на якой базе ўзнікла.
4. Сучасная структура ўстановы: лабараторыі, аддзелы, філіялы, доследныя станцыі і г.д.
5. Асноўныя кірункі навуковых даследаванняў.
6. Вынікі навуковых даследаванняў.
7. Вядомыя вучоныя, якія працуюць (ці працавалі) у гэтай установе.
8. Аспірантура; права прымаць да абароны дысертацыі.
9. Навуковыя выданні («Працы», «Запіскі» і г.д.), якія перыядычна выпускаюцца навукова-даследчай установай.
10. Найбольш важныя працы вучоных навукова-даследчай установы (назва працы, прозвішча аўтара, год выдання).
11. Бібліяграфія (працы, спецыяльна прысвечаныя гэтай установе).

### Артыкул аб праектнай установе

1. Назва ўстановы, у дужках — прынятая скарочаная.
2. Дэфініцыя.
3. Дата стварэння, месца, дзе знаходзіцца ўстанова, кароткая гістарычная давадка.
4. Сучасная структура ўстановы (аддзелы, сектары, секцыі).

5. Асноўная дзейнасць.

## Артыкул аб перыядычным выданні

1. Назва выдання; для выданняў не на беларускай і не на рускай мовах назва спачатку даецца ў беларускай транскрыпцыі, потым на мове арыгінала і пераклад.

2. Дэфініцыя; тып выдання (газета, часопіс, альманах, зборнік і г.д.), чый орган.

3. Дата выхаду выдання, месца яго заснавання; на якой мове выдаецца (ці выдавалася), яго перыядычнасць.

4. Калі выданне пераймяноўвалася, указваецца і другая яго назва (з датаваннем).

5. Кола чытачоў, на якіх разлічана выданне.

6. Навуковая або грамадска-палітычная накіраванасць выдання; яго тэматыка.

7. Для выданняў, якія адыгралі значную ролю ў навуковым і грамадскім жыцці, назваць імя заснавальніка, галоўнага рэдактара, паказаць удзел у выданні выдатных грамадскіх дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, мастакоў і г.д.

8. Гістарычнае значэнне выдання (калі ў гэтым ёсць патрэба).

9. Бібліяграфія (да артыкулаў пра найбольш важныя выданні).

## Артыкул пра універсітэт, ВНУ Беларусі

1. Дэфініцыя.

2. Кароткая гісторыя і значэнне ВНУ у грамадска-палітычным і навуковым жыцці краіны (у артыкулах пра буйнейшыя ВНУ).

3. Калі і дзе арганізавана. Калі мяняліся месца знаходжання і назва — паказаць.

4. Вядомыя дзеячы — выкладчыкі або выпускнікі ВНУ.

5. Сучасныя звесткі:

а) якіх спецыялістаў рыхтуе;

б) факультэты, аддзяленні, філіялы;

в) віды навучання (дзённае, вячэрняе, завочнае);

г) колькасць кафедраў, праблемныя лабараторыі, навучальна-доследная гаспадарка, музеі, бібліятэкі (іх фонд) і г.д.;

д) колькасць студэнтаў і выкладчыкаў (у т.л. прафесараў і дактароў навук; кандыдатаў навук);

е) наяўнасць аспірантуры;

ё) права ВНУ прымаць да абароны кандыдацкія, доктарскія дысертацыі.

6. Асноўныя кірункі навуковых даследаванняў.

7. Зборнікі прац.

8. Навуковыя (мастацкія) школы.

9. Шматтыражная газета.

10. Бібліяграфія (літаратура пра гісторыю развіцця ВНУ).

### Артыкул пра універсітэт, ВНУ (замежныя)

1. Дэфініцыя.

2. Кароткая гісторыя і значэнне ВНУ у грамадска-палітычным, навуковым жыцці краіны (у артыкулах пра буйнейшыя ВНУ).

3. Калі, дзе арганізавана. Калі мяняліся месца знаходжання і назва — паказаць.

4. Вядомыя дзеячы — выкладчыкі або выпускнікі ВНУ.

5. Сучасныя звесткі:

а) факультэты, філіялы; віды навучання (дзённае, вячэрняе, завочнае);

б) навукова-даследчыя інстытуты пры ВНУ, астранамічныя абсерваторыі, батанічны сад, музеі, вылічальны цэнтр, бібліятэка і інш.;

в) наяўнасць аспірантуры.

6. Навуковыя (мастацкія) школы.

7. Права ВНУ прымаць да абароны кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ФІЛАСОФІІ І ПРАВЕ

### Артыкул пра галіну права

1. Дэфініцыя: прадмет навукі, тэорыі, месца ў сістэме навуковага пазнання, якую сферу адносін рэгулююць.

2. Гістарычная даведка:

а) месца, час і абставіны ўзнікнення навукі, тэорыі;

б) найбольш буйныя прадстаўнікі навукі, тэорыі;

в) асноўныя этапы і кірункі ў развіцці навукі.

3. Сучасны стан навукі, тэорыі.

4. Практычнае значэнне навукі, тэорыі, іх сувязь з іншымі навукамі.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра дзяржаўную ўстанову

1. Поўная (а таксама і скарочаная) назва ўстановы.

2. Дэфініцыя: характарыстыка, функцыі, кампетэнцыя, месца (тэрыторыя) і час, на працягу якога існавала ўстанова.

3. Месца і роля ўстановы ў структуры дзяржаўнага апарату.

4. Значэнне ўстановы ў арганізацыі матэрыяльна-вытворчага працэсу і найважнейшыя мерапрыемствы, якія ажыццяўляліся гэтай установай (у некаторых выпадках называюцца асобы, якія ўзначальвалі ўстанову).

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра заканадаўчы акт

1. Назва поўная і скарочаная.

2. Дэфініцыя: якой краінай (у некаторых выпадках і якім дзяржаўным органам) прыняты закон, дата прыняцця, якія адносіны рэгулюе.

3. Гістарычныя і эканамічныя ўмовы прыняцця закона.

4. Асноўны змест закона і яго роля ў рэгуляванні грамадскіх адносін.

5. Бібліяграфія (крыніцы).

### Артыкул пра міжнародны дагавор (пагадненне)

1. Поўная назва дагавору.

2. Дэфініцыя: сутнасць дагавору, бакі, якія падпісалі дагавор, месца, дата падпісання.

3. Характарыстыка гістарычных умоў і мэта дагавору.

4. Асноўны змест дагавору.

5. Міжнароднае значэнне дагавору.

6. Бібліяграфія (для найбольш важных дагавораў).

### Артыкул пра паняцце прававое

1. Назва поўная і скарочаная.

2. Дэфініцыя: асноўны змест паняцця (да якой галіны права належыць паняцце і якія адносіны рэгулюе).

3. Дзеянне і тлумачэнне ў праве Беларусі.

4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра філасофскую навуку, кірунак або школу

1. Дэфініцыя: прадмет навукі, тэорыі, іх месца ў сістэме навук.

2. Час і месца ўзнікнення навукі, кірунку ці школы; заснавальнікі (стваральнікі), галоўныя прадстаўнікі.

3. Сацыяльна-эканамічныя і ідэйна-тэарэтычныя перадумовы ўзнікнення навукі, кірунку (школы).

4. Галоўныя этапы развіцця.

5. Раскрыццё асноўнага зместу навукі, кірунку (школы). Структура і класіфікацыя навукі.

6. Сучасны стан і асноўныя тэндэнцыі гэтай навукі, кірунку (школы).

7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра філасофскую катэгорыю, тэрмін

1. Дэфініцыя: філасофскі змест катэгорыі, тэрміна.
2. Калі, дзе і хто ўвёў у навуку.
3. У якіх філасофскіх тэорыях, сістэмах мелі і маюць істотнае значэнне.
4. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ФІЗІЦЫ, МАТЭМАТЫЦЫ, ХІМІІ І АСТРАНОМІІ

### Артыкул пра з'яву фізічную

1. Дэфініцыя.
2. Кароткая гістарычная даведка (у неабходных выпадках).
3. Практычнае выкарыстанне.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра паняцце фізічнае

1. Дэфініцыя.
2. Кароткая гістарычная даведка (у неабходных выпадках).
3. Развіццё паняцця і яго мадыфікацыі.
4. Практычнае і навуковае значэнне.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра электрычную (электронную) схему

1. Дэфініцыя, прызначэнне, галіны выкарыстання.
2. Працэсы, якія адбываюцца ў схеме.
3. Асноўныя прыклады і дэталі схемы.
4. Асноўныя характарыстыкі схемы, яе разнавіднасці.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра прыладу

1. Дэфініцыя.
2. Схема і прынцып дзеяння.

3. Асноўныя тыпы (класіфікацыя), лепшыя айчынныя і замежныя ўзоры.

4. Выкарыстанне.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра злучэнне хімічнае

1. Дэфініцыя. Хімічная формула.
2. Фізічныя і хімічныя ўласцівасці.
3. Спосабы атрымання і галіна выкарыстання.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра рэакцыю хімічную

1. Дэфініцыя.
2. Апісанне хімічнай рэакцыі. Калі і хто адкрыў.
3. Выкарыстанне ў навуцы і народнай гаспадарцы.

### Артыкул пра элемент хімічны

1. Дэфініцыя (месца ў перыядычнай сістэме, атамная маса). Ізатопны састаў.
2. Кароткая гістарычная даведка пра адкрыццё.
3. Знаходжанне ў прыродзе.
4. Фізічныя і хімічныя ўласцівасці.
5. Хімічны састаў яго асноўных злучэнняў.
6. Спосабы атрымання і галіны выкарыстання.
7. Значэнне элемента ў біялогіі.
8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра рэчыва атрутнае

1. Дэфініцыя. Хімічная формула.
2. Фізічныя і хімічныя ўласцівасці.
3. Дзеянне на расліны, жывёлу і чалавека.
4. Спосабы выкарыстання і меры засцярогі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра паняцце матэматычнае

1. Дэфініцыя.
2. Прыклад, які ілюструе паняцце.
3. Галіна выкарыстання.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра планету

1. Дэфініцыя.
2. Кароткая гістарычная даведка.
3. Асноўныя фізічныя характарыстыкі.
4. Спадарожнікі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра сузор'е

1. Дэфініцыя.
2. Граніцы сузор'я (спасылка на зорную карту ў канцы артыкула).
3. Найбольш яркія зоркі.
4. Час бачнасці на тэрыторыі Беларусі.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ТЭХНІЦЫ І СПОРЦЕ

### Артыкул пра апарат (прыладу)

1. Дэфініцыя. Прызначэнне.
2. Класіфікацыя.
3. Будова, прынцып дзеяння, асноўныя характарыстыкі.
4. Выпуск ці выкарыстанне (у асобных выпадках) у Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра збудаванне ці яго элемент

1. Дэфініцыя.
2. Класіфікацыя.
3. Канструкцыя. Матэрыялы.
4. Прыклады з будаўніцтва ў Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра будаўнічую канструкцыю

1. Дэфініцыя. Прызначэнне.
2. Класіфікацыя.
3. Характарыстыка канструкцыі.
4. Прыклады выкарыстання ў Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від ваеннай тэхнікі

1. Дэфініцыя.
2. Класіфікацыя.

3. Прызначэнне, будова, асноўныя характарыстыкі.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від зброі

1. Дэфініцыя.
2. Класіфікацыя.
3. Прызначэнне, будова, асноўныя характарыстыкі.
4. Бібліяграфія.

### Артыкул пра вытворчы працэс

1. Дэфініцыя.
2. Агрэгат, апарат, устаноўка.
3. Фізіка-хімічная аснова працэсу. Тэхналагічная схема.
4. Выкарыстанне ў Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра інструмент

1. Дэфініцыя. Прызначэнне.
2. Класіфікацыя.
3. Будова, асноўныя характарыстыкі.
4. Выпуск у Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра матэрыялы, сплавы

1. Дэфініцыя.
2. Класіфікацыя.
3. Хімічны састаў. Уласцівасці. Прызначэнне.
4. Выпуск ці распрацоўка ў Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра машыну

1. Дэфініцыя. Прызначэнне.
2. Класіфікацыя.
3. Будова, прынцып дзеяння, асноўныя характарыстыкі.
4. Выпуск ці выкарыстанне ў Беларусі.
5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра спартыўнае таварыства

1. Дэфініцыя.
2. Каго аб'ядноўвае.
3. Кароткая гістарычная даведка.

4. Колькасць членаў ДСТ, майстроў спорту ў Беларусі.

5. Найбольш вядомыя выхаванцы, заслужаныя трэнеры.

6. Спартыўныя базы.

7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра від спорту

1. Дэфініцыя.

2. Класіфікацыя.

3. Інвентар. Спартыўныя снарады.

4. Асноўныя правілы.

5. Гістарычная даведка (даецца ў неабходных выпадках).

6. Статыстычныя звесткі па Беларусі.

7. Беларускія спартсмены — чэмпіёны СССР, Еўропы, свету, Алімпійскіх гульняў.

8. Вядучыя спецыялісты па віду спорту — заслужаныя трэнеры Беларусі.

9. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ЎСЕАГУЛЬНАЙ ГІСТОРЫІ

### Артыкул пра арганізацыю міжнародную

1. Поўнае найменне арганізацыі, у дужках даецца агульнапрынятае скарачэнне.

2. Дэфініцыя: сацыяльна-палітычная арыентацыя арганізацыі, дата і месца яе заснавання, а ў выпадку неабходнасці абставіны, якія выклікалі да жыцця гэтую арганізацыю.

3. Коратка выкладаецца структура арганізацыі; колькасць яе членаў.

4. Асноўная мэта арганізацыі (пажадана са спасылкай на праграмны дакумент); найважнейшыя этапы яе дзейнасці.

5. Кіруючыя органы, іх месца знаходжання, друкаваны орган.

6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра вайну

1. Дэфініцыя: ваюючыя бакі, гады вайны, характар вайны.

2. Прычыны вайны, зачэпка да пачатку ваенных дзеянняў; мэта ваюючых бакоў.

3. Сілы бакоў да пачатку вайны і ў ходзе яе.

4. Стратэгічныя планы. Ход вайны і развіццё ваенных дзеянняў па перыядах ці кампаніях, найбольш важныя бітвы. У

артыкулах пра кааліцыйныя войны даюцца кароткія звесткі пра пагадненне паміж саюзнікамі і іх узаемаадносіны.

5. Важнейшыя вынікі вайны: тэрытарыяльныя, палітычныя, эканамічныя; спасылка на артыкул пра дагавор, які завяршыў вайну (у шэрагу выпадкаў коратка выкладаецца змест дагавору ў гэтым жа артыкуле, а артыкул пра дагавор даецца як спасылачны).

6. Ваеннае майстэрства ваюючых бакоў. Даецца толькі ў артыкулах пра войны, якія адыгралі значную ролю ў развіцці ваеннага майстэрства.

7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра дагавор аб міры

1. Поўнае найменне з указаннем года.

2. Дэфініцыя: паміж якімі бакамі падпісаны, калі і дзе (калі дазваляе аб'ём артыкула, паказваюцца таксама асобы, якія падпісалі дагавор), які ваенны канфлікт завяршае дагавор.

3. Кароткі выклад зместу дагавору.

4. Даецца агульная ацэнка дагавору, яго гістарычны сэнс і вынікі.

5. Бібліяграфія (асноўная публікацыя і літаратура).

### Артыкул пра дагавор або пагадненне міжнароднае

1. Поўнае афіцыйнае найменне дагавору з указаннем года.

2. Дэфініцыя: бакі, якія падпісалі дагавор, калі і дзе падпісаны.

3. Дзяржаўныя дзеячы і дыпламаты, якія падпісалі дагавор (для найбольш важных дагавораў).

4. Асноўны змест дагавору.

5. Тэрмін дзеяння, дата ратыфікацыі і ўступлення ў сілу, спыненне дзеяння дагавору (даты ратыфікацыі і ўступлення ў сілу паказваюцца для дагавораў, якія маюць вялікае значэнне).

6. Міжнароднае значэнне дагавору.

7. Бібліяграфія (асноўная публікацыя і літаратура).

### Артыкул пра дзяржаву старажытную

1. Назва дзяржавы (дзе магчыма, даць у дужках арыгінальнае напісанне). Коратка тэрытарыяльнае размяшчэнне і час існавання дзяржавы.

2. Сацыяльна-эканамічныя перадумовы ўзнікнення дзяржавы (калі дазваляе аб'ём артыкула).

3. Асноўныя факты гісторыі сацыяльна-эканамічнага, унутрыпалітычнага і знешнепалітычнага развіцця дзяржавы.

4. Культура.

5. Сацыяльна-эканамічныя і палітычныя прычыны заняпаду дзяржавы.

6. Бібліяграфія.

## Артыкул пра дынастыю

1. Назва дынастыі (у асобных выпадках паказваецца, адгалінаванне якой дынастыі).

2. Дэфініцыя: назва дзяржавы (дзяржаў), дзе правіла дынастыя, час праўлення яе.

3. Заснавальнік дынастыі, найбольш важныя яе прадстаўнікі.

4. Даць характарыстыку дзяржавы, калі няма асобнага артыкула пра дзяржаву.

5. Бібліяграфія.

## Артыкул пра горад гістарычны

1. Назва горада, у неабходных выпадках у дужках даецца арыгінальнае напісанне, паходжанне назвы, яго дзяржаўная або этнічная прыналежнасць (старажытнагрэчаскі, старажытнаегіпецкі і г.д.).

2. Прыкладнае тэрытарыяльнае размяшчэнне (каля якога або на месцы якога сучаснага населенага пункта).

3. Калі ўзнік і калі ўпершыню ўпамінаецца.

4. Перыяды існавання горада, якія важныя гістарычныя падзеі з ім звязаны.

5. Для найбольшых і вядомых гарадоў — гады археалагічных раскопак і іх вынікі, рэшткі пабудоў, архітэктурных помнікаў і інш.

6. Бібліяграфія (для найбольшых і вядомых гарадоў).

## Артыкул пра партыі розных краін

1. Сучаснае найменне партыі; калі партыя мела ў мінулым іншыя найменні — назваць іх.

2. Дэфініцыя: час і месца ўтварэння партыі.

3. Гістарычныя ўмовы стварэння партыі.

4. На аснове якой партыі ці якіх арганізацый створана партыя. Яе заснавальнікі.

5. Асноўныя факты дзейнасці партыі.

6. Найбольш важныя праграмныя і тактычныя ўстаноўкі партыі.

7. Кіраўнікі партыі, друкаваныя органы.

8. Бібліяграфія.

### Артыкул пра міжнародны кангрэс

1. Поўнае найменне кангрэса, год, калі ён адбыўся.

2. Дэфініцыя: час і месца кангрэса, па чыёй ініцыятыве ён скліканы, а таксама асноўны характар дзейнасці.

3. Звесткі пра колькасць дэлегатаў, прадстаўніцтва розных арганізацый з паказам колькасці прадстаўленых краін.

4. Кароткі выклад асноўных рашэнняў кангрэса, у т.л. арганізацыйныя меры (выбранне бюро, камітэтаў, стварэнне фондаў, правядзенне кампаній).

5. Асноўная публікацыя дакументаў кангрэса.

### Артыкул пра міфалагічны персанаж

1. Найменне (імя бога, багіні, героя і г.д.), у дужках арыгінальнае напісанне.

2. Дэфініцыя: да якой міфалогіі належыць і што ўвасабляе.

3. Месца і час (у агульнай фармулёўцы) распаўсюджання культу.

4. Адпаведнасць багоў іншых рэлігій і міфалогій гэтаму персанажу.

5. Выкарыстанне міфалагічнага вобраза ў мастацтве і выдатных творах літаратуры (кім і ў якіх творах).

### Артыкул пра паўстанне або рух

1. Дэфініцыя: месца і час паўстання (руху), яго сацыяльная характарыстыка.

2. Прычыны паўстання і зачэпка да яго.

3. Арганізацыя, партыя, таварыства, якое падрыхтавала паўстанне. Кіраўнік яго.

4. Патрабаванні паўстанцаў.

5. Ход паўстання.

6. Вынікі паўстання. Адлюстраванне паўстання ў сусветна вядомых творах мастацкай літаратуры і выяўленчага мастацтва.

7. Бібліяграфія.

### Артыкул пра племя

1. Назва племя або групы плямёнаў (у дужках арыгінальнае напісанне).

2. Дэфініцыя: да якой групы плямёнаў або моўнай групы належыць.

3. Час і межы першапачатковага рассялення (сказаць, аўтахтоннае гэта племя ці з'явілася ў выніку перасялення — адкуль і куды) або першыя звесткі пра племя ў крыніцах.

4. У артыкуле пра групу плямёнаў — якія плямёны ўваходзілі ў яе.

5. Грамадска-эканамічны лад племя.

6. Гістарычныя падзеі, што прывялі да ліквідацыі самастойнага існавання племя.

7. Паказаць (калі магчыма), этнічную аснову якога народа склалі плямёны або продкамі якіх сучасных народаў яны з'яўляюцца.

## Артыкул пра рэвалюцыю

### (схема артыкула пра канкрэтную рэвалюцыю)

1. Дэфініцыя: месца і час рэвалюцыі, кароткая яе характарыстыка (у тым выпадку, калі пра характар рэвалюцыі існуюць розныя пункты погляду, даць кароткую гістарыяграфічную даведку).

2. Кароткая характарыстыка асноўных перадумоў рэвалюцыі.

3. Пачатак рэвалюцыі. Партыі (арганізацыі, таварыствы), якія кіравалі ёю.

4. Асноўныя класы, якія ўдзельнічалі ў рэвалюцыі, рухальная сіла яе.

5. Ход рэвалюцыі, яе значэнне.

6. Адлюстраванне рэвалюцыі ў сусветна вядомых творах літаратуры і мастацтва.

7. Бібліяграфія.

## Артыкул пра саюз ці ваенны блок міжнародны

1. Афіцыйнае найменне саюза ці ваеннага блока, дата і месца падпісання дагавору, які паклаў пачатак саюза ці блока. Тэрмін яго дзеяння.

2. Дэфініцыя: характар і накіраванасць саюза ці ваеннага блока.

3. Краіны, якія падпісалі дагавор аб саюзе (блоку). Пералік краін, якія ўступілі ў саюз (блок) пазней (з паказам года).

4. Найважнейшыя крокі, зробленыя саюзам ці ваенным блокам з часу яго заснавання.

5. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ГІСТОРЫІ

### Артыкул пра археалагічную культуру

1. Назва (з даведкай, адкуль яна паходзіць).
2. Дэфініцыя: да якога этапу археалагічнай перыядызацыі адносіцца культура, яе датаванне, тэрыторыя распаўсюджання культуры.
3. Назва папярэдняй культуры (калі вядома).
4. Найбольш вядомыя даследчыкі.
5. Характарыстыка археалагічных матэрыялаў, найбольш важныя рэчы, характэрныя для гэтай культуры, формы паселішчаў і пахаванняў.
6. Кароткая характарыстыка (калі магчыма) ступені грамадскага развіцця і заняткаў носьбітаў гэтай культуры.
7. Назва культуры, якая змяніла гэтую культуру.
8. Бібліяграфія.

З а ў в а г а. Да маладаследаваных культур і культур, якія не датычаць тэрыторыі Беларусі, схема артыкула можа быць спрошчана.

### Артыкул пра археалагічны помнік (гарадзішча, паселішча, стаянка, могільнік)

1. Дэфініцыя.
2. Датаванне помніка.
3. Месца знаходжання.
4. Калі і хто адкрыў і даследаваў помнік.
5. Характарыстыка знойдзеных археалагічных матэрыялаў (уключаючца і звесткі, да якой культуры ці якому народу належаць).
6. Бібліяграфія.

### Артыкул пра партыю ў Расіі (гістарычную ці сучасную)

1. Назва партыі (калі назва мянялася, то даюцца і іншыя назвы).
2. Класавая характарыстыка партыі, час яе заснавання і гады дзейнасці.
3. На аснове якой партыі або арганізацыі створана партыя; яе стваральнікі.
4. Кароткая характарыстыка праграмы.

5. Асноўныя плыні і групоўкі ў партыі. Якія партыі, групы, кірункі вылучыліся з асноўнай партыі; кааліцыі і пагадненні з іншымі партыямі (у артыкулах пра буйныя партыі).

6. Прадстаўніцтва ў Дзяржаўнай думе; удзел ва ўрадзе.

7. Арганізацыйная структура; колькасць членаў; кіраўнікі; органы друку.

8. З'езды і канферэнцыі партыі (у артыкулах пра буйныя партыі).

9. Агульная ацэнка дзейнасці партыі.

10. Бібліяграфія.

### Артыкул пра выданне гістарычных дакументаў

1. Назва публікацыі на беларускай мове (у дужках — на мове арыгінала).

2. Бібліяграфічная характарыстыка выдання (месца і год выдання; якая арганізацыя або якая асоба выдала; колькі тамоў, серый, частак і г.д.).

3. Кароткая характарыстыка выдання: на падставе якіх архіўных матэрыялаў зроблена выданне, прынцып адбору дакументаў, наяўнасць навукова-даследчага апарату і г.д.; на якой мове (мовах) надрукаваны; ці ёсць пераклады або анатацыі на іншай мове.

4. Ацэнка выдання; агульная характарыстыка зместу дакументаў.

5. Бібліяграфія (найважнейшая літаратура пра гэтую публікацыю).

### Артыкул пра дзяржаўную ўстанову

1. Поўная (а таксама скарочаная) назва ўстановы.

2. Дэфініцыя: функцыі і кампетэнцыі ўстановы; час, на працягу якога існавала ўстанова; у артыкулах пра сучасныя ўстановы — час (дата) узнікнення.

3. Асноўныя факты з гісторыі ўстановы, у тым ліку ўмовы ўзнікнення і ліквідацыі. Найбольш выдатныя асобы, якія ўзначальвалі гэтую ўстанову ці адыгралі вялікую ролю ў яе гісторыі (паказваецца час, на працягу якога гэты дзеяч узначальваў установу, або час, калі пад кіраўніцтвам гэтага дзеяча праводзілася важнае мерапрыемства).

4. Найважнейшыя друкаваныя выданні ўстановы.

5. Бібліяграфія.

### Артыкул пра партыйны з'езд, канферэнцыю, нараду

1. Назва з'езда (канферэнцыі).
2. Дакладныя даты і месца працы.
3. Колькасць прысутных дэлегатаў з рашаючымі і дарадчымі галасамі; колькі членаў і кандыдатаў у члены партыі прадстаўлялі.
4. Поўны пералік парадку дня з'езда (канферэнцыі); прозвішчы ўсіх дакладчыкаў і садакладчыкаў (калі апошнія былі).
5. Характарыстыка асноўных пытанняў і рашэнняў з'езда (канферэнцыі).
6. Колькасны склад ЦК, выбраны на з'ездзе.
7. Значэнне з'езда (канферэнцыі) у гісторыі.
8. Бібліяграфія (стэнаграфічныя справаздачы, пратаколы, дакументы, манаграфіі).

### Артыкул пра рэч матэрыяльнай культуры (прылады, зброя, рэчы побыту і да т.п.)

1. Назва (у выпадку неабходнасці — этымалогія).
2. Дэфініцыя: прызначэнне рэчы.
3. У якіх народаў распаўсюджана; час і раёны пашырэння.
4. Апісанне (у асноўных рысах); з якога матэрыялу зроблены, этапы ўдасканалення.
5. Бібліяграфія (толькі пры артыкулах пра найбольш важныя рэчы).

### Артыкул пра нацыю

1. Назва, саманазва.
2. Дэфініцыя: тэрытарыяльныя межы рассялення; этнічная і моўная прыналежнасць, пісьменнасць.
3. Колькасць (агульная і па краінах).
4. Антрапалагічны тып (не абавязкова).
5. Рэлігія (ці рэлігіі), якія панавалі ў мінулым; якую рэлігію вызнаюць веруючыя ў цяперашні час.
6. Кароткія гістарычныя звесткі; этнагенез, час фарміравання нацыі, сацыяльна-эканамічнае становішча ў мінулым і цяпер.
7. Асноўны занятак. Характарыстыка (самая кароткая) спецыфічных формаў матэрыяльнай і духоўнай культуры са спасылкай на артыкул пра краіну, якую пераважна насяляе гэты народ.
8. Бібліяграфія.

## Артыкул пра старажытную і сярэдневяковую грашовую адзінку

1. Назва (у выпадку неабходнасці — этымалогія).
2. Дэфініцыя (з якога матэрыялу, дзе і калі выраблялася, раён пашырэння і інш.).
3. Маса (для металічных грошай).
4. Суадносіны з іншымі грашовымі адзінкамі гэтай сістэмы.

## Артыкул пра нацыянальныя ўтварэнні ў складзе Расіі

1. Агульныя звесткі:
а) назва;
б) дата ўтварэння;
в) геаграфічнае становішча; моры, якія абмываюць;
г) плошча;
д) колькасць насельніцтва;
е) адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел (колькасць раёнаў, гарадоў, пасёлкаў);
ж) цэнтр.
2. Прырода:
а) асаблівасці фізіка-геаграфічнага становішча; парэзанасць берагавой лініі; асноўныя геаграфічныя асаблівасці тэрыторыі (хрыбты, нізіны, узвышшы);
б) агульная характарыстыка клімату і асноўныя тыпы; сярэдняя тэмпература самага халоднага і цёплага месяцаў; сярэднегадавая колькасць ападкаў;
в) найважнейшыя рэкі, найбольшыя азёры, іх гаспадарчае значэнне;
г) пераважныя тыпы глебаў і расліннасці;
д) жывёльны свет;
е) запаведнікі.
3. Насельніцтва:
а) асноўнае насельніцтва (паводле нацыянальнага складу);
б) сярэдняя шчыльнасць;
в) гарадское і сельскае насельніцтва;
г) найважнейшыя гарады.
4. Гаспадарка:
а) агульная характарыстыка; галоўныя галіны;
б) прамысловасць; энергетыка; найважнейшыя карысныя выкапні; здабыўная і апрацоўчая прамысловасць; рост валавой прадукцыі прамысловасці;

в) сельская гаспадарка: асноўныя галіны; пасяўная плошча найважнейшых культур; арашэнне і абваднение; асноўныя кірункі жывёлагадоўлі;

г) транспарт: даўжыня чыгуначных ліній; найважнейшыя лініі (у т.л. электрыфікаваныя); іншыя віды транспарту (рачны, трубаправодны, аўтамабільны, паветраны).

5. Бібліяграфія.

## ПЛАНЫ АРТЫКУЛАЎ ПА ЭКАНОМІЦЫ

### Артыкул пра галіну народнай гаспадаркі

1. Дэфініцыя: галоўныя віды вытворчасці і народнагаспадарчае значэнне галіны.

2. Найбольш важныя этапы развіцця галіны на Беларусі:

а) стан у дарэвалюцыйны час;

б) развіццё ў Беларусі;

в) сыравінная база і тэхнічны ўзровень вытворчасці;

г) выпуск прадукцыі ў дынаміцы (табліца).

4. Кароткія звесткі пра стан галіны ў тых краінах, дзе яна найбольш развіта.

5. Бібліяграфія.

Заўвага. У тых выпадках, калі няма агульных артыкулаў пра асобныя галіны вытворчасці, звесткі пра іх развіццё (рэсурсы, вытворчасць прадукцыі і інш.) даюцца ў артыкулах пра прамысловыя прадпрыемствы, металы, мінералы, машыны, тавары і інш.

### Артыкул пра грашовую адзінку (сучасную)

1. Дэфініцыя.
2. Калі ўведзена.
3. Дзяленне адзінкі.
4. Курс Нацыянальнага банка Беларусі на апошнюю дату.

### Артыкул пра прамысловае прадпрыемства

1. Дэфініцыя: да якой галіны вытворчасці адносіцца, віды прадукцыі.
2. Кароткая гістарычная даведка: будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю, першапачатковая магутнасць, вырабы.
3. Лёс прадпрыемства ў Вялікую Айчынную вайну.
4. Аднаўленне і рэканструкцыя.
5. Рост вытворчасці прадукцыі ў дынаміцы.
6. Асаблівасці арганізацыі вытворчасці і працы.

7. Перспектывы развіцця.

8. Культурна-бытавыя ўмовы, адпачынак, філіял якога-небудзь інстытута ці тэхнікума. Палац культуры, санаторый, прафілакторый, дом адпачынку, дзіцячыя лагер, дашкольныя ўстановы, спартыўныя збудаванні.

9. Бібліяграфія.

# VIII. ВЫЗНАЧЭННЕ ПАНЯЦЦЯЎ

1. Артыкул пачынаецца з вызначэння паняцця, якое вынесена ў загаловак. Вызначэнне паняцця павінна будавацца ў адпаведнасці з патрабаваннямі логікі. Толькі ў такім выпадку яно здольнае перадаць неабходны змест ведаў.

2. Вызначэннем паняццяў называецца лагічны прыём, з дапамогай якога гэтыя формы мыслення раскрываюцца з мэтай іх тлумачэння ці замацавання за імі пэўнага зместу. У выніку вызначэння паняццяў атрымліваюць формулы-вызначэнні (дэфініцыі).

3. У энцыклапедыі, каб зберагчы знакі, паміж тэрмінам, які вызначаецца, і вызначальнай часткай дэфініцыі замест працяжніка ставіцца коска.

4. Выпрацавана многа відаў вызначэння паняццяў: 1) вызначэнне праз род і відавое адрозненне; 2) вызначэнне праз адносіны; 3) генетычнае вызначэнне (праз паказ паходжання прадмета); 4) вызначэнне аперацыйнае; 5) вызначэнне дэскрыпцыйнае і інш. Усе яны павінны раскрываць змест паняцця, якое вызначаецца, і спрыяць яго разуменню.

5. Найбольш распаўсюджана вызначэнне паняццяў праз род і відавое адрозненне. Яно будуецца шляхам падвядзення паняцця, якое вызначаецца, як відавога пад радавое з паказам найбольш выразных прыкмет першага.

АТЭІ́ЗМ, сістэма матэрыялістычных поглядаў [радавое паняцце], якая адмаўляе рэлігію і веру ў надпрыроднае, у існаванне багоў, духаў, акультных сіл, таго свету і бессмяротнасць душы [відавыя прыкметы];

АТЭРАСКЛЕРО́З, хранічная хвароба артэрый [радавое паняцце], пры якой сценкі іх патаўшчаюцца і ўшчыльняюцца [відавыя прыкметы];

ЛЁД, вада [радавое паняцце] у цвёрдым стане [відавая прыкмета].

6. Да вызначэння паняццяў праз род і відавое адрозненне падобны іншыя вызначэнні. Таму на апошнія могуць распаўсюджвацца патрабаванні першых.

П р ы к л а д :

**АКРУ́ЖНАСЦЬ**, замкнёная плоская крывая [радавое паняцце], усе пункты якой знаходзяцца на аднолькавай адлегласці ад некаторага пункта *O*, які ляжыць у плоскасці гэтай крывой і называецца яе цэнтрам [відавая прыкмета, якая паказвае паходжанне].

7. Да дэфініцый ставяцца адпаведныя патрабаванні, парушэнне якіх вядзе да памылак.

а) Дэфініцыі будуюцца па формуле аб'ёмнай роўнасці вызначаемай і вызначальнай частак. Дэфініцыя лічыцца памылковай, калі адна з яе частак больш шырокая, а другая больш вузкая па аб'ёме. Калі вызначальная частка больш шырокая за вызначаемую («Планета, астылае нябеснае цела, якое верціцца вакол Сонца»), — гэта памылка шырокай дэфініцыі (акрамя планет вакол Сонца верцяцца і іншыя астылыя целы). Калі вызначальная частка вузейшая за вызначаемую («Чатырохвугольнік, геаметрычная фігура, якая мае прамыя вуглы»), — гэта памылка вузкай дэфініцыі (чатырохвугольнік мае не толькі прамыя вуглы).

б) У дэфініцыі не павінна быць моўных таўталогій, як напр.: «Гаспадарка ёсць гаспадаранне».

в) Дэфініцыя па магчымасці павінна быць кароткая і будавацца ў выглядзе простага сказа. Калі адным сказам нельга перадаць асноўны змест паняцця, якое вызначаецца, то вызначэнне можа складацца з двух ці некалькіх сказаў. У такім выпадку другі і наступныя сказы могуць аддзяляцца ад першага кропкай з коскай і мець выказнік без дзейніка (ім з'яўляецца назва артыкула).

П р ы к л а д :

**АБСКУРАНТЫ́ЗМ**, варожыя адносіны да навукі, асветы, прагрэсу; абарона закасцянелых, рэакцыйных ідэй і невуцтва.

г) У вызначальнай частцы трэба пазбягаць няясных паняццяў. Калі гэта зрабіць нельга, то неабходна таксама вызначаць выкарыстанае няяснае паняцце. Такі «ланцуг вызначэнняў», даведзены да належнага ўзроўню, забяспечвае разуменне энцыклапедычнага матэрыялу. Але нельга дапускаць, каб выкарыстанае няяснае паняцце тлумачылася праз тое, якое вызначана з яго дапамогай. Напр., калі сказаць, што прамы вугал — гэта вугал у 90°, то нельга градус вызначаць як 1/90 прамога вугла.

д) Трэба пазбягаць адмоўных характарыстык у вызначальнай частцы дэфініцый, хоць гэта не выключае іх зусім.

Прыклад:

Няправільна: **АДЫЯБА́ТНЫ ПРАЦЭ́С**, тэрмадынамічны працэс, пры якім не адбываецца цеплаабмен паміж тэрмадынамічнай сістэмай і навакольным асяроддзем.

Правільна. **АДЫЯБА́ТНЫ ПРАЦЭ́С**, тэрмадынамічны працэс, які адбываецца без цеплаабмену паміж...

8. Вызначэнні паняццяў адных і тых жа відаў артыкулаў у энцыклапедыі (рэк, астравоў, гарадоў, міжнародных дагавораў, з´ездаў, войнаў і г.д.) павінны быць па магчымасці аднатыпныя і ў той жа час паказваць найважнейшыя асаблівасці кожнай асобнай з´явы, падзеі і г.д., якія адлюстроўвае паняцце.

9. Калі ёсць класічнае вызначэнне паняцця, то яно можа быць выкарыстана ў энцыклапедычных выданнях як дэфініцыя або ўключана як састаўная частка агульнага вызначэння ці ісці адразу за ім, Цытаванне вызначэння даецца дакладна, як у арыгінале, у двукоссі і са спасылкай на крыніцу.

10. Вызначэнні даюцца паняццям, таму ў вызначальнай частцы трэба пазбягаць такіх выразаў, як «х — геалагічны тэрмін, які абазначае...»; «х — назва жывёлы...». Такія выразы апраўданы, калі з´ява, якой прысвечаны артыкул, была часовай, калі гэтая з´ява вядома пад іншымі назвамі.

Прыклады:

**АБ´ЯДНА́НЫЯ НА́ЦЫІ**, назва краін, што ўваходзілі ў антыгітлераўскую кааліцыю ў 2-ю сусветную вайну;

**БІЗНЕС**, тэрмін для абазначэння дзейнасці, якая дае прыбытак.

11. У біяграфічных артыкулах у ролі вызначэння выступаюць характарыстыкі, якія паказваюць род дзейнасці (спецыяльнасць, прафесію), а не пасаду, у патрэбных выпадках — галіну навукі, мастацтва, сферу дзейнасці, палітычнага жыцця і інш.

Прыклады:

**АБРА́СІМАЎ** Пётр Андрэевіч, савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат;

**АЎРА́МЧЫК** Мікола (Мікалай Якаўлевіч), беларускі паэт;

**АЛО́ЎНІКАЎ** Уладзімір Уладзіміравіч, беларускі кампазітар і грамадскі дзеяч;

**АДЭНА́ЎЭР** (Adenauer) Конрад, дзяржаўны і паліт. дзеяч Германіі.

12. У вызначэннях дзеячаў не прынята пісаць «сучасны» ці «дзеяч такога і такога стагоддзя», бо гэта вынікае з хрыналагічнай даведкі.

13. У вызначэнні можна карыстацца скарачэннямі (гл. Спіс скарачэнняў, рэкамендаваных у дэфініцыях). Першае слова ў дэфініцыі звычайна не скарачаецца.

14. Спасылка на іншы артыкул дапускаецца ў вызначэнні толькі тады, калі без гэтага нельга абысціся ці калі спасылкі паказваюць чытачу крыніцу, дзе можна знайсці тлумачэнне сутнасці паняцця, якое вызначаецца.

# IX. СПАСЫЛКІ

1. Сістэма спасылак — спецыфічны і абавязковы элемент навуковага апарату ўсякага энцыклапедычнага выдання. Яна садзейнічае ўзаемасувязі ўнутры тэматычных цыклаў артыкулаў, дае магчымасць пазбегнуць паўтарэння аналагічных звестак у сумежных па тэматыцы артыкулах, памагае чытачу арыентавацца ў выданні. Спасылкі даюцца пераважна на тэрміны, якія раскрываюць сутнасць паняцця, і на артыкулы, у якіх змяшчаецца вялікі інфармацыйны матэрыял.

2. У БелЭн прынята сістэма знешніх і ўнутраных (унутрытэкставых) спасылак.

3. Знешнія спасылкі, у сваю чаргу, бываюць двух відаў: без тлумачэнняў (так званыя «голыя») і разгорнутыя. Яны робяцца ў формах : «тое, што», «гл. ў арт.», «гл.». Апошняя форма абавязковая для спасылак з жывой істоты на жывую істоту, з персаналіі на персаналію.

4. Спасылка без тлумачэння («голая») звычайна складаецца з тэрміна (назвы артыкула), з якога даецца спасылка, і тэрміна (назва артыкула), да якога пасылаюць чытача. Такія спасылкі бываюць у наступных выпадках:

а) калі абодва тэрміны тоесныя па сэнсе.

П р ы к л а д ы :

**КАНІБАЛІ́ЗМ**, тое, што *людаедства*;

**МЕТАЛАКЕРА́МІКА**, гл. *Парашковая металургія.*

б) Калі спасылка робіцца ад абрэвіятуры.

П р ы к л а д ы :

**ВНУ**, гл. *Вышэйшыя навучальныя ўстановы*;

**КПЗБ**, гл. *Камуністычная партыя Заходняй Беларусі.*

в) Калі спасылка даецца з прыватнага паняцця на больш агульнае.

П р ы к л а д ы :

**АБСАЛЮ́ТНАЯ І́СЦІНА**, гл. ў арт. *Ісціна*;

**БЕЗУМО́ЎНЫ РЭФЛЕ́КС**, гл. ў арт. *Рэфлексы*;

**АПЯКУ́Н**, гл. ў арт. *Апека.*

г) Калі ў назве выкарыстана інверсія.

Прыклады:

**ЭКАНАМІ́ЧНЫ ПАТЭНЦЫЯ́Л**, гл. *Патэнцыял эканамічны*;

**АЗЕРБАЙДЖА́Н ІРА́НСКІ**, гл. *Іранскі Азербайджан.*

д) Калі асноўны артыкул ідзе на псеўданім асобы, тады на сапраўднае прозвішча даецца спасылка.

Прыклады:

**МІЦКЕ́ВІЧ** Канстанцін Міхайлавіч, гл. *Колас* Якуб;

**ЖЫЛУНО́ВІЧ** Зміцер Фёдаравіч, гл. *Гартны* Цішка.

е) Калі асоба вядома пад імем або іншым прозвішчам, а артыкул ідзе на асноўнае прозвішча.

Прыклад:

**ЧАРНО́ЦКІ** Адам, гл. *Даленга-Хадакоўскі* З.Д.

5. Разгорнутая спасылка — гэта спасылка, у якой пасля тэрміна (назвы) даецца кароткае азначэнне або тлумачэнне тэрміна, а потым спасылка на іншы артыкул. Яна робіцца ў выпадках, калі нельга абысціся «голай» спасылкай, і тады, калі на той або іншы тэрмін даваць артыкул немэтазгодна і чытач можа быць задаволены яго кароткім тлумачэннем. Разгорнутая спасылка можа давацца як у форме кароткага тлумачэння, так і ў форме грунтоўнага вызначэння.

Прыклады:

**«БЕЛАРУ́СКІ ПІЯНЕ́Р»**, часопіс для дзяцей, які выдаваўся ў 1924—29, гл. *«Бярозка»*;

**ПА́НЦЫРНЫЯ БАЯ́РЫ**, група служылых людзей, сялян у ВКЛ у 14—17 ст., гл. ў арт. *Баяры.*

6. Унутрытэкставыя спасылкі даюцца ў тэксце і паказваюць назвы артыкулаў, у якіх ёсць спецыяльныя ці дадатковыя звесткі пра разглядаемае паняцце. У энцыклапедычным выданні не заўсёды магчыма і не заўсёды мэтазгодна даваць у адным артыкуле вычарпальныя звесткі па тым ці іншым пытанні. У такіх выпадках звесткі ў артыкулах сумежнай тэматыкі дапаўняюць змест артыкула, з якога даецца спасылка. Сістэма ўнутрытэкставых спасылак памагае зрабіць энцыклапедыю сістэматызаваным зборам пэўнага кола ведаў.

7. Унутрытэкставыя спасылкі могуць быць:

а) ад прыватных тэрмінаў да больш агульных і да асноўных абагульняльных артыкулаў пэўнага тэматычнага цыкла.

Прыклады:

У артыкуле **РАГАВІЦА** можна зрабіць спасылку на артыкул *Вока*;

У артыкуле **БА́НКАЎСКІ КРЭДЫ́Т** можна зрабіць спасылку на артыкулы *Крэдыт* і *Банк*.

б) Ад агульных тэрмінаў да прыватных.

П р ы к л а д ы :

У артыкуле **АЦЯПЛЕ́ННЕ** трэба зрабіць спасылкі на артыкулы *Вадзяное ацяпленне, Паравое ацяпленне, Пячное ацяпленне* і інш.

в) Да артыкулаў сумежнай тэматыкі.

г) У аглядных артыкулах могуць давацца спасылкі на артыкулы, у якіх асвятляюцца спецыяльныя пытанні гэтай тэмы.

П р ы к л а д ы :

У артыкуле **ВЯЛІ́КАЯ АЙЧЫ́ННАЯ ВАЙНА́ 1941—45** патрэбны спасылкі на артыкулы *Партызанскі рух у Вялікую Айчынную вайну, Акупацыйны рэжым, Антыфашысцкі рух, Беларуская аперацыя 1944* і інш.

8. Унутрытэкставыя спасылкі могуць быць не толькі на артыкулы, але і на іх часткі.

П р ы к л а д :

У артыкуле **АРМЯ́НЕ** можна зрабіць спасылку: «Гл. таксама раздзелы «Гісторыя», «Гаспадарка», «Культура» ў арт. *Арменія*».

9. У тэксце артыкула ўнутрытэкставыя спасылкі даюцца звычайна адзін раз, пры першым упамінанні тэрміна. Выключэнні дапускаюцца ў комплексных артыкулах, у якіх спасылкі на адзін і той жа тэрмін могуць давацца ў розных раздзелах. Нельга злоўжываць унутрытэкставымі спасылкамі. Вялікая іх колькасць без асаблівай на гэта патрэбы робіць цяжкім чытанне артыкулаў, перашкаджае засваенню зместу, адцягвае ўвагу чытача ад асноўнай тэмы, і ў яго ствараецца ўражанне, што засвоіць гэта канкрэтнае пытанне нельга, пакуль не азнаёмішся з усім комплексам сумежных артыкулаў.

10. Спасылкі на біяграфічныя артыкулы даюцца толькі ў вельмі неабходных выпадках:

а) у артыкулах пра навуковыя законы (правілы, формулы, тэарэмы і інш.), названыя імем іх адкрывальніка, а таксама ў артыкулах пра машыны, прылады і г.д., названыя імем іх вынаходніка, — на артыкулы пра гэтых асоб;

б) у артыкулах пра навуковыя тэорыі, кірункі і школы (філасофскія, літаратурныя, мастацкія і інш.) — на артыкулы пра заснавальнікаў (стваральнікаў) ці асабліва выдатных прадстаўнікоў гэтага кірунку (школы, тэорыі);

в) у артыкулах, прысвечаных палітычным дзеячам, дзеячам літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі, тэатра, кіно, калі гэтыя асобы цесна звязаны паміж сабой у сваёй дзейнасці ці калі адна асоба непасрэдна працягвае і развівае традыцыі творчасці другой асобы;

г) у аглядных (гістарычных і інш.) артыкулах — на артыкулы пра асоб, якія адыгралі пэўную ролю ў адносінах да той ці іншай з'явы.

11. Спасылкі не даюцца на артыкулы пра шырока вядомых палітычных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў навукі, літаратуры, мастацтва, пра якіх чытачу зразумела, што ёсць артыкулы ў энцыклапедыі.

12. Артыкулы і тэрміны могуць быць звязаны знешнімі і ўнутранымі спасылкамі не толькі з адным, але і з некалькімі артыкуламі, прычым як з папярэднімі (ужо надрукаванымі ў тамах), так і з наступнымі артыкуламі, яшчэ не надрукаванымі. Спасылкі на ўжо надрукаваныя артыкулы патрабуюць ад аўтара і рэдактара ўважлівага азнаямлення з іх зместам, каб пераканацца ў правільнасці і мэтазгоднасці спасылак, якія даюцца. Спасылкі на артыкулы тамоў, што не выйшлі, патрабуюць самага сур'ёзнага вывучэння пытання, ці будуць яны істотна дапаўняць тэму, асветленую ў артыкуле, ад якога дадзена спасылка.

13. Выдзеленыя *курсівам* спасылачныя тэрміны (словы) павінны дакладна адпавядаць назвам артыкулаў у БелЭн. Адхіленні ад дакладнай назвы дапускаюцца толькі ў адносінах склону ці ліку. Але, калі можна спасылацца на артыкул, назва якога стаіць у адзіночным ліку, а спасылка будзе ў множным, то нельга рабіць спасылку ў тэксце са слова адзіночнага ліку на назву артыкула ў множным ліку. У апошнім выпадку спасылка можа быць дадзена ў дужках з паметай «гл.».

14. У некаторых выпадках, калі пералік артыкулаў, на якія трэба даць спасылку з іх поўнай назвай, займае многа месца, дазваляецца даваць спасылкі ў форме: «гл. адпаведныя арт.», «пра кожны (ае)... гл. асобны артыкул».

15. Пажадана пазбягаць спасылак у дэфініцыях (гл. раздзел «Вызначэнне паняццяў»).

У дэфініцыях спасылкі дапускаюцца ў наступных выпадках:

а) калі спасылка робіцца на артыкул, поўнасцю падпарадкаваны па сэнсе паняццю, якое вызначаецца.

П р ы к л а д ы:

А́ТАМНЫ РУХАВІ́К, устаноўка, якая працуе на энергіі *ядзернага паліва*;

**БАЛОТАЗНА́ЎСТВА**, навука пра *балоты*.

б) Калі ў азначальнай частцы дэфініцыі выкарыстана паняцце больш высокай класіфікацыі.

Прыклады:

**АНТРАПАГЕНЕ́З**, адзін з асноўных раздзелаў *антрапалогіі*;

**АНГЛІ́ЙСКАЯ МО́ВА**, адна з *германскіх моў...*;

**АРАБЕ́СКІ**, складаны, насычаны *арнамент...*

в) Калі ў дэфініцыі нельга абысціся без тэрміна, імя, назвы, якія ў артыкуле няма магчымасці ці няма патрэбы тлумачыць.

16. Тэрміны, на якія даюцца спасылкі як знешнія, так і ўнутрытэкставыя, набіраюцца курсівам. Набраная курсівам назва артыкула, да якога пасылаюць чытача, пачынаецца з вялікай літары, за выключэннем выпадкаў, калі слова (словы), на якое спасылаюцца, арганічна ўваходзіць у фразу.

Прыклады:

На аснове гэтага ў 1861 А.М.Бутлераў сфармуляваў тэорыю хімічнай будовы арганічных рэчываў (гл. *Хімічнай будовы тэорыя*);

Летам насілі саламяныя капелюшы — *брылі*, зімой — аўчынныя кучмы або заечыя *аблавухі*.

17. Паметы «гл»., «гл. таксама» ставяцца:

а) у спасылках тыпу: **«САВЕ́ЦКАЯ БЕЛАРУ́СЬ»**, кінастудыя, гл. *«Беларусьфільм»*;

б) у канцы артыкула, калі спасылка робіцца на дадатковыя, сумежныя па тэме артыкулы.

Прыклады:

Ад артыкула **АБАРО́ТНЫЯ ФО́НДЫ** трэба зрабіць спасылку на сумежны артыкул: Гл. таксама *Абаротныя сродкі*;

ад артыкула **А́ТАМНАЯ БО́МБА** трэба зрабіць спасылку: Гл. таксама *Вадародная бомба, Ядзерная зброя, Атамны выбух*;

в) у тэксце артыкула, калі слова, на якое спасылаюцца, узята ў дужкі.

Прыклады:

Алейнымі фарбамі (гл. *Фарбы*) пішуць карціны на палатне, драўлянай або металічнай дошцы...

18. Спасылкі ў бібліяграфіі робяцца ў форме: «літ. гл. пры арт.» або «літ. гл. таксама пры арт...».

19. Спасылкі выкарыстоўваюцца не толькі ў адносінах да артыкулаў і літаратуры ў бібліяграфіі, але да ілюстрацый, карт (гл. раздзел «Ілюстраванне артыкулаў»).

# X. ДАТЫ

1. Кожная гістарычная з'ява ці падзея, якая апісваецца ў артыкулах БелЭн, павінна мець як мага больш дакладную дату.

2. У залежнасці ад важнасці падзеі ці з'явы, а таксама ад наяўнасці навукова праверaных храналагічных звестак ужываюцца наступныя віды датавання:

а) Паказваецца дакладны каляндарны час падзеі ці з'явы (год, месяц, дзень, а ў выключных выпадках — гадзіны і мінуты).

б) Паказваецца год ці год і месяц.

в) Паказваецца стагоддзе ці стагоддзе і дзесяцігоддзе.

г) Паказваецца тысячагоддзе.

3. У некаторых выпадках (гэта залежыць ад фактычных звестак, якія мае навука, ці ад прынятай у артыкуле падрабязнасці датавання) падзея датуецца не месяцам, годам, стагоддзем ці тысячагоддзем, а паказам на частку месяца, года і г.д.: «у 1-й пал.», «у 2-й пал.» (для стагоддзяў і тысячагоддзяў таксама «ў 1-й чвэрці», «у 2-й чвэрці», «у 3-й чвэрці») ці «ў пачатку», «у канцы», «у сярэдзіне» (месяца, года, дзесяцігоддзя, стагоддзя, тысячагоддзя).

4. Для многіх гістарычных падзей і з'яў неабходна паказваць іх храналагічныя рамкі. Пры гэтым прамежкі часу паміж дзвюма датамі абазначаюцца працяжнікам. Калі абодва гады адносяцца да аднаго і таго ж стагоддзя, то другая дата абазначаецца дзвюма апошнімі лічбамі: «руска-японская вайна 1904—05», «2-я сусветная вайна 1939—45». Калі ж гады адносяцца да розных стагоддзяў, то абедзве даты пішуцца поўнасцю: «1840—1900» (гады жыцця Ф.К.Багушэвіча), «1799—1837» (гады жыцця А.С.Пушкіна).

5. У артыкулах, прысвечаных падзеям вялікага гістарычнага значэння, асабліва падзеям новага і навейшага часу, звычайна паказваецца год, месяц і дзень. У прыватнасці, гэта адносіцца

да датавання з'ездаў, канферэнцый, кангрэсаў, сесій, законаў, пастаноў, міжнародных дагавораў і пагадненняў, важнейшых ваенных падзей і інш. Прыводзячы даты гістарычных падзей, трэба дакладна паказваць, да якога моманту адносяцца гэтыя даты: да моманту падпісання ці апублікавання дакумента, адкрыцця ці заснавання ўстановы, да моманту ўступлення войск у горад ці поўнага вызвалення яго, да пачатку баёў ці іх канца, напісання працы ці яе выдання і г.д.

6. Даты звычайна пішуцца арабскімі лічбамі.

7. Для абазначэння дат прыняты наступны стандарт:

тысячагоддзе — лічба з нарашчэннем і слова «тысячагоддзе»: «1-е тысячагоддзе» або скарочана «тыс.» — «1-е тыс.»;

стагоддзе — лічба без нарашчэння і скарочанае слова «стагоддзе»: «18 ст.», «20 ст.»;

дзесяцігоддзе — лічба з нарашчэннем і скарочанае слова «гады»: «1870-я г.», «1960-я г.»;

год — лічба без нарашчэння і без слова «год»: «1918» (навучальны год, тэатральны сезон, гаспадарчы ці бюджэтны год, калі яны не супадаюць з каляндарным, абазначаюцца лічбамі, якія аддзяляюцца рыскамі: «1967/68 навуч. г.»; у астатніх выпадках рыска пры абазначэнні гадоў не ўжываецца);

месяц — абазначаецца лічбай, калі паказваюцца месяц, дзень і год, ці даецца скарочаная яго назва (калі паказваецца толькі месяц і год або дзень і месяц): студзень — студз., люты — люты, сакавік — сак., жнівень — жн., верасень — вер., кастрычнік — кастр., лістапад — ліст., снежань — снеж.;

дзень — лічба без нарашчэння: «17.9.1939». У біяграфічных артыкулах, у датах жыцця і смерці, якія прыводзяцца пасля прозвішча і імя дзеяча, месяцы паказваюцца арабскай лічбай, напрыклад, 12.3.1918 (а не 12.III.1918); калі ж дзень невядомы, а даецца толькі месяц нараджэння, то яго трэба пісаць словам, напрыклад, «жн. 1919»;

гадзіны і мінуты — лічбы без нарашчэння і скарочаныя словы «гадз», «мін»: «3 гадз 15 мін», «19 гадз 40 мін».

8. Калі дата падзеі (напрыклад, дата нараджэння ці смерці асобы, якой прысвечаны артыкул) невядомыя, то гэта агаворваецца словамі «г. невяд.» (год невядомы), «г. н. невяд.» (год нараджэння невядомы), «г. см. невядомы» (год смерці невядомы), «г. н. і см. невядомыя» (гады нараджэння і смерці невядомыя). Замест слоў «г. н. невяд.», «г. см. невяд.» можна ставіць пытальнік (?).

9. Калі вядома прыблізная дата, то яна суправаджаецца паметай «каля», або каля яе ставіцца пытальнік (1800?). Калі ж

у крыніцах паказваюцца розныя даты, то другая дата даецца са словамі «паводле іншых крыніц» або «ці» (пры абазначэнні гадоў нараджэння і смерці). Можна таксама пісаць (у залежнасці ад наяўных звестак): «н. паміж 1596—1605...», «пасля 1700» і г.д.

Прыклад:

МСЦІСЛА́ВЕЦ Пётр Цімафеевіч (г. н. невяд. — каля 1580) або (? — каля 1580).

10. Даты падзей, якія адбываліся да пачатку нашай эры, умоўна абазначаюцца словамі «да н.э.» (да нашай эры): «4 ст. да н.э.», «375 да н.э.». Калі апісваюцца падзеі апошніх стагоддзяў ці гадоў да пачатку нашай эры і першых стагоддзяў ці гадоў пасля пачатку нашай эры, каб пазбегнуць блытаніны, пры датах ставяцца паметы «н.э.», «да н.э.»: «1 ст. н.э.», «2 ст. да н.э. — 3 ст. н.э.», «200 да н.э.».

11. Даты гісторыі Беларусі, Расіі, б. СССР, усе даты гісторыі іншых краін даюцца па новым каляндарным стылі. Даты гісторыі б. СССР з моманту Кастрычніцкай рэвалюцыі — 25.10(7.11).1917 і да прыняцця новага стылю (31.1.1918), а таксама ўсе даты, якія адносяцца да перыяду паміж Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцыямі, даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках). Даты важных гістарычных падзей даюцца ў двух стылях — старым і новым (у дужках). У двух стылях даюцца даты выхаду дарэвалюцыйных перыядычных выданняў (газет, часопісаў).

12. Пераводзячы стары (юліянскі) каляндарны стыль у новы (грыгарыянскі), заўсёды неабходна да дат старога стылю дадаць:

10 сутак — для дат з 5 кастрычніка 1582 г. да 18 лютага 1700 г. ўключна.

11 сутак — для дат з 19 лютага 1700 г. да 17 лютага 1800 г. ўключна.

12 сутак — для дат з 18 лютага 1800 г. да 16 лютага 1900 г. ўключна.

13 сутак — для дат з 17 лютага 1900 г.

Акрамя таго, трэба памятаць, што люты мае 29 сутак у кожным высакосным годзе.

13. У тэксце артыкулаў даты звычайна даюцца без дужак.

14. 1-я і 2-я сусветныя, Вял. Айчынная войны — гэта залежыць ад кантэксту — могуць датавацца (гады даюцца без дужак) ці не датавацца.

15. У артыкулах пра перайменаваныя геаграфічныя пункты дата перайменавання паказваецца ці ў назве артыкула, ці ў тэксце.

Прыклады:

**СЛА́ЎГАРАД** (да 1944 Прапойск);

**ДЗЯРЖЫ́НСК** (да 1932 Койданава).

Ва ўсіх спасылачных артыкулах пра перайменаваныя геаграфічныя пункты таксама паказваецца дата перайменавання.

Прыклад:

**КЁНІГСБЕРГ**, назва горада *Калінінграда* да 1946.

16. Ва ўсіх артыкулах, дзе прыводзяцца факты прысваення вышэйшых ганаровых званняў, вучоных званняў і ступеняў і г.д., а таксама прысуджэння прэмій, гэтыя звесткі датуюцца ў дужках: нар. артыст Беларусі (1948), акад. АН Беларусі (1943; чл.-кар. 1933), Герой Сац. Працы (1943).

17. Даты жыцця і дзейнасці ў артыкулах пра айчынных дзеячаў звычайна даюцца ў новым стылі. Дакладныя даты нараджэння і смерці даюцца заўсёды, калі яны вядомыя.

Прыклад:

**ГОЛЬ** (Gaulle) Шарль дэ (22.11.1890, Ліль — 9.11.1970).

Калі гады жыцця дакладна не высветлены, а датуюцца навуковай літаратурай прыблізна, то ставіцца: «каля 1840», «паміж 1311 і 1315», «пасля 1910». У некаторых выпадках, калі дата вядомая, але навука сумняваецца ў яе дакладнасці, пасля даты ставіцца пытальнік (?).

Для жывых дзеячаў даты нараджэння даюцца з паметай «н.» (нарадзіўся).

18. Ва ўсіх біяграфічных артыкулах пра дзеячаў паказваецца:

а) для лаўрэатаў прэмій — год прысуджэння прэміі;

б) у тых выпадках, калі ў біяграфічных артыкулах паказваюцца ганаровыя званні («народны артыст», «народны мастак», «народны паэт», «народны пісьменнік», «заслужаны дзеяч навукі», «заслужаны дзеяч мастацтваў» і г.д.), абавязкова паказваецца дата, калі прысвоена званне.

19. У артыкулах пра дзеячаў навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва і інш., а таксама ў артыкулах па гісторыі навукі і культуры паказваюцца даты (год, а ў выключных выпадках і месяц ці месяц і дзень) апублікавання ці напісання выдатных твораў, адкрыццяў ці вынаходстваў гэтай асобы, якія зрабілі ўплыў на развіццё навукі і культуры ці адыгралі важную гістарычную ролю. Калі паміж напісаннем і першай публікацыяй прайшоў доўгі час, мэтазгодна паказваць абедзве

даты. Калі паўторныя выданні істотна адрозніваюцца ад першых і маюць самастойнае значэнне, то могуць быць паказаны даты і гэтых выданняў.

Даты пішуцца ў дужках пасля назвы твора, адкрыцця ці вынаходства.

20. У біяграфічных артыкулах пра манархаў, рэгентаў, прэзідэнтаў і інш. пасля імя ў дужках даюцца гады жыцця (як і ва ўсіх біяграфічных артыкулах), а гады праўлення паказваюцца ніжэй у квадратных дужках. Пры гэтым год, які абазначае канец праўлення, паказваецца і ў тых выпадках, калі ён супадае з годам смерці.

Прыклад:

**АЛЯКСА́НДР I** (23.12.1777 — 19.12.1825), расійскі імператар [1801—25].

У іншых артыкулах даты, якія абазначаюць гады праўлення, пішуцца пасля імя і бяруцца ў квадратныя дужкі.

Прыклад:

Пры Вітаўту [1392—1430]...

21. Калі ў тэксце артыкулаў і ў табліцах год паказваецца лічбай без «г.», неабходна пільнавацца, каб не ўзнікла блытаніны. Нельга, напрыклад, пісаць: «Здабыча вугалю ў млн. т. 1913—29, 1967—595», бо пры такім напісанні выходзіць, што лічбы азначаюць арыфметычнае дзеянне — адыманне. Трэба пісаць: «Здабыча вугалю (млн. т.): 29 у 1913, 595 у 1967» (пасля коскі з лічбай 1913 робіцца інтэрвал, інакш атрымаецца дзесятковы дроб 1913,595).

# XI. АДЗІНКІ ФІЗІЧНЫХ ВЕЛІЧЫНЬ

БелЭн карыстаецца адзінкамі фізічных велічынь Міжнароднай сістэмы адзінак (СІ, SI — Systeme International) у адпаведнасці са стандартам ДАСТ 8.417 — 81 (СТ СЭУ 1052—78), які патрабуе абавязковага выкарыстання адзінак СІ у навуцы, тэхніцы, народнай гаспадарцы, выдавецкай і выкладчыцкай дзейнасці.

Міжнародная сістэма адзінак (СІ, абрэвіятура СІ чытаецца і вымаўляецца раздзельна «эс-і», а не разам «сі») уключае сем асноўных адзінак: даўжыні — метр (м), масы — кілаграм (кг), часу — секунду (с), сілы электрычнага току — ампер (А), тэрмадынамічнай тэмпературы — кельвін (К), колькасці рэчыва — моль (моль), сілы святла — кандэлу (кд), дзве дадатковыя адзінкі: плоскага вугла — радыян (рад) і прасторавага (цялеснага) вугла — стэрадыян (ср), а таксама вытворныя адзінкі: скорасці — метр за секунду (м/с), шчыльнасці — кілаграм на кубічны метр (кг/м$^3$), энергіі — джоўль (Дж), ціску — паскаль (Па) і інш. (гл. табл. 1). Структура СІ і спосаб утварэння вытворных адзінак фізічных велічынь дазваляюць ахапіць усе галіны навукі, тэхнікі і вытворчасці для выражэння лікавых характарыстык розных з'яў, працэсаў, машын, механізмаў, збудаванняў і прыстасаванняў.

## АСОБНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ ПА ВЫКАРЫСТАННІ АДЗІНАК ФІЗІЧНЫХ ВЕЛІЧЫНЬ

1. Асноўныя, дадатковыя і найважнейшыя вытворныя адзінкі СІ, якія рэкамендуюцца да выкарыстання ў БелЭн, пададзены ў табл. 1. Разам з гэтымі адзінкамі можна карыстацца і інш. вытворнымі адзінкамі СІ, якія атрымліваюцца паводле пэўных правіл, а таксама пазасістэмнымі адзінкамі, якія дапускаюцца да карыстання нароўні з адзінкамі СІ (гл. табл. 2).

*Табліца 1*

**Асноўныя, дадатковыя і найважнейшыя вытворныя адзінкі СІ, якія рэкамендуюцца да карыстання ў БелЭн**

| Велічыня | Адзінка | |
|---|---|---|
| | Найменне | Абазначэнне |
| 1 | 2 | 3 |
| **Прастора і час** | | |
| Даўжыня | метр | м |
| Плошча | квадратны метр | $м^2$ |
| Аб'ём, умяшчальнасць | кубічны метр | $м^3$ |
| Час | секунда | с |
| Плоскі вугал | радыян | рад |
| Прасторавы (цялесны) вугал | стэрадыян | ср |
| Лінейная скорасць | метр за секунду | м/с |
| Лінейнае паскарэнне | метр за секунду ў квадраце | $м/с^2$ |
| Вуглавая скорасць | радыян за секунду | рад/с |
| Вуглавое паскарэнне | радыян за секунду ў квадраце | $рад/с^2$ |
| **Перыядычныя з'явы, ваганні і хвалі** | | |
| Перыяд | секунда | с |
| Частата перыядычнага працэсу | герц | Гц |
| Частата вярчэння | секунда ў мінус першай ступені | $с^{-1}$ |
| Даўжыня хвалі | метр | м |
| Хвалевы лік | метр у мінус першай ступені | $м^{-1}$ |
| **Механіка** | | |
| Маса, грузападымальнасць | кілаграм | кг |
| Шчыльнасць, аб'ёмная маса | кілаграм на кубічны метр | $кг/м^3$ |
| Удзельны аб'ём | кубічны метр на кілаграм | $м^3/кг$ |
| Масавы расход | кілаграм за секунду | кг/с |
| Аб'ёмны расход | кубічны метр за секунду | $м^3/с$ |
| Імпульс (колькасць руху) | кілаграм-метр за секунду | кг·м/с |
| Момант імпульсу | кілаграм-метр у квадраце за секунду | $кг \cdot м^2/с$ |
| Момант інерцыі (дынамічны) | кілаграм-метр у квадраце | $кг \cdot м^2$ |
| Сіла, сіла цяжару, вага | ньютан | Н |
| Момант сілы | ньютан-метр | Н·м |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Імпульс сілы | ньютан-секунда | Н·с |
| Ціск, механічнае напружанне | паскаль | Па |
| Работа, энергія | джоўль | Дж |
| Магутнасць | ват | Вт |
| **Цеплавыя з'явы** | | |
| Тэмпература (рознасць тэмператур) | кельвін | К |
| Тэмпературны каэфіцыент | кельвін у мінус першай ступені | $К^{-1}$ |
| Тэмпературны градыент | кельвін на метр | К/м |
| Цеплыня (колькасць цеплыні) | джоўль | Дж |
| Удзельная цеплыня | джоўль на кілаграм | Дж/кг |
| Цеплаёмістасць | джоўль на кельвін | Дж/К |
| Удзельная цеплаёмістасць | джоўль на кілаграм-кельвін | Дж/(кг·К) |
| Энтрапія | джоўль на кельвін | Дж/К |
| **Электрычнасць і магнетызм** | | |
| Сіла электрычнага току | ампер | А |
| Шчыльнасць электрычнага току | ампер на квадратны метр | $А/м^2$ |
| Электрычны зарад (колькасць электрычнасці) | кулон | Кл |
| Электрычнае напружанне, электрычны патэнцыял, рознасць электрычных патэнцыялаў, ЭРС | вольт | В |
| Напружанасць электрычнага поля | вольт на метр | В/м |
| Электрычная ёмістасць | фарад | Ф |
| Электрычнае супраціўленне | ом | Ом |
| Удзельнае электрычнае супраціўленне | ом-метр | Ом·м |
| Магнітная індукцыя | тэсла | Тл |
| Магнітны паток | вебер | Вб |
| Напружанасць магнітнага поля | ампер на метр | А/м |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| Індуктыўнасць, узаемная індуктыўнасць | генры | Гн |
| Магнітны момант | ампер–квадратны метр | $А \cdot м^2$ |
| Электрамагнітная энергія | джоўль | Дж |
| Актыўная магутнасць | ват | Вт |
| **Оптыка, электрамагнітнае выпрамяненне** | | |
| Сіла святла | кандэла | кд |
| Светлавы паток | люмен | лм |
| Светлавая энергія | люмен–секунда | $лм \cdot с$ |
| Асветленасць | люкс | лк |
| Свяцільнасць (светнасць) | люмен на квадратны метр | $лм/м^2$ |
| Яркасць | кандэла на квадратны метр | $кд/м^2$ |
| Паток выпрамянення | джоўль на квадратны метр | $Дж/м^2$ |
| Энергія выпрамянення | джоўль | Дж |
| **Акустыка** | | |
| Гукавы ціск | паскаль | Па |
| Аб'ёмная скорасць | кубічны метр за секунду | $м^3/с$ |
| Скорасць гуку | метр за секунду | м/с |
| Інтэнсіўнасць гуку | ват на квадратны метр | $Вт/м^2$ |
| Акустычнае супраціўленне | паскаль–секунда на кубічны метр | $Па \cdot с/м^3$ |
| Механічнае супраціўленне | паскаль–секунда на метр | $Па \cdot с/м$ |
| **Фізічная хімія і малекулярная фізіка** | | |
| Колькасць рэчыва | моль | моль |
| Малярная маса | кілаграм на моль | кг/моль |
| Цеплавы эфект хімічнай рэакцыі | джоўль | Дж |
| Малярная энергія | джоўль на моль | Дж/моль |
| Малярная цеплаёмістасць | джоўль на моль–кельвін | $Дж/(моль \cdot К)$ |
| Канцэнтрацыя малекул | метр у мінус трэцяй ступені | $м^{-3}$ |
| Масавая канцэнтрацыя | кілаграм на кубічны метр | $кг/м^3$ |
| Малярная канцэнтрацыя | моль на кубічны метр | $моль/м^3$ |
| Рухомасць іонаў | квадратны метр на вольт–секунду | $м^2/(В \cdot с)$ |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| **Атамная і ядзерная фізіка, радыеактыўнасць** | | |
| Маса (маса спакою) часціцы | кілаграм | кг |
| Дэфект масы | кілаграм | кг |
| Элементарны электрычны зарад | кулон | Кл |
| Энергія сувязі | джоўль | Дж |
| Перыяд паўраспаду, сярэдняя працягласць жыцця | секунда | с |
| Эфектыўнае сячэнне | квадратны метр | $м^2$ |
| Актыўнасць нукліду | бекерэль | Бк |
| Энергія іанізавальнага выпрамянення | джоўль | Дж |
| Паглынутая доза іанізавальнага выпрамянення (паглынутая доза), керма | грэй | Гр |
| Эквівалентная доза іанізавальнага выпрамянення | зіверт | Зв |
| Экспазіцыйная доза рэнтгенаўскага і гама–выпрамянення | кулон на кілаграм | Кл/кг |

*Табліца 2*

**Адзінкі, якія дапускаюцца да карыстання ў БелЭн нароўні з адзінкамі СІ**

| Велічыня | Адзінка | | Значэнне ў адзінках СІ |
|---|---|---|---|
| | Найменне | Абазначэнне | |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Даўжыня | астранамічная адзінка | а.а. | $1{,}496 \cdot 10^{11}$ м |
| | светлавы год | св. год | $9{,}460 \cdot 10^{15}$ м |
| | парсек | пк | $3{,}086 \cdot 10^{16}$ м |
| | марская міля | міля | 1852 м |
| Маса | атамная адзінка масы | а.а.м. | $1{,}660 \cdot 10^{-27}$ м |
| | карат | кар | $2 \cdot 10^{-4}$ кг |
| | тона | т | $10^3$ кг |

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| Час*) | мінута | мін | 60 с |
| | гадзіна | гадз | 3600 с |
| | суткі | сут | 86 400 с |
| Скорасць | вузел | вуз | 0,514 м/с |
| Паскарэнне | гал | Гал | $10^{-2}$ м/с$^2$ |
| Частата вярчэння | абарот за секунду | аб/с | 1 с$^{-1}$ |
| | абарот за мінуту | аб/мін | (1/60)с$^{-1}$ = = 0,017 с$^{-1}$ |
| Ціск | бар | бар | $10^5$ Па |
| Плоскі вугал | градус | ...° | 1,745·$10^{-2}$ рад |
| | мінута | ...′ | 2,909·$10^{-4}$ рад |
| | секунда | ...″ | 4,848·$10^{-6}$ рад |
| | град (гон) | град | ($\pi$/200) рад |
| Плошча | гектар | га | $10^4$м$^2$ |
| Аб'ём, умяшчальнасць | літр | л | $10^{-3}$ м$^3$ |
| Энергія | электронвольт | эВ | 1,602·$10^{-19}$ Дж |
| Аптычная сіла | дыяптрыя | дптр | 1 м$^{-1}$ |
| Механічнае напружанне | ньютан на квадратны міліметр | Н/мм$^2$ | 1 МПа |
| Поўная магутнасць (у электратэхніцы) | вольт-ампер | В·А | — |
| Рэактыўная магутнасць (у электратэхніцы) | вар | вар | — |

*) Дапускаецца выкарыстоўваць таксама тыдзень (тыдз), месяц (мес), год, стагоддзе і тысячагоддзе.

2. Акрамя асноўных і вытворных адзінак СІ можна карыстацца кратнымі і долевымі адзінкамі, утворанымі пры дапамозе адпаведных прыставак (гл. табл. 3). Напр., нанаметр ($10^{-9}$ м), мілісекунда ($10^{-3}$ с), мікраампер ($10^{-6}$ А), кіладжоўль ($10^{3}$ Дж) і інш. Пры гэтым адзінкі масы грам і тона разглядаюцца, як долевая ($1г = 10^{-3}$ кг) і кратная ($1т = 10^{3}$ кг) адзінкі кілаграма, усе астатнія долевыя і кратныя адзінкі масы ўтвараюцца ад грама: дэцыграм ($10^{-1}$ г), дэкаграм (10 г), атаграм ($10^{-18}$ г) і інш.

3. Расход паліва, металу, цэменту і інш., грузападымальнасць транспартных сродкаў, а таксама характарыстыкі, якія выражаюць колькасць матэрыялу, вызначаюць масу адпаведнага аб'екта і вымяраюцца ў кілаграмах або тонах.

4. Для масы каштоўных камянёў і жэмчугу ўжываюць долевую адзінку масы карат: 1 кар = 200 мг = 0,2 г = $= 2 \cdot 10^{-4}$ г.

5. Нагрузка будаўнічых канструкцый і рухомых тэхнічных сродкаў на фундамент ці інш. апору, снегавая нагрузка на дах дамоў, грузападымальная сіла механізмаў і машын вызначае вагу адпаведнага аб'екта і вымяраецца ў ньютанах (Н), кіланьютанах (кН) і інш.

6. Тэмпературу (рознасць тэмператур) можна выражаць у кельвінах (К) і градусах Цэльсія ($^{o}$С), сувязь паміж якімі вызначаецца наступным чынам:

$$T(K) = t(^{o}C) + 273,15.$$

*Табліца 3*

Множнікі і прыстаўкі для ўтварэння дзесятковых кратных і долевых адзінак і іх найменняў

| Множнік | Прыстаўка | | Множнік | Прыстаўка | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Найменне | Абазначэнне | | Найменне | Абазначэнне |
| $10^{18}$ | экса | Э | $10^{-1}$ | дэцы | д |
| $10^{15}$ | пета | П | $10^{-2}$ | санты | с |
| $10^{12}$ | тэра | Т | $10^{-3}$ | мілі | м |
| $10^{9}$ | гіга | Г | $10^{-6}$ | мікра | мк |
| $10^{6}$ | мега | М | $10^{-9}$ | нана | н |
| $10^{3}$ | кіла | к | $10^{-12}$ | піка | п |
| $10^{2}$ | гекта | г | $10^{-15}$ | фемта | ф |
| $10^{1}$ | дэка | да | $10^{-18}$ | ата | а |

Вынікі практычных вымярэнняў тэмпературы (т-ра плаўлення, т-ра кіпення і інш.) лепш выражаць у градусах Цэльсія ($^{o}$С).

7. Пры лікавых значэннях тэмпературы ставіцца абазначэнне кельвіна (К) ці градуса Цэльсія ($^{o}$С), пры гэтым трэба пісаць 1320 К ці 28 $^{o}$С, а не 1320$^{o}$ ці 28$^{o}$.

8. Скарочанае найменне адзінкі называецца яе абазначэннем. Абазначэнні адзінак, утвораных ад прозвішчаў вучоных, пішуцца з вялікай літары (напр., ампер — А, бекерэль — Бк), абазначэнні астатніх — з малой літары (напр., секунда — с, люмен — лм, люкс — лк).

9. Пры лікавым значэнні фізічнай велічыні ставіцца абазначэнне адзінкі (скарочанае найменне), у тэксце назва адзінкі пішацца поўнасцю. Напр., маса цела 71 кг, аднак, «маса цела вымяраецца ў кілаграмах».

10. Як абазначэнне адзінкі пры лікавым значэнні, так і поўная назва (найменне) адзінкі набіраюцца прамым шрыфтам.

11. Пры напісанні абазначэння адзінкі пасля лікавага значэння фізічнай велічыні робіцца прабел. Трэба пісаць 25 Вт і 15 Ом, а не 25Вт і 15Ом. Аднак адзінкі вуглавых велічынь: градус (...$^{o}$), мінута (...′) і секунда (...″) пішуцца пры лікавых значэннях без прабелу — 25$^{o}$, 20′, 30″.

12. Пры напісанні дробавых вытворных адзінак рэкамендуецца ўжываць косую рысу (касяк). Пры гэтым абазначэнні адзінак у лічніку і назоўніку запісваюцца ў адзін радок, а ў выпадку наяўнасці здабытку абазначэнняў адзінак у назоўніку — апошні бярэцца ў дужкі. Напр., замест $\frac{\text{м}}{\text{с}}$ і $\frac{\text{А}}{\text{м}^2}$ пішуць м/с і А/м$^2$, а замест $\frac{\text{Дж}}{\text{кг}\cdot\text{К}}$ — Дж/(кг·К).

13. Не дапускаецца камбінаванне абазначэнняў адзінак з іх найменнямі. Напр., нельга пісаць 15 м/секунду ці 15 м за секунду, а трэба 15 м/с.

14. Пры алгебраічных формулах і ўраўненнях адзінкі фізічных велічынь задаюцца спецыяльнымі тлумачэннямі. Напр., нельга пісаць $x = (a + bt)$ м ці $x = (x_0 \mathrm{Sin}\,\omega t)$ м, а трэба $x = a + bt$, дзе x і a — у метрах, b — у метрах за секунду, t — у секундах; $x = x_0 \mathrm{Sin}\,\omega t$, дзе x і $x_0$ — у метрах, $\omega$ — у радыянах за секунду, t — у секундах. Дапускаецца і другі варыянт: $i = i_0 \cos\omega t$, дзе $[i] = [i_0] = \text{А}$, $[\omega] = \text{рад/с}$, $[t] = \text{с}$.

15. Пры напісанні лікавага значэння фізічнай велічыні з указаннем хібнасці і заданні межаў змены некаторай велічыні дапускаецца форма запісу: 12,3 ± 0,1 м замест 12,3 м ± 0,1 м і 20—80 кг замест 20 кг — 80 кг.

# XII. БІБЛІЯГРАФІЯ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Каб павысіць даведачны характар артыкулаў, значная частка іх, асабліва найбольш важныя паняцці, суправаджаецца бібліяграфіяй.

Пытанне пра мэтазгоднасць, аб'ём і характар бібліяграфіі вырашаецца навукова-галіновай рэдакцыяй.

Складанне бібліяграфіі — абавязак аўтара. Разам з аўтарам адказнасць за яе адбор і якасць нясе навукова-галіновы рэдактар.

Усе артыкулы, дзе ёсць унутрытэкставая ці падтэкставая бібліяграфія, абавязкова даюцца на праверку групе бібліяграфіі. Бібліёграф правярае правільнасць бібліяграфічнага апісання, парадак размяшчэння літаратуры ў падтэкставай бібліяграфіі. У неабходных выпадках бібліёграф дае параду ўключыць ці выключыць пэўныя назвы, але канчатковае рашэнне прымае навукова-галіновы рэдактар.

## ПРЫНЦЫПЫ АДБОРУ ЛІТАРАТУРЫ

У бібліяграфію могуць уключацца:

1) рашэнні і пастановы дзяржаўных органаў;

2) крыніцы (зборнікі архіўных матэрыялаў, заканадаўчых і дыпламатычных актаў, іншая дакументальная літаратура);

3) творы вядомых дзеячаў грамадска-палітычнага жыцця, навукі, літаратуры, мастацтва, культуры;

4) навуковыя даследаванні комплекснага і манаграфічнага характару;

5) асноўныя, найбольш грунтоўныя падручнікі для ВНУ;

6) зборнікі артыкулаў, агляды ці паасобныя артыкулы пра канкрэтныя галіны навукі, у якіх асвятляецца яе сучасны стан;

7) навукова-папулярная літаратура, якая шырока асвятляе пытанні артыкула;

8) у выключных выпадках — артыкулы з перыядычных выданняў (калі па закранутым пытанні няма спецыяльных прац), у якіх адлюстроўваюцца апошнія дасягненні навукі, тэхнікі ці культуры і якія багатыя на даведачны матэрыял; энцыклапедычныя артыкулы; аўтарэфераты, калі яны з'яўляюцца адзінымі грунтоўнымі навуковымі даследаваннямі, прысвечанымі пэўным спецыяльным пытанням;

9) абавязкова — найбольш грунтоўныя і поўныя бібліяграфічныя даведнікі і паказальнікі.

Выданні вузкаведамаснага і службовага характару ў бібліяграфію не ўключаюцца.

Убібліяграфіі прыводзіцца літаратура, даступная чытачу. Унікальныя (рэдкія) выданні прыводзяцца ў выключных выпадках, найчасцей у тэксце артыкула.

Дазваляецца, калі гэтага патрабуе змест артыкула, уключаць у бібліяграфію літаратуру, якая ўстарэла, але ў свой час мела важнае значэнне ў асвятленні закранутага пытання, стварыла школу ці кірунак.

Працы, багатыя на фактычны матэрыял, але з недахопамі метадалагічнага ці іншага характару, абавязкова суправаджаюцца ў тэксце кароткімі крытычнымі заўвагамі.

Бібліяграфія ў энцыклапедычных выданнях падзяляецца на ўнутрытэкставую і падтэкставую.

## УНУТРЫТЭКСТАВАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ

Асноўнае патрабаванне да ўнутрытэкставай бібліяграфіі — яе арганічная сувязь са зместам артыкула.

Унутрытэкставая бібліяграфія павінна ўключаць самыя каштоўныя працы аўтара (у бібліяграфічных артыкулах) ці працы, якія адыгралі важную ролю ў развіцці пэўнай галіны навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва, культуры, пэўнай праблемы (у аглядных артыкулах, у асноўных артыкулах пра тэорыі, праблемы і да т.п.)

1) Калі ў артыкулах прыводзяцца назвы навуковых прац і твораў, неабходна даваць дакладную і поўную назву твора на беларускай мове.

Пераклад робіцца з арыгінальнай назвы. Калі назва беларускага ці рускага перакладу адрозніваецца ад арыгінальнай і стала традыцыйнай, то ў артыкуле прыводзяцца абедзве назвы, напрыклад:

«Жыві сярод маланак» М.Уілсана (1949, назва рус. пер. «Жыццё ў імгле»).

Калі назву з іншай мовы цяжка перакласці, даецца беларуская транскрыпцыя, напрыклад:

кн. «Нахашавік» Х.Абавяна (1838).

Назвы твораў на старажытнарускай, старажытнаславянскай мовах у тэксце артыкула даюцца на мове арыгінала, напрыклад:

«Грамматики словенския правильное...» М.Сматрыцкага.

2) У дужках пасля назвы твора абавязкова паказваць дату першай публікацыі ў закончаным выглядзе. Калі дата першай публікацыі і дата напісання аддзелены вялікім прамежкам часу, неабходна даваць абедзве даты — творчую і дату апублікавання з паметай «нап.» і «апубл.». У некаторых выпадках можна даваць толькі дату напісання з паметай «нап».

Для драматургічных твораў паказваецца таксама дата першай пастаноўкі — у тых выпадках, калі п'еса пастаўлена да яе апублікавання ці калі дата пастаноўкі мае асаблівае значэнне.

3) Назвы перыядычных выданняў у тэксце артыкула заўсёды прыводзяцца на мове арыгінала (для моў з кірылічнай і лацінскай графікай) ці ў беларускай транскрыпцыі (для моў з інш. графікай). У дужках даецца беларускі пераклад.

Апісанне ў бібліяграфічнай спасылцы робіцца на мове арыгінала, цытаты прыводзяцца на беларускай мове, напрыклад:

М.Горкі пісаў: «Людзей зусім аднолькавых няма, у кожнага ёсць нешта сваё — і знешняе, і ўнутранае» (Горький М. О литературе. М., 1953. С. 374).

Спасылка, элементы якой цалкам уваходзяць у асноўны тэкст, афармляецца на беларускай мове і ў адпаведнасці з правіламі асноўнага тэксту: прозвішча аўтара звычайна не вылучаюць і ставяць у патрэбным склоне, ініцыялы або імя размяшчаюць перад прозвішчам, назву бяруць у двукоссе, выхадныя звесткі даюць у апісальнай форме, напрыклад:

Этнічная і сацыяльна-бытавая характарыстыка тыпаў беларуса дадзена А.Кіркорам у працы «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі» (1839).

Для кожнага выдання распрацоўваюцца свае прынцыпы шрыфтавога афармлення ўнутрытэкставых бібліяграфічных спасылак.

## ПАДТЭКСТАВАЯ БІБЛІЯГРАФІЯ

У падтэкставай бібліяграфіі даюцца асноўныя працы, якія дапамогуць чытачу глыбей пазнаёміцца з пытаннямі, што асвятляюцца ў энцыклапедычных артыкулах.

У падтэкставай бібліяграфіі разам з беларускай літаратурай даецца ў неабходных выпадках літаратура на мовах краін СНД і на замежных. У літаратуры на замежных мовах павінны прыводзіцца найбольш каштоўныя працы выдатных грамадскіх дзеячаў, вядомых вучоных, дзеячаў навукі і мастацтва. Калі ёсць беларускі ці рускі пераклад, то звычайна прыводзіцца пераклад.

Літаратура на мовах краін СНД і замежных мовах, якія карыстаюцца лацінскай ці кірылічнай сістэмай пісьма, у падтэкставай бібліяграфіі даецца на мове арыгінала. Літаратура на мовах з іншымі сістэмамі пісьма прыводзіцца ў беларускім перакладзе, а ў дужках робіцца памета пра мову.

Літаратура пад артыкуламі размяшчаецца ў наступнай паслядоўнасці: спачатку ўказваюцца кнігі па агульных пытаннях, дзе больш поўна асвятляецца тэма артыкула, потым — па прыватных пытаннях; а ў канцы — бібліяграфічныя паказальнікі.

Апісанне падтэкставай бібліяграфіі робіцца пад рубрыкамі: Творы (*Тв.*), Літаратура (*Літ.*), Публікацыі (*Публ.*) і Крыніцы (*Кр.*).

Пад рубрыкай *Публ.* ў канцы артыкулаў пра асобныя літаратурныя і культурныя помнікі, дакументы і г.д. пералічваюцца найбольш адпаведныя навуковым патрабаванням выданні, дзе публікуюцца гэтыя дакументы. Пад рубрыкай *Кр.* змяшчаюцца ўказы, пастановы, матэрыялы і г.д.

Бібліяграфія да біяграфічных артыкулаў падзяляецца на дзве асноўныя часткі: працы названага аўтара, якія ідуць пад рубрыкай *Тв.*, і літаратура пра яго пад рубрыкай *Літ.* У раздзеле *Тв.* змяшчаецца літаратура на беларускай мове (для замежных аўтараў і аўтараў краін СНД робіцца паметка — Бел. пер.). Творы размяшчаюцца ў наступнай паслядоўнасці: Зб. тв., Тв., Выбр. тв., потым астатнія творы аўтара ў храналагічным парадку.

У раздзеле *Літ.* павінны давацца найбольш грунтоўныя выданні, у якіх адлюстроўваецца сучасны стан навукі ці якія вылучаюцца каштоўным фактычным матэрыялам, наяўнасцю каментарыяў, добрым даведачна-бібліяграфічным апаратам.

Бібліяграфічнае апісанне ў падтэкставай бібліяграфіі адпавядае ДАСТу 7.1—84 «Бібліяграфічнае апісанне дакумента.

Агульныя патрабаванні і правілы апісання» і прызначана для рэдактараў, кантрольных рэдактараў, бібліёграфаў і карэктараў.

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ БІБЛІЯГРАФІЧНАГА АПІСАННЯ

Бібліяграфічнае апісанне — гэта сукупнасць бібліяграфічных звестак пра дакумент, яго састаўную частку ці групу дакументаў, якія павінны даць чытачу найбольш поўнае ўяўленне пра твор і памагчы лёгка і хутка яго адшукаць.

Бібліяграфічнае апісанне складаецца з элементаў, аб'яднаных у галіны, і загалоўка.

Элементы бібліяграфічнага апісання падзяляюцца на абавязковыя (забяспечваюць ідэнтыфікацыю дакумента) і факультатыўныя (даюць дадатковыя звесткі пра яго).

У бібліяграфічным апісанні галіны і элементы дакумента аддзяляюцца адно ад аднаго ўмоўнымі раздзяляльнымі знакамі:

. — кропка

, — коска

: — двухкроп'е

; — кропка з коскай

/ — косая рыска

// — дзве косыя рыскі

( ) — простыя дужкі

[ ] — квадратныя дужкі

= — знак роўнасці

Перад кожнай галіной бібліяграфічнага апісання, акрамя першай, ставіцца кропка.

### Апісанне аднатомнага выдання

Абавязковыя і факультатыўныя элементы апісання:

1) Прозвішча і ініцыялы аўтара (ці аўтараў);
2) Загаловак
   а) падзагаловак (фак.);
   б) звесткі пра адказнасць (фак.);
3) Звесткі пра выданні;
4) Выхадныя звесткі (месца і год выдання);
5) Аб'ём выдання (фак.).

У сувязі са спецыфікай энцыклапедычных выданняў апісанне павінна быць кароткім (з выкарыстаннем толькі абавязковых элементаў).

1. Прозвішча і ініцыялы аўтара (аўтараў).

Пад прозвішчам аўтара (аўтараў) апісваюцца ўсе кнігі, аўтар якіх паказаны на тытульнай старонцы. Пры апісанні твораў двух або трох аўтараў паказваюцца ўсе аўтары. Прозвішчы даюцца ў назоўным склоне і аддзяляюцца адно ад аднаго коскамі. Ініцыялы ставяцца пасля прозвішчаў.

Калі ў кнізе няма ніякіх звестак пра аўтара і аўтарства высветлена па даведніках, прозвішча і ініцыялы аўтара прыводзяцца ў пачатку апісання ў квадратных дужках.

Калі аўтараў больш як тры, апісанне пачынаецца з загалоўка кнігі і прозвішчы аўтараў не паказваюцца.

У бібліяграфічных артыкулах у раздзеле *Тв.* (Соч.) прозвішча аўтара не ставіцца, апісанне пачынаецца з загалоўка. Калі твор напісаны ў сааўтарстве, пасля ўсяго апісання (калі гэта кніга) або пасля назвы артыкула (калі гэта артыкул) у простых дужках на мове выдання прыводзяцца прозвішчы сааўтараў, калі іх не больш як два — з паметай (разам з...), калі больш як тры — з паметай (у сааўт.). Ініцыялы сааўтараў ставяцца перад прозвішчамі.

Прозвішчы аўтараў у пачатку бібліяграфічнага апісання вылучаюць шрыфтам (паўтлустым, разрадкай і г.д.).

2. Загаловак.

Загаловак прыводзіцца ў апісанні так, як ён даецца на тытульнай старонцы. Скарачаць словы ў загалоўку не дазваляецца. Як выключэнне дапускаецца скарачэнне (без парушэння сэнсу і граматычнага ладу фразы) загалоўкаў старадрукаў ці выданняў, стылізаваных пад старыя кнігі. На месцы скарачэння ставіцца шматкроп'е. Скарачаюцца таксама Зборы твораў (Зб. тв.), Творы (Тв.), Выбраныя творы (Выбр. тв.), Избранные произведения (Избр. произв.), Сочинения (Соч.), Собрания сочинений (Собр. соч.), Поўны збор твораў (Поўн. зб. тв.), Полное собрание сочинений (Полн. собр. соч.).

Калі загаловак адсутнічае, а ёсць толькі прозвішча асобы ці назва ўстановы, яго прыводзяць як асноўны загаловак, напрыклад:

*на тыт. старонцы*

Дмитрий Дмитриевич Шостакович

*у апісанні*

Д.Д.Шостакович

Калі загаловак кнігі складаецца з ініцыялаў і прозвішча і ў гэтым выпадку папярэдні і наступны ініцыялы зліваюцца, трэба павялічыць адбіўку паміж імі прыкладна ў 2 разы, напрыклад:

Іваноў І.І.; П.П.Пятроў

Асноўны загаловак, які складаецца з некалькіх фраз, апісваецца паслядоўна, як у кнізе, з тымі ж знакамі прыпынку, напрыклад: Хто такі? Што такое?

Пры адсутнасці знакаў прыпынку фразы аддзяляюцца адна ад адной кропкай, напрыклад: Культура. Рэлігія. Атэізм.

Калі ў зборніку аднаго і таго ж аўтара на тытульнай старонцы няма агульнай назвы, а пералічваюцца некалькі яго твораў, гэтыя назвы даюцца ў апісанні праз кропку з коскай (;).

Калі ў загаловак уваходзіць дата, якая граматычна з ім не звязана, яна аддзяляецца ад загалоўка коскай, у ёй дапускаюцца скарачэнні, напрыклад:

Тэзісы дакладаў Трэцяга з'езда, 22—23 верас.1982 г.

Коска паміж загалоўкам і датай не ставіцца, калі дата змешчана ў простых дужках або перад ёй ёсць другі граматычны знак.

Калі загаловак у кнізе адсутнічае, ён фармулюецца і прыводзіцца ў квадратных дужках як асноўны.

Пры наяўнасці некалькіх паралельных загалоўкаў, прыводзяцца ўсе так, як напісаны на тытульнай старонцы, і аддзяляюцца ад асноўнага загалоўка знакам роўнасці ( = ), напрыклад:

Выбраныя творы = Избранные произведения

а) *падзагаловак* (фак.)

У апісанні прыводзяцца толькі тыя падзагаловачныя звесткі, якія маюць значэнне для характарыстыкі кнігі. Калі іх няма, але гэта неабходна для раскрыцця зместу кнігі, фармулёўку падзагалоўка даюць у квадратных дужках. Падзагаловак аддзяляецца ад асноўнай назвы твора двухкроп'ем (:), напрыклад:

Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця.

б) *звесткі пра адказнасць* (фак.).

Звесткі пра адказнасць: апрацоўка, укладанне зборнікаў, збор матэрыялаў, рэдагаванне, пераклад і г.д. даюць пасля загалоўка ці падзагалоўка з вялікай літары і аддзяляюць іх косай рыскай (/).

Ініцыялы ставяцца перад прозвішчамі, напрыклад:

Пачынальнікі / Склад. Г.В.Кісялёў

Шэкспір У. Санеты /Пер. з англ. У.Дубоўка.

але Гюго В. Отверженные: Пер. с фр.

Дапускаецца скарачэнне падзагаловачных звестак у адпаведнасці з правіламі ДАСТа 7.12.77 («Сокращение русских слов и словосочетаний в библиографическом описании») і складзенымі на іх аснове метадычнымі рэкамендацыямі («Скарачэнне беларускіх слоў і словазлучэнняў у бібліяграфічным апісанні». Мн., 1987).

3. Звесткі пра выданні.

Звесткі пра паўторнасць выдання даюць у скарочанай форме: нумар выдання — арабскімі лічбамі і скарочанае «выд.» («изд.»), або Факс. выд. (Факс. изд.), напр:

2 выд.

ці 3 изд.

Гэтыя звесткі змяшчаюцца пасля загалоўка, а пры наяўнасці падзагалоўка ці звестак пра адказнасць — пасля іх і аддзяляюцца кропкай. Калі гэтыя звесткі адсутнічаюць на тытульнай старонцы, у выхадных звестках, але высветлены па прадмове, бібліяграфічных даведніках, яны прыводзяцца ў квадратных дужках.

4. Выхадныя звесткі (месца і год выдання).

Месца выдання прыводзіцца ў апісанні цалкам і ў назоўным склоне. Скарачаюцца назвы наступных гарадоў: Мінск — Мн., Масква — М., Ленінград — Л., Пецярбург — Пб., Петраград — Пг., Санкт-Пецярбург — Спб.

Калі на кнізе паказаны два месцы выдання, яны прыводзяцца ў апісанні ў адпаведнай паслядоўнасці праз кропку з коскай (;). Пры наяўнасці трох і больш месцаў выдання прыводзіцца толькі першае, а замест астатніх пішуцца словы «і інш.», «и др.», «etc.». Калі месца выдання на тытульнай старонцы адсутнічае, але высветлена па бібліяграфічных даведніках, яно прыводзіцца ў квадратных дужках. Калі месца выдання ўдакладніць не ўдалося, робяць памету «Б.м.».

Звесткі пра месцы выдання ў бібліяграфічным апісанні даюць пасля загалоўка, пры наяўнасці падзагалоўка ці звестак пра адказнасць і нумар выдання — пасля іх і аддзяляюць кропкай.

Год выдання ў бібліяграфічным апісанні прыводзяць пасля звестак пра месцы выдання і аддзяляюць коскай. Год выдання заўсёды пазначаецца арабскімі лічбамі. Калі ў выхадных звестках даюцца дзве даты аднаго стагоддзя, другая дата абазначаецца дзвюма апошнімі лічбамі праз працяжнік (1900—12); калі гады адносяцца да розных стагоддзяў, абедзве прыводзяцца поўнасцю (1899—1901). Калі на тытульнай старонцы, яе адвароце, вокладцы і г.д. год выдання адсутнічае, яго вызначаюць па выхадных звестках або бібліяграфічных даведніках і прыводзяць у апісанні ў квадратных дужках. Калі год выдання высветліць не ўдалося, робяць памету «Б.г.».

## Апісанне шматтомнага выдання

Абавязковыя і факультатыўныя элементы шматтомнага выдання.

1) Прозвішча і ініцыялы аўтара;

2) Загаловак

a) падзагаловак (фак.);

б) звесткі пра адказнасць (фак.);

3) Колькасць тамоў, частак і г.д.;

4) Нумар тома (пры апісанні асобнага тома шматтомнага выдання)

a) загаловак тома (фак.);

5) Звесткі пра выданне;

6) Выхадныя звесткі (месца і год выдання).

Апісанне шматтомнага выдання (або тамоў) робіцца так, як і апісанне аднатомнага выдання. Але ёсць і свае асаблівасці.

Пры апісанні шматтомнага выдання робіцца адно зводнае апісанне, за яго аснову бярэцца тытульны ліст першага тома. У апісанні павінны прысутнічаць усе элементы бібліяграфічнага апісання аднатомнага выдання. У звестках, якія адносяцца да загалоўка, прыводзяцца даныя аб тым, у колькіх тамах выйшла або выходзіць гэта выданне, калі яно яшчэ не завершана, напрыклад:

Энцыклапедыя прыроды Беларусі. Т. 1—5...

або

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 1...

У выхадных звестках прыводзяць гады выдання першага і апошняга тамоў, паміж якімі ставіцца працяжнік, або адзін год, калі ўсе тамы выйшлі на працягу аднаго года. Спецыфіку афармлення года выдання гл. ў раздзеле «Апісанне аднатомнага выдання».

Калі ў шматтомным выданні мянялася назва пры выхадзе асобных тамоў, апісанне робіцца з тытульнага ліста першага тома, а ўсе астатнія змены агаворваюцца ў каментарыях.

Пры апісанні асобнага тома шматтомнага выдання спачатку прыводзяцца прозвішча і ініцыялы аўтара (аўтараў), загаловак усяго шматтомнага выдання, звесткі пра колькасць тамоў, нумар тома і пры неабходнасці яго ўласная назва, якая аддзяляецца ад нумара тома кропкай (.), потым — месца выдання і год выхаду.

Пры апісанні дакумента, які складае частку серыяльнага выдання, але з'яўляецца па сутнасці самастойным выданнем, можна даваць разгорнутую форму апісання, напрыклад:

Артеменко И.И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1976 (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148).

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Віцебская вобласць. Мн., 1985 (Свод памятников истории и культуры народов СССР).

У гэтым выпадку пасля апісання кнігі ў простых дужках прыводзяцца назва серыі, нумар, том, выпуск і г.д.

Пры апісанні кніг, якія не з'яўляюцца шматтомнымі выданнямі і не маюць ніякіх звестак аб гэтым, але па сутнасці дапаўняюць адна адну, калі гэта паказана ў прадмове, пасляслоўі і г.д., гэтыя звесткі прыводзяцца ў квадратных дужках.

### Апісанне састаўной часткі дакумента

Да састаўных частак дакумента адносяцца:

самастойныя творы (артыкул або іншы матэрыял);

частка твора (глава, раздзел, параграф і г.д.), якая мае самастойны загаловак.

У апісанні спачатку прыводзяць звесткі пра састаўную частку дакумента, потым пра дакумент, у якім яна змешчана.

**Схема бібліяграфічнага апісання:**

Звесткі пра састаўную частку дакумента // Звесткі пра дакумент, у якім змешчана састаўная частка.

Перад звесткамі пра дакумент, у якім змешчана састаўная частка, ставяць дзве косыя рыскі // з прагалам у адзін знак перад і пасля гэтага знака, напрыклад:

Бирюлин В.И. Винтокрылые аппараты // Авиация в России. М., 1983.

Крыніцамі звестак пра састаўную частку дакумента з'яўляюцца: прадмова, першая старонка састаўной часткі, тытул, які адносіцца да яе, змест апошняй старонкі тэксту, калі на ёй змешчаны звесткі пра аўтараў, іншых асоб і (або) калектывы, якія прымалі ўдзел у стварэнні і публікацыі састаўной часткі дакумента.

Калі дакумент, у якім змешчана састаўная частка, з'яўляецца кнігай або іншым разавым выданнем, апісанне складаецца так, як і апісанне аднатомнага выдання. Калі састаўная частка дакумента і ўвесь дакумент належаць аднаму аўтару, у апісанні дакумента, дзе змешчана састаўная частка, прозвішча аўтара абавязкова дубліруецца (але шрыфтам не вылучаецца), напрыклад:

Казека Я. Кандрат Крапіва // Казека Я. Няходжанай дарогай. Мн., 1973.

Калі дакумент, у якім змешчана састаўная частка, з'яўляецца серыяльным выданнем, апісанне складаецца па наступнай схеме: элементы апісання — назва выдання; дата вы-

дання (год, дзень і месяц для газет і інш. штотыднёвых выданняў); нумар, выпуск, том (для часопісаў, выданняў, якія працягваюцца). Элементы апісання ў гэтым выпадку аддзяляюцца адзін ад аднаго кропкай. Назвы газет і часопісаў пішуцца без двукосся, напрыклад:

У л а ш ч ы к М. Кніга пра полацкую зямлю // Полымя. 1967. № 4.

Железно-марганцевые отложения северо-восточной части Индийского океана // Докл. АН СССР. 1984. Т. 279, № 2.

Калі састаўная частка дакумента публікавалася ў некалькіх нумарах серыяльнага выдання, якія выходзілі на працягу аднаго года, паказваюцца першы і апошні нумары выдання, дзе публікавалася састаўная частка. У гэтым выпадку яны аддзяляюцца працяжнікам (—), напрыклад:

К р ы в і ц к і Л. Францішак Аляхновіч // Ніва. 1990. № 2—3.

Калі нумары серыяльнага выдання выходзілі на працягу некалькіх гадоў, кожны наступны год выдання аддзяляецца ад папярэдняга кропкай з коскай (;), напрыклад:

П у х о в Д. Камень: Повесть // Аврора. 1984. № 9—12; 1985. № 1.

**Своеасаблівасці апісання састаўной часткі асобных відаў дакументаў.**

Калі састаўная частка дакумента змешчана ў зборы твораў, звесткі пра дакумент, у якім змешчана састаўная частка, прыводзяцца ў адпаведнасці з апісаннем шматтомнага выдання. Пры гэтым прозвішча аўтара не паўтараецца (акрамя выпадкаў, калі без гэтых звестак магчыма match рознае разуменне тэксту апісання), напрыклад:

П а н ч а н к а П. Шчырыя словы // Зб. тв. Мн., 1971. Т. 3.

Г е р а с и м о в С.А. О Григории Козинцеве, моём учителе // Козинцев Г.М. Собр. соч. Л., 1982. Т. 1.

У апісаннях твораў К.Маркса, Ф.Энгельса, У.І.Леніна, якія змешчаны ў Творах, Полном собрании сочинений, а таксама ў выданнях «Архив Маркса и Энгельса» і «Ленинский сборник», выхадныя звесткі (месца і год выдання) апускаюцца, напрыклад:

М а р к с К., Э н г е л ь с Ф. Манифест Коммунистической партии // Соч. 2 изд. Т. 4.

Л е н и н В.И. Предписание к ВСНХ, 30/XI—1918 г. // Ленинский сборник. Т. 39.

Пры апісанні твораў У.І.Леніна побач з беларускім выданнем можна даваць у дужках спасылку на том, дзе яны змешчаны ў Поўным зборы твораў рускага 5-га выдання, напрыклад:

Ленін У.І. Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм // Тв. Т. 14. (Полн. собр. соч. Т. 18).

Пры апісанні твораў К.Маркса і Ф.Энгельса, якія былі напісаны асобна адным з іх, у звестках пра выданне прыводзяцца іх прозвішчы, напрыклад:

Энгельс Ф. Турецкий вопрос // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. 2 изд. Т. 9.

Творы К.Маркса і Ф.Энгельса пажадана даваць па 2-м выданні іх твораў.

Пры апісанні састаўной часткі дакумента дазваляецца замест яе прывесці толькі сам дакумент і старонкі, на якіх змешчана гэта частка, напрыклад:

Мальдзіс А. Тры месяцы пошукаў і сустрэч // Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974.

або

Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974. С. 50—140.

Грамадчанка Т.К. Васіль Каваль // Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985.

або

Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў. Мн., 1985. С. 199—221.

Пры гэтым старонкі паказваюцца пасля года выдання, аддзяляюцца ад яго кропкай і пішуцца з вялікай літары.

**Прыёмы скарачэння бібліяграфічных апісанняў**

Пры запісе адзін за адным бібліяграфічных звестак на розныя дакументы, апублікаваныя ў адным выданні, у другім і наступных апісаннях замест бібліяграфічных звестак пра гэта выданне, якія супадаюць, пішуць: «Там жа».

Пры апісанні твораў аднаго і таго ж аўтара, якія стаяць адзін за адным, замест прозвішча аўтара ў другім і наступным апісаннях прыводзяць словы: «Яго ж» («Его же»), «Іх жа».

# XIII. ТЭХНІКА-АРФАГРАФІЧНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА АФАРМЛЕННЯ АРТЫКУЛАЎ

Артыкулы афармляюцца ў адпаведнасці з патрабаваннямі раздзелаў «Метадычных указанняў для рэдактараў БелЭн». У гэтым раздзеле прадугледжаны некаторыя дадатковыя тэхніка-арфаграфічныя патрабаванні.

## ГЕАГРАФІЧНЫЯ НАЗВЫ

### Складаныя назвы замежных краін

У складаных назвах замежных краін усе словы пішуцца з вялікай літары.

### Розныя геаграфічныя назвы

1. Назвы агульнагеаграфічных, фларыстычных, зоагеаграфічных і ландшафтна-кліматычных паясоў, зон, правінцый, акруг, раёнаў пішуцца з малой літары тады, калі яны паходзяць не ад уласных назваў:

лясная зона
лесатундравая зона
паўночная правінцыя
стэпавая зона
прыморская вобласць.

Калі ж гэтыя назвы паходзяць ад уласных назваў (геаграфічных пунктаў), то пішуцца з вялікай літары:

Аўстралійская вобласць
Гвінейская правінцыя
Карпацкая зоагеаграфічная акруга.

2. Наступныя геаграфічныя вобласці пішуцца з вялікай літары:

Верхняе Паволжа
Далёкі Усход

Забайкалле
Заволжа
Закарпацце
Закаўказзе
Запаляр´е
Зауралле
Зах. Беларусь
Зах. Грузія
Паўд. Урал
Паўн. Захад Еўрапейскай часткі б. СССР
Паўн. Каўказ
Паўн. Прычарнамор´е
Паўн. Урал
Паўн. Усход Еўрапейскай часткі б. СССР
Перадгор´е Каўказа
Поўдзень Беларусі
Правабярэжная Украіна
Прамысл. Цэнтр
Захад Еўрапейскай часткі Расіі
Зах. Памір
Зах. Сібір
Зах. Украіна
Зах. Цянь-Шань
Крайняя Поўнач
Левабярэжная Украіна
Ніжняе Паволжа
Падмаскоўе
Паўд. бераг Крыма
Прыамур´е
Прыбайкалле
Прымор´е
Прыуралле
Рудны Урал
Сярэдняя Азія
Сярэдняе Паволжа
Сярэдні Урал
Усх. Грузія
Усх. Памір
Усх. Сібір
Цэнтр. Цянь-Шань
Цэнтр. Беларусь
Чарназёмны Цэнтр

3. Калі назва месца знаходжання раёна супадае з адміністрацыйнай адзінкай, то ўсе словы пішуцца з вялікай літары:

Малая Азія, Пярэдняя Азія, Паўд.-Зах. Азія, Паўд.-Усх. Азія, Цэнтр. Азія, Б. Усход, Сярэдні Усход, Арабскі Усход, Зах. Аўстралія, Паўд. Аўстралія, Зах. Еўропа і да т. п.

4. У складаных назвах радавыя іншамоўныя паняцці, калі яны не сталі агульнымі, пішуцца з вялікай літары:

Іашкар-Ала (ала — гара),
Ісык-Куль (куль — возера),
Матаччын Шар (шар — праліў).

5. Калі радавое паняцце стаіць у пачатку складанай геаграфічнай назвы, то яно пішацца з вялікай літары і злучаецца з наступным словам дэфісам:

Рыо-Грандэ (рыо — рака),
Кап-Мартэн (кап — мыс).

## АБРЭВІЯТУРА

1. Тэрмін, на які даецца артыкул, у тэксце абазначаецца літарнай абрэвіятурай.

П р ы к л а д :

**БАЛЬЗА́МЫ**

у тэксце: Б.

2. Калі тэрмін складаецца з некалькіх слоў, то ў абрэвіятуры пачатковыя літары аддзяляюцца адна ад адной кропкамі, а першая літара пішацца вялікая.

П р ы к л а д :

**ВЯЛІ́КАЕ ПЕРАСЯЛЕ́ННЕ НАРО́ДАЎ**

у тэксце: В.п.н.

3. Абрэвіятуры ГЭС, ДРЭС пішуцца вялікімі літарамі толькі тады, калі яны не ўваходзяць у злітнае напісанне назвы электрастанцыі.

П р ы к л а д ы :

Лукомская ДРЭС,
але Лукомдрэс.

4. Прыназоўнікі і часціцы пры абрэвіятурах іншамоўных прозвішчаў не скарачаюцца.

П р ы к л а д ы :

Ван-Гог — Ван-Г.,
Бадуэн дэ Куртэнэ — Б. дэ К.,
Д'Аламбер — Д'А.,
аль-Харэзмі — аль-Х.

5. Калі ў тэрміне ёсць дата, то ў абрэвіятуру яна не ўваходзіць.

Прыклад:

**БРЭ́СЦКАЯ У́НІЯ 1596**

у тэксце: Б.у.

6. Абрэвіятура, якая стаіць пасля тэрміна ў дужках, набіраецца светлым шрыфтам.

Прыклад:

**АРГАНІЗА́ЦЫЯ АБ'ЯДНА́НЫХ НА́ЦЫЙ** (ААН).

7. Рэдагуючы матэрыял, трэба імкнуцца да найбольш эканомнага выкарыстання ў тэксце пачатковай літары назвы артыкула, асабліва калі гэтая назва — прозвішча.

Правільна:

**БАГДАНО́ВІЧ** Максім Адамавіч (9.12.1891, Мінск—25.5.1917), беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Скончыў Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. Друкавацца пачаў з 1907. Пры жыцці выйшаў адзін паэтычны зборнік «Вянок» (1913).

Няправільна:

**БАГДАНО́ВІЧ** Максім Адамавіч (9.12.1891, Мінск—25.5.1917), беларускі паэт-дэмакрат, перакладчык, літаратуразнавец. Б. скончыў юрыдычны ліцэй. Друкавацца пачаў з 1907. Пры жыцці Б. выйшаў паэтычны зборнік «Вянок» (1913).

8. Трэба пазбягаць ужывання няздручных шматлітарных абрэвіятур, асабліва калі яны пачынаюцца лічэбнікамі ці маюць унутры злучнікі.

## АБЗАЦЫ, ПАДЗАГАЛОЎКІ, КУРСІЎ, РАЗРАДКА

1. Артыкулы сярэдніх і малых памераў не рэкамендуецца разбіваць на абзацы. Вялікія артыкулы можна падзяляць на абзацы, не меншыя за тэматычны раздзел.

2. У куставых артыкулах, якія складаюцца з адносна вялікіх частак, кожнае імя (частка) можа пачынацца з абзаца без разрадкі або з разрадкай без абзаца.

3. Комплексныя і іншыя вялікія артыкулы могуць мець азагалоўленыя раздзелы; загалоўкі раздзелаў набіраюцца паўтлустым шрыфтам, які адпавядае кеглю асноўнага тэксту.

4. Курсіў у артыкулах ужываецца толькі для спасылак (гл. раздзел «Спасылкі»).

5. Разрадкай для выдзялення слоў у тэксце рэкамендуецца карыстацца вельмі асцярожна, таму што на яе расходуецца

шмат знакаў. Асноўныя выпадкі ўжывання разрадкі агавораны ў адпаведных раздзелах гэтага метадычнага даведніка.

## НАНПАРЭЛЬ

1. Асноўны шрыфт БелЭн — кегель 8. Часткі артыкулаў, дзе даюцца гістарычныя даведкі, прыводзяцца дадатковыя звесткі да асноўнага зместу артыкулаў і іншы фактычны матэрыял у выглядзе пералічэнняў, набіраюцца кеглем 6 (нанпарэллю). Кегель 6 таксама ўжываецца для набору падтэкставай бібліяграфіі, табліц у тэксце, дадатковых да артыкулаў матэрыялаў: спісаў, рэпертуараў, пералічэнняў і да т.п.

2. Кегель 6 не ўжываецца ў дэфініцыях і біяграфічных артыкулах.

## ЦЫТАТЫ

### Агульныя патрабаванні

1. Цытаты можна змяшчаць тады, калі яны маюць прынцыповае значэнне і павышаюць даведачную вартасць энцыклапедычных артыкулаў. Але ўжываць многа цытат, цытаты вялікага аб'ёму і цытаты без двукосся не дазваляецца. Выкарыстанне цытат у дэфініцыях дапускаецца толькі ў выключных выпадках.

2. Неабходна строга захоўваць прынцып адпаведнасці цытат кантэксту артыкула, каб забяспечыць іх правільнае тлумачэнне. Для цытавання бярэцца толькі ўрывак з крыніцы, які змяшчае лагічна ясную, закончаную думку, выражаную ў сціслай, абагульняльнай форме, г. зн. лепш за ўсё цэлы закончаны сказ, ці некалькі сказаў, якія ідуць адзін за адным і лагічна звязаны між сабой. Цытаваць частку сказа ці асобныя словы можна як выключэнне і з вялікай асцярожнасцю, каб не сказіць сэнсу слоў ці частак сказа, якія цытуюцца.

3. Цытаваны тэкст даецца звычайна ў той граматычнай і стылістычнай форме, як ён пададзены ў крыніцы. Змена склону не дапускаецца. Пératварэнне ў працэсе цытавання простай мовы ва ўскосную дапускаецца толькі ў тым выпадку, калі гэта ніколькі не парушае сэнсу цытаванага тэксту.

Калі ў цытаваным тэксце ёсць словы і сказы, выдзеленыя асобным шрыфтам, то яны абавязкова выдзяляюцца ў цытаце (разрадкай).

Двукоссі, якія сустракаюцца ў цытатах, таксама захоўваюцца — яны ператвараюцца ва ўнутранае двукоссе (“ ”).

У гэтым выпадку знешняе двукоссе, якое адмяжоўвае тэкст цытаты ад тэксту артыкула, абазначаецца «елачкамі» (« »).

У тэкстах цытат захоўваюцца таксама націскі, паказаныя ў крыніцы. Калі ўнутры цытаты даецца які-небудзь тлумачальны тэкст, які не ўзяты з першакрыніцы ці ўнесены аўтарам артыкула, то гэты тэкст бярэцца ў круглыя дужкі і суправаджаецца словам «Рэд.», якое аддзяляецца ад тлумачальных слоў кропкай і працяжнікам і даецца курсівам.

4. У тэкстах цытат не дапускаюцца агульнапрынятыя для энцыклапедычных артыкулаў скарачэнні; тэкст цытат даецца поўнасцю паводле крыніцы.

5. Калі цытуюцца выданні, надрукаваныя па старой арфаграфіі, цытата даецца па новай арфаграфіі, але з абавязковым дакладным захаваннем усіх моўных і стылістычных асаблівасцей крыніцы. Пунктуацыя (знакі прыпынку) захоўваецца тая, якая дадзена ў цытаваным тэксце; абгрунтаванае адступленне ад гэтага правіла можна рабіць, калі ў тэксце, які цытуецца, дапушчана памылка друку, што трэба спецыяльна растлумачыць.

6. Цытаты, якія даюцца ў тэксце артыкула, суправаджаюцца дакладнымі спасылкамі на крыніцу.

## Афармленне цытат

1. Цытаты і спасылкі на крыніцы цытаванага матэрыялу афармляюцца аднолькава паводле прынятага ў БелЭн стандарту.

2. Тэкст цытат бярэцца ў двукоссе; спасылка на крыніцу (назву крыніцы), бібліяграфічна правільна афармленая, указваецца ў круглых дужках адразу пасля цытаты.

3. Адкроп'е ў пачатку цытаты ці ў канцы (г. зн. пасля двукосся, якое адкрывае цытату, і перад двукоссем, якое закрывае яе) даецца ў тых выпадках, калі цытаваны тэкст з'яўляецца часткай сказа; адкроп'е апускаецца, калі пры гэтым захоўваецца лагічная сувязь тэксту цытаты з кантэкстам артыкула.

Калі ў цытаце даецца тэкст крыніцы з некаторымі пропускамі, то гэтыя пропускі абавязкова паказваюцца адкроп'ем.

4. Пры апісанні крыніц цытат захоўваюцца наступныя правілы:

а) апісанне кніг даецца па тытульнай старонцы ў адпаведнасці з існуючымі правіламі апісання;

б) элементы апісання размяшчаюцца ў такой паслядоўнасці: прозвішча і ініцыялы аўтара цытаванай працы, загаловак, ну-

мар тома, нумар выдання (акрамя першага), год выдання, старонка; месца выдання паказваецца пры цытаванні твораў, якія выйшлі да 1917 г., для перакладных выданняў.

Прыклады:

«цытата» (Лавроў П.Л. Исторические письма. Спб., 1905. С. 51).

«цытата» (Гольбах П. Система природы... М., 1940. С. 25).

«цытата» (Энгельс Ф. Анты-Дзюрынг. Мн., 1952. С...);

в) выдавецтва звычайна не паказваецца;

г) прозвішча аўтара даецца ў разрадку;

д) вельмі доўгія загалоўкі скарачаюцца ці адсякаюцца адкроп'ем, якое ставіцца ў сярэдзіне ці ў канцы загалоўка (каб не парушыць сэнсу).

5. Паміж заключным двукоссем цытаты і круглымі дужкамі, у якія заключаецца крыніца, знак прыпынку не ставіцца.

6. Квадратныя дужкі ўжываюцца ў тых выпадках, калі ўнутры спасылкі ёсць круглыя дужкі.

7. Пры цытаванні форма спасылкі на крыніцу (апісанне крыніцы) залежыць ад наяўнасці і размяшчэння ў тэксце артыкула (кантэксту цытаты) прозвішча і назвы працы цытаванага аўтара;

а) у тых выпадках, калі аўтар цытаванага тэксту не паказваецца ў кантэксце, прозвішча аўтара абавязкова даецца ў спасылцы на крыніцу.

б) у выпадках, калі аўтар цытаванай крыніцы ўпамінаецца ў кантэксце цытаты, у спасылцы на крыніцу прозвішча аўтара не паказваецца;

в) калі назва цытаванага твора ўпамінаецца ў кантэксце цытаты, то ў спасылцы на крыніцу паказваюць толькі том і старонку (ці старонкі) твораў;

г) калі ў артыкуле даецца пераказ тэксту з якога-небудзь твора, часам з частковым цытаваннем гэтага тэксту, то пасля тэксту ў дужках даецца спасылка на яго крыніцу з памстай «гл.»;

д) пры цытаванні сумесных работ гэта звычайна не агаворваецца, бо відаць са спасылкі на творы.

Калі ў тэксце артыкула не паказваецца ні аўтар, ні назва цытаванага твора, то ў апісанні крыніцы прозвішча аўтара ўказваецца абавязкова, назва твора — па жаданні.

8. У выпадку, калі ў тэксце артыкула ў межах старонкі прыводзяцца дзве (ці больш) цытаты з адной і той жа

крыніцы, то поўная спасылка на крыніцу даецца толькі пры першай цытаце. У наступных цытатах, калі прозвішча аўтара цытаванай працы ўпамінаецца ў кантэксце, то назва крыніцы, якая паўтараецца, заменьваецца словам «там жа» без паказу тома, старонкі, калі яны супадаюць з папярэдняй цытатай, або з паказам, калі яны новыя.

Прыклады:

«цытата» (там жа);

«цытата» (там жа, с...) — калі старонкі не супадаюць;

«цытата» (там жа, т..., с...) — калі не супадае нумарацыя тамоў.

Калі звесткі ў крыніцы наступнай цытаты супадаюць, але аўтар цытаванай працы ў кантэксце не названы, то ў апісанні крыніцы абавязкова паказваецца прозвішча аўтара.

9. Пры цытаванні пастаноў урада краіны спасылка даецца на адпаведнае афіцыйнае выданне.

Калі назва пастановы ў кантэкце цытаты не паказана, яна павінна быць паказана ў крыніцы.

10. Пры цытаванні замежных крыніц, якія не перакладзены на беларускую ці рускую мову, назва твора даецца без перакладу, потым паказваюцца месца і год выдання і старонка на мове арыгінала.

Прыклад:

«цытата» (Gropp R. O. Zu Fragen Geschichte der Philosophie und des dialektischen Materialismus. Berlin, 1959. S. 11).

11. Пры цытаванні антычных крыніц спасылкі даюцца звычайна ў беларускіх ці рускіх перакладах. Калі спасылка даецца на неперакладзеную крыніцу, паказваецца агульнапрынятае міжнароднае абазначэнне..

## НАПІСАННЕ ІНІЦЫЯЛАЎ

1. Пры ўсіх прозвішчах у тэксце абавязкова даецца столькі ініцыялаў, колькі прынята пісаць у той мове, з якой гэтае прозвішча ўзята.

2. Для беларускіх і рускіх дзеячаў даюцца два ініцыялы. Выключэнне складаюць дзеячы культуры — пісьменнікі, мастакі, артысты і некаторыя іншыя, пры прозвішчы якіх можна пісаць адзін ініцыял.

3. Калі прозвішча дзеяча паўтараецца ў невялікім артыкуле, то ініцыялы (у т.л. і псеўданіма) даюцца пры першым упамінанні, а далей іх прыводзіць неабавязкова. Паўторна

ініцыялы даюцца тады, калі прозвішча дзеяча ўпамінаецца ў розных частках артыкула ці ў розных вялікіх абзацах.

## ПОДПІСЫ ПАД АРТЫКУЛАМІ

1. Агульнае патрабаванне: артыкул падпісваецца незалежна ад тыпу і аб'ёму, калі ў ім абгрунтоўваюцца тэарэтычныя палажэнні, ёсць новы фактычны матэрыял і аўтарам з'яўляецца спецыяліст.

2. Артыкулы, якія адпавядаюць п. 1 і маюць аб'ём, большы за 600 знакаў (разам з бібліяграфіяй), як правіла, падпісваюцца. Гэта не пашыраецца на біяграфічныя артыкулы і артыкулы слоўнікавага зместу.

3. Біяграфічныя артыкулы падпісваюцца толькі тады, калі артыкул грунтоўны і напісаны даследчыкам, калі персаналія ўпершыню змяшчаецца ў энцыклапедычным выданні ці калі ў біяграфічным артыкуле ёсць новы матэрыял.

4. Подпіс пад артыкулам не ставіцца, калі ў бібліяграфіі рэкамендуюцца толькі аўтарскія працы. Выключэнне складаюць тыя выпадкі, калі ў артыкуле аўтар прыводзіць новыя звесткі ў параўнанні з рэкамендаванымі ў бібліяграфіі працамі.

5. У куставых і комплексных артыкулах подпісы могуць ставіцца пад часткамі, калі гэтыя часткі адпавядаюць патрабаванню п. 1.

6. Подпіс аўтара з паказам ініцыялаў ставіцца ў канцы артыкула адразу за тэкстам, а калі ёсць бібліяграфія, то пад ёю. Комплексныя артыкулы падпісваюцца з паказам, які раздзел належыць кожнаму аўтару.

7. Каб пазбегнуць недакладнасцей у напісанні ініцыялаў аўтараў, а таксама для аблягчэння праверкі, у арыгіналах артыкулаў пішуцца поўнасцю імя і імя па бацьку аўтараў.

## РОЗНЫЯ АРФАГРАФІЧНЫЯ ПАТРАБАВАННІ

### Археалагічныя тэрміны

1. У назвах археалагічных стаянак, курганоў, могільнікаў, гарадзішчаў з вялікай літары пішацца толькі першае слова.

П р ы к л а д ы:

Бердыжская стаянка,
Мінскае гарадзішча.

2. Назвы вякоў і культур пішуцца з малой літары.

П р ы к л а д ы:

каменны век,
мілаградская культура.

### Архітэктурныя помнікі

Архітэктурныя помнікі (цэрквы, саборы і інш.) пішуцца з вялікай ці з малой літары, у залежнасці ад прынятага напісання.

Прыклады:

Каложская царква,
Сабор Васіля Блажэннага,
Сафійскі сабор,
Нотр-дам дэ Пары,
будынак Біржы, будынак банка
будынак Сената.

### Вітаміны

Назвы вітамінаў абазначаюцца прамымі вялікімі лацінскімі літарамі без кропкі і ў двукоссе не бяруцца.

вітамін A,
вітамін $B_{12}$.

### Войны, ваенныя тэрміны, паўстанні, народны рух, аб'яднанні, рэвалюцыі

1. Назвы войнаў, утвораныя ад назваў народаў-удзельнікаў, пішуцца з малой літары, а ўласныя назвы войнаў — з вялікай.

Прыклады:

руска-турэцкая вайна,
Айчынная вайна 1812,
але вайна 1812,
Балканскія войны,
але рэлігійныя войны,
гусіцкія войны,
напалеонаўскія войны.

2. Назвы 1-й сусветнай вайны 1914—18 і 2-й сусветнай вайны 1939—45 пішуцца арабскімі лічбамі з нарашчэннем, у назве Вялікай Айчыннай вайны 1941—45 першыя два словы пішуцца з вялікай літары.

3. Войны, якія маюць агульную назву і парадкавую нумарацыю (арабская лічба з нарашчэннем), захоўваюць вялікую літару ў першым слове назвы.

Прыклад:

1-я Пунічная вайна.

4. Назвы ваенных аперацый, напрамкаў, бітваў, баёў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Мінскі напрамак
але паўднёва-заходні напрамак,
Сталінградская бітва,
Барадзінская бітва 1812.

5. Назвы груповак войск пішуцца з малой літары.

Прыклад:
мінская групоўка.

6. У назвах дывізій, палкоў і іншых вайсковых часцей, калі гэтыя назвы складаюцца з прыметніка, утворанага ад уласнага імя, і радавых слоў (дывізія, полк — пяхотны, стралковы — і інш.), першае слова пішацца з вялікай літары.

Прыклады:
Кантэміраўская дывізія,
Чарнігаўскі кавалерыйскі полк.

7. Назвы паўстанняў і сялянскіх войнаў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:
Булавінскае паўстанне,
Снежаньскае ўзброенае паўстанне,
Сялянская вайна пад кіраўніцтвам Емяльяна Пугачова 1773—75.

8. Першае слова назвы аб'яднанняў, палітычных арганізацый даецца з вялікай літары.

Прыклад:
Беларускі народны фронт «Адраджэньне».

9. Назвы рэвалюцый, якія ахопліваюць сабою шэраг рэвалюцыйных падзей, пішуцца з малой літары.

Прыклады:
французская буржуазная рэвалюцыя канца 18 ст.,
руская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя.

10. Назвы рэвалюцый, пад якімі разумеецца адна канкрэтная рэвалюцыйная падзея, пішуцца з вялікай літары.

Прыклад:
Лютаўская рэвалюцыя 1917.

## Вуліцы, плошчы, паркі

Калі радавыя паняцці ў назвах вуліц, плошчаў, паркаў і інш. страцілі свой літаральны сэнс, яны пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:
Доўгі Брод, Залатая Горка
Кузнецкі Мост.

## Геалагічныя тэрміны

1. Геалагічныя перыяды і эры, зледзяненні і іх стадыі і фазы пішуцца з малой літары.

Прыклады:

сілурыйскі перыяд,
мезазойская эра,
дэвон,
рыскае зледзяненне,
бярэзінскае зледзяненне,
браслаўская фаза валдайскага зледзянення,
дзвінская стадыя апошняга зледзянення.

2. Назвы геалагічных платформаў, шчытоў, упадзін, прагінаў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Усходне-Еўрапейская платформа,
Дняпроўска-Данецкая ўпадзіна.

3. Складкавасці пішуцца з малой літары.

Прыклады:

каледонская складкавасць,
герцынская складкавасць.

4. Назвы раёнаў залягання карысных выкапняў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Кузнецкі басейн,
Мікашэвіцкае радовішча.

## Гістарычныя дакументы, канферэнцыі, з'езды, кангрэсы і інш.

1. Першае слова ў назвах канвенцый, дагавораў, пагадненняў, пактаў, трактатаў і інш. пішацца з вялікай літары.

Прыклады:

Жэнеўская канвенцыя,
Версальскі дагавор,
Крымскае пагадненне,
Эрфурцкая праграма.

2. Калі дагаворы, пагадненні маюць назву краін-удзельніц, то пішуцца з малой літары.

Прыклад:

беларуска-польскі дагавор.

3. З'езды, канферэнцыі, пленумы, камітэты пішуцца ў адпаведнасці з іх афіцыйнай назвай.

Прыклад:

Тэгеранская канферэнцыя.

4. У назвах з'ездаў, кангрэсаў, сесій з вялікай літары пішуцца словы тыпу «Міжнародны», «Сусветны», «Усебеларускі».

Прыклад:

10-ы Міжнародны астранамічны з'езд.

### Дзяржавы, княствы, ханствы, халіфаты, дынастыі

1. У назвах старажытных дзяржаў абодва словы пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Кіеўская Русь,
Старажытная Грэцыя,
Старажытны Егіпет,
Старажытная Індыя.

2. У назвах старажытных княстваў усе словы пішуцца з вялікай літары (акрамя слова «княства»).

Прыклады:

Віцебскае княства,
Маскоўскае княства,
Турава-Пінскае княства.

3. У назвах імперый з вялікай літары пішуцца ўсе словы (акрамя слова «імперыя», калі яно стаіць у канцы назвы).

Прыклады:

Усходняя Рымская імперыя,
але Імперыя Вялікіх Маголаў.

4. Неафіцыйныя назвы манархій пішуцца з малой літары.

Прыклад:

аўстрыйская манархія.

5. Назвы ханстваў і халіфатаў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Карабахскае ханства,
Кардоўскі халіфат,
Арабскі халіфат.

6. Назвы дынастый пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

дынастыя Ягелонаў,
дынастыя Раманавых,
Анжуйская дынастыя.

### Законы, прынцыпы, метады

Законы навукі, дагаворы, пагадненні і інш., якія атрымалі назву па імю асоб, што ўстанавілі (адкрылі) гэтыя законы ці

выпрацавалі дагаворы, пагадненні, пішуцца з вялікай літары (акрамя слова «закон») праз працяжнік.

Прыклады:

Ленца—Джоўля закон,
Бойля—Марыёта закон,
Біо—Савара закон,
Бугера—Ламберта—Бэра закон.

Ініцыялы пры прозвішчах не даюцца.

## Летапісы

Назвы летапісаў даюцца з вялікай літары без двукосся.

Прыклады:

Баркулабаўскі летапіс,
Наўгародскі летапіс,
Іпацьеўскі летапіс.

## Літары (гукі) у мовазнаўчых артыкулах

1. Асобныя беларускія літары і абазначэнні гукаў беларускімі літарамі бяруцца ў двукоссе.

Прыклад:

Гук «а» абазначаецца літарай «а».

2. Літары і гукі, якія абазначаюцца лацінскім ці іншым шрыфтам (грэчаскім, арабскім), у двукоссе не бяруцца.

Прыклады:

нямецкія гукі sch, tsch («ш», «ч»),
французскія ai, au («э», «о»),
польскія sz, cz («ш», «ч»).

3. Усе беларускія прыклады і пераклады іншамоўных прыкладаў на беларускую мову бяруцца ў двукоссе; іншамоўныя прыклады, напісаныя любым шрыфтам (лацінскім, беларускім ці транскрыпцыяй), у двукоссе не бяруцца.

Прыклад:

французскае слова pomme па-беларуску азначае «яблык», tete — «галава».

## Лічбавыя абазначэнні

1. *Рымскімі лічбамі* даюцца: а) групы элементаў перыядычнай сістэмы Мендзялеева; б) дынастыі; в) алімпійскія гульні; г) назвы ступеняў музычнага гукараду; д) парадкавыя лічэбнікі, якія ўваходзяць у імёны манархаў, імператараў, цароў і папаў рымскіх. Пры рымскіх лічбах нарашчэнне не пішацца.

2. *Арабскімі лічбамі* з нарашчэннем даюцца: а) паловы і чвэрці стагоддзяў і тысячагоддзі.

Прыклады:

2-я пал. 20 ст.,

1-е тысячагоддзе;

б) парадкавыя лічэбнікі, якія ўваходзяць у назву населеных пунктаў.

Прыклады:

Асавец 1-ы,

Асавец 2-і,

Вулька 1-я.

3. Пры парадкавых лічэбніках, пазначаных арабскай лічбай, даюцца нарашчэнні, якія адпавядаюць граматычнаму канчатку.

Прыклады:

2-і батальён,

5-ы дывізіён,

у 3-й брыгадзе,

з 7-га палка.

4. Калі ў тэксце сустракаецца лічба са знакам «мінус» ці «плюс», то перад ёю пакідаецца прабел (4 пункты) і знакі «плюс» і «мінус» пішуцца злітна з лічбай.

Прыклад:

пры t -20 $^{o}$C.

Рэдактар павінен на палях зрабіць памету «мінус» і абкружыць у тэксце лічбу.

5. Калі ў тэксце артыкула ёсць вялікія падраздзелы, якія аддзяляюцца лічбамі 1, 2, 3, 4 і г.д., то кожны з гэтых падраздзелаў заканчваецца кропкай, а наступны падраздзел пачынаецца з вялікай літары.

6. Пры наяўнасці дзесятковага дробу ў лікавых значэннях велічынь абазначэнне адзінкі пішуць пасля ўсіх лічбаў.

Прыклады:

427,38 м; 129,5 $^{o}$C; 23,28 с і інш.

7. Вуглавыя градусы, мінуты і секунды, а таксама іх дзесятковыя дробы, якія адносяцца да абазначэння велічынь плоскага вугла ці дугі, абазначаюцца так: $23^{o}43'15''$.

8. Асаблівую ўвагу неабходна звяртаць на знак тэмпературы: калі тэмпература адмоўная, пакідаецца прабел перад мінусам, а знак пішацца побач з лічбай без прабелу.

Прыклад: t -10 $^{o}$C.

9. Нельга пісаць «дасягае t -1 $^{o}$C -15 $^{o}$C», калі абодва лікі адмоўныя. У такіх выпадках пішацца:

t ад -1 $^{o}$C да -15 $^{o}$C.

10. Пры лікавых значэннях фізічных велічынь (маса, скорасць, цеплаправоднасць, сіла току і інш.) даюцца іх адзінкі.

11. Пры абазначэнні памераў прамавугольных сячэнняў ці плошчаў, калі памер даецца ў выглядзе здабытку дзвюх сумежных старон, перад лічбай здабытку ў дужках паказваецца адзінка вымярэння.

Прыклады:

труба сячэннем (*см*) 20×30, фатаграфічная пласцінка (*см*) 13×18, футбольнае поле (*м*) 90×120.

### Маркі тэхнічныя і вытворчыя

1. Маркі серыйных машын пішуцца без двукосся.

Прыклады:

аўтамабіль ЗІЛ-114,
трактар ДТ-54,
лесавоз МАЗ-509.

2. Машыны, у назвах якіх ёсць уласнае імя, пішуцца ў двукоссі.

Прыклады:

аўтамабіль «Волга»,
самалёт «Ілья Мурамец»,
аўтамабіль «Масквіч-408»,
аўтамабіль «Волга» ГАЗ-24.

### Мацерыкі

Непажадана пісаць слова «Еўразія», лепш пісаць «Еўропа і Азія», «Мацярык Еўропы — Азіі».

Прыметнікавыя назвы мацерыкоў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Азіяцкі мацярык,
Афрыканскі мацярык,
Аўстралійскі мацярык,
Амерыканскі кантынент.

### Музеі, дамы-музеі, палітычныя клубы

1. У назвах музеяў з вялікай літары пішацца толькі першае слова.

Прыклады:

Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

2. Дамы-музеі пішуцца з вялікай літары.

3. У назвах палітычных клубаў першае слова пішацца з вялікай літары.

Прыклад:

Клуб якабінцаў.

## Назвы літаратурных твораў

Калі літаратурны твор мае дзве назвы, паміж якімі стаіць злучнік «ці» («або»), то з вялікай літары пішацца таксама першае слова другой назвы.

Прыклад:

«Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна».

## Пасольствы, прыказы старажытнарускія

Назвы старажытнарускіх пасольстваў і прыказаў пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Вялікае Пасольства,
Судны прыказ.

## Пастановы, указы, палажэнні

1. Слова «пастанова» пішацца з малой літары, але ў назве канкрэтнага дакумента з вялікай.

2. Указы Вярхоўнага Савета, Прэзідэнта і да т.п. заўсёды пішуцца з вялікай літары.

Прыклад:

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь...

3. Слова «Палажэнне» (у значэнні «дакумент») заўсёды пішацца з вялікай літары.

Прыклад:

У Палажэнні «Пра адзіную працоўную школу».

## Прадпрыемствы прамысловасці і сельскай гаспадаркі

1. Складаныя назвы заводаў, калгасаў, прадпрыемстваў і г.д. бяруцца ў двукоссе, і першае слова пішацца з вялікай літары. Радавая назва пішацца з малой літары.

2. Геаграфічныя азначэнні пры назвах, узятых у двукоссе, звычайна пішуцца з малой літары, таму што паказваюць месца знаходжання прадпрыемства і не ўваходзяць ва ўласную назву.

Прыклад:

магілёўскі завод «Строммашына».

## Прэміі

У назвах прэмій з вялікай літары пішацца першае слова.

П р ы к л а д :

Нобелеўская прэмія.

## Расліны. Сарты сельскагаспадарчых культур

Назвы сартоў пішуцца з вялікай літары без двукосся. Калі ў назву ўваходзіць лічба, то яна пішацца асобна.

П р ы к л а д ы :

агрэст Красун Лошыцы,
агрэст Беларускі чырвоны,
агурок Нежынскі,
пшаніца Лютэсцэнс 17.

## Ролі (у біяграфіях тэатральных дзеячаў)

У біяграфічных артыкулах пра тэатральных дзеячаў назвы роляў пішуцца з вялікай літары.

П р ы к л а д ы:

Стары,
Жабрак,
Акцёр,
Гараднічы.

## Рэлігійныя назвы

1. Назвы рэлігійных кніг пішуцца з вялікай літары і не бяруцца ў двукоссе.

П р ы к л а д ы :

Біблія,
Каран,
Евангелле,
Пяцікніжжа.

2. Калі ў артыкулах упамінаюцца рымскія папы, то трэба пісаць не проста «папа», а «папа рымскі».

## Сваяцкія адносіны

Калі неабходна паказаць сваяцкія адносіны (сын, брат і г.д.), то трэба даваць прозвішча і ініцыялы.

П р ы к л а д :

ПАТО́Н Барыс Яўгенавіч (н. 27.11.1918), ...сын і вучань Я.О.*Патона.*

### Танальнасці ў музыцы

Пры абазначэнні танальнасці ў музыцы лацінскімі назвамі мажорныя танальнасці паказваюцца вялікай літарай, мінорныя — малой з напісаннем ладу праз злучок.

П р ы к л а д ы :

A — dur,
a — moll.

Альтэрнатыўныя назвы нот пішуцца праз злучок.

П р ы к л а д ы :

до-дыез,
сі-бемоль.

### Тэатры

Іншамоўныя і ўмоўныя назвы тэатраў бяруцца ў двукоссе.

П р ы к л а д ы :

«Ла Скала»,
«Гранд-опера»,
«Ковент-Гардэн».

### У ж ы в а н н е т э р м і н а « і н д у с ы »

Тэрмін «індусы» ўжываецца толькі тады, калі неабходна назваць паслядоўнікаў рэлігіі індуізму. Ва ўсіх іншых выпадках трэба пісаць «індыйцы», «народы Індыі».

### Установы

1. У назвах акадэмій, калі гэтыя назвы ўключаюць у сябе і назву горада (краіны), слова «акадэмія» пішацца з малой літары.

П р ы к л а д ы :

Парыжская акадэмія навук,
Румынская акадэмія навук,
Пецярбургская акадэмія мастацтваў.

2. Установы, якія існавалі на працягу пэўнага гістарычнага перыяду, пішуцца з вялікай літары.

П р ы к л а д ы :

Перадпарламент,
Дума,
Ліга Нацый,
Часовы ўрад,
Сенат,
Сінод.

3. Назвы дзяржаўных устаноў, якія існуюць у многіх краінах, пішуцца з малой літары.

Прыклады:

парламент,
кангрэс,
сторцінг.

4. Слова «прэзідыум» пішацца з вялікай літары, калі абазначае кіруючы орган вялікіх навуковых, грамадскіх і іншых арганізацый.

Прыклад:

Прэзідыум АН.

## Фестывалі

Парадкавыя нумары фестываляў даюцца арабскімі лічбамі з нарашчэннем.

Прыклад:

5-ы Сусветны фестываль моладзі.

## Флаты, флатыліі

Назвы марскіх флатоў і рачных флатылій пішуцца з вялікай літары.

Прыклады:

Балтыйскі флот,
Чарнаморскі флот,
Дняпроўская флатылія.

## Хімічныя сімвалы і формулы

1. Хімічныя рэчывы ў іоннай форме трэба пісаць так: $Na^{+}$, $Cl^{-}$, $K^{+}$, $Br^{-}$, а калі іоны нясуць некалькі зарадаў, то колькасць іонаў пішацца лічбай: $Ca^{2+}$, $Al^{3+}$, $SO_4^{2-}$.

Так абазначаюцца ўсе іоны: і тыя, што знаходзяцца ў растворах, і тыя, што ўтрымліваюцца ў крышталічнай рашотцы.

2. Складаныя прыметнікі ў назвах кіслот і солей пішуцца злітна.

Прыклады:

фосфарнамалібдэнавая кіслата,
сернакіслая медзь,
азотнакіслы марганец.

3. Кампаненты ў хімічных артыкулах даюцца праз працяжнік.

Прыклад:

сувязь жалеза — вуглярод.

4. Складаныя эфіры, сплавы пішуцца злітна.

Прыклады:

феррамалібдэн,

воцатнаэтылавы спірт.

5. Хімічныя формулы, змешчаныя пасля назвы артыкула, аддзяляюцца коскамі.

Прыклад:

СЕ́РНАЯ КІСЛАТА́, $H_2SO_4$.

6. Калі пасля назвы артыкула даецца сінонім ці лацінская назва, формула ставіцца пасля сіноніма ці лацінскай назвы.

Прыклад:

ВАНА́ДЫЙ (Vanadium), V.

7. Колькаснае значэнне валентнасці пішацца рымскімі лічбамі без знакаў «+» ці «-».

Прыклад:

II, IV і г.д.

8. Ізатопы абазначаюцца хімічным сімвалам элемента з масавым лікам, злева ўверсе

Прыклады:

$^{235}U$, $^{109}Ar$

або хімічным сімвалам з масавым лікам праз злучок.

Прыклады:

U-235, Ar-109.

9. Замест тэрміна «атамная вага» ўсюды пісаць «атамная маса» (ат. м.), а замест тэрміна «парадкавы нумар» — «атамны нумар».

10. Колькаснае ўтрыманне хімічнага элемента ці злучэння ў рэчыве ў масавых працэнтах пісаць так: 0,25% па масе.

## Школы і кірункі (навуковыя)

Навуковыя кірункі і школы (не навучальныя ўстановы) пішуцца з малой літары.

Прыклады:

прадстаўнікі мічурынскай школы (у біялогіі),

балонская школа (у жывапісе),

пражская школа (у лінгвістыцы).

# XIV. РАБОТА З АЎТАРАМІ

## ЗАКАЗ АРТЫКУЛАЎ І ІХ ДАПРАЦОЎКА

1. Напісанне артыкулаў павінна даручацца толькі спецыялісту па адпаведным пытанні. Пры падборы аўтараў улічваюцца апублікаваныя імі манаграфіі, тэмы дысертацый і іншых даследаванняў, рэкамендацыі навуковых і дзяржаўных устаноў.

2. Артыкулы паводле вызначанай формы заказваюцца пасля кансультацый з членамі рэдакцыйнай калегіі і рэдакцыйнага савета БелЭн і ўзгаднення спісу аўтараў з куратарам галіновай рэдакцыі.

3. Разам з заказам артыкула, у якім аўтару паведамляюцца тэмы спасылачных і сумежных артыкулаў, навукова-галіновая рэдакцыя дасылае аўтару тыповы (узорны) або спецыяльна распрацаваны план артыкула. Рэдакцыі таксама разглядаюць прапановы аўтараў пра змены планаў артыкулаў.

4. Складаючы план і рыхтуючы артыкул, неабходна прадугледзець, якія ілюстрацыі (фотаздымкі, малюнкі, партрэты, схемы, чарцяжы, дыяграмы і інш.) і карты (а таксама карты-схемы) могуць арганічна дапоўніць тэкст, зрабіць яго больш наглядным і даступным. Аўтар павінен дадаць да тэксту артыкула ілюстрацыі і карты ці даць іх спіс і назваць крыніцы. Да артыкула, як правіла, даецца бібліяграфія (крыніцы, творы і літаратура), пры значнай колькасці лічбавага матэрыялу — табліцы.

5. Аўтары кіруюцца памяткай па напісанні артыкулаў для БелЭн, якая ім дасылаецца разам з заказам.

6. Атрымаўшы рукапісы, якія павінны быць аформлены згодна з патрабаваннямі параграфа 2 гэтага раздзела «Метадычных указанняў», рэдактар навукова-галіновай рэдакцыі разглядае артыкул. Ён кансультуецца са спецыялістамі, вывучае неабходныя даведачныя выданні, знаёміцца з манаграфічнымі і іншымі

матэрыяламі. Можа спатрэбіцца дапрацоўка артыкула, дапаўненне яго новым матэрыялам. Дапрацоўка артыкула робіцца аўтарам паводле рэкамендацыі навукова-галіновага рэдактара. Пасля дапрацоўкі артыкул павінен быць старанна адрэдагаваны рэдактарам і падпісаны аўтарам.

7. Артыкулы дасылаюцца на рэцэнзію спецыялісту па адпаведным пытанні. З улікам заўваг рэцэнзента і рэкамендацый навукова-галіновай рэдакцыі артыкул дапрацоўваецца аўтарам.

8. Паўторнае рэцэнзаванне і дапрацоўка артыкулаў у адпаведнасці з паўторнай рэцэнзіяй ажыццяўляюцца аўтарам паводле рэкамендацыі навукова-галіновага рэдактара ў тым жа парадку, які вызначаны ў папярэднім пункце.

9. Артыкул павінен быць поўнасцю падрыхтаваны на стадыі рукапісу, г. зн. усе папраўкі, скарачэнні ці дадаткі па заўвагах рэцэнзентаў і рэдактара ўносяцца ў артыкул да здачы рукапісу ў набор. Аўтарскія папраўкі артыкула ў працэсе вытворчасці дапускаюцца толькі ў асобных выпадках, якія выкліканы новымі падзеямі ці новымі навуковымі адкрыццямі.

10. Папраўкі рэдактара абавязкова ўзгадняюцца з аўтарам.

## АФАРМЛЕННЕ АЎТАРСКАГА РУКАПІСУ

1. Артыкул ад аўтара паступае ў трох экзэмплярах, перадрукаваных на машынцы (не партатыўнай) праз 2 інтэрвалы на адным баку аркуша (памер машынапіснага радка 60 знакаў).

2. Усе экзэмпляры артыкула аўтар павінен падпісаць (назваўшы пасаду, вучоную ступень і званне, прозвішча, імя і імя па бацьку, адрас і тэлефон), паставіць дату (дзень, месяц, год).

3. Формулы і літарныя абазначэнні павінны быць выразна ўпісаны ад рукі чарнілам. Для формул, вылучаных у асобны радок, пакідаюцца дастатковыя прабелы ў тэксце. Грэчаскія літары павінны быць абведзены чырвоным алоўкам. Літары, упісаныя ад рукі, у формулах і ў тэксце падкрэсліваюцца простым алоўкам: вялікія — дзвюма рысачкамі знізу (напр., $\underline{\underline{S}}$), малыя — дзвюма рысачкамі зверху (напр., $\overline{\overline{s}}$). Трэба адрозніваць літары O (вялікую), o (малую) і 0 (нуль); для гэтага літары O і o падкрэсліваюць дзвюма рысачкамі, а нуль адзначаюць квадратнай дужкай знізу ($\underline{\underline{O}}$, $\overline{\overline{o}}$, 0). Трэба таксама адрозніваць літары I і J (ёт), для гэтага I трэба пісаць, як рымскую адзінку, падкрэсліўшы яе дзвюма рысачкамі знізу. Вектары падкрэсліваць чарнілам адной рысачкай знізу. Матэматычныя сімвалы cos, sin, lg і інш., якія набіраюцца прамым шрыфтам, і хімічныя сімвалы элементаў (H, N, Cl, Fe і г.д.) адзначаюцца простым алоўкам квадратнай дужкай знізу (sin, lg,

N, Cl). Паказчыкі ступені і індэксы, а таксама надрадковыя знакі адзначаюцца дужкай ◡ (для верхняга індэкса) або ⌒ (д‹я×іж×яга).

4. Прозвішчы замежных дзеячаў, іншамоўныя назвы кніг і часопісаў запісваюцца аўтарам у іншамоўным і беларускім напісанні. Гэта адносіцца таксама да ўсіх эпанімічных тэрмінаў (да тэрмінаў, утвораных ад уласных імёнаў).

5. Лікавыя значэнні звычайна павінны прыводзіцца паводле міжнароднай сістэмы СІ. Калі ўжытыя адзінкі сістэмы СІ не атрымалі шырокага практычнага выкарыстання, у дужках даюцца значэнні велічынь у адзінках вымярэння, якія ўжываліся раней.

6. Літаратура, якая цытуецца ў артыкуле, павінна афармляцца аўтарам у адпаведнасці з нормамі бібліяграфічнага апісання.

7. Малюнкі павінны быць выкананы тушшу на белай паперы, пажадана памерам (см) 15×20; надпісы на малюнках не робяцца. Усе абазначэнні паказваюцца ў тэкставых подпісах пад малюнкамі. На палях артыкула абавязкова паказваецца месца малюнка і табліц. Табліцы друкуюцца на асобных аркушах і прыкладваюцца да артыкула. Фатаграфіі павінны быць кантрастныя і зроблены на добрай паперы, пажадана памерам не менш (см) 9×12. На адвароце малюнка даецца прозвішча аўтара, назва артыкула, нумар малюнка і крыніцы, адкуль ён узяты.

8. Аўтары павінны пазбягаць паўтораў адных і тых жа звестак у табліцах, графіках і ў тэксце артыкула. Абзацаў у артыкуле павінна быць як мага менш. Невялікія артыкулы звычайна на абзацы не дзеляцца.

9. У артыкулах, якія суправаджаюцца ілюстрацыямі (малюнкі, фотаздымкі, чарцяжы і інш.) ці картамі, у адпаведных месцах тэксту павінны быць спасылкі на іх.

10. У артыкулах па хіміі трэба прыводзіць рацыянальныя хімічныя формулы. Структурныя формулы даюцца ў выключных выпадках.

11. Артыкул, афармлены з парушэннем вызначаных патрабаванняў, не прымаецца на рэдагаванне.

# XV. ІЛЮСТРАВАННЕ АРТЫКУЛАЎ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Ілюстрацыі ў БелЭн маюць асабліва важнае пазнавальнае значэнне. Яны павінны дапаўняць і тлумачыць тэкст, робячы яго больш наглядным і даходлівым, г.зн. палягчаць чытачу засваенне зместу артыкула. Добра падабраная ілюстрацыя дазваляе істотна зменшыць тэкст артыкула. У той жа час добра выкананыя ілюстрацыі з'яўляюцца істотным элементам мастацка-паліграфічнага афармлення.

2. Ілюстрацыі ў БелЭн павінны адлюстроўваць:

а) мінулае і сучаснае беларускага народа;

б) асноўныя этапы гістарычнага развіцця народаў замежных краін;

в) прагрэс сусветнай навукі і тэхнікі, поспехі навукі і культуры Беларусі і іншых краін, дасягненні дзеячаў культуры і мастацтва іншых краін;

г) арганічны і неарганічны свет у яго развіцці.

3. Ілюстрацыі, як правіла, размяшчаюцца ўнутры тэксту артыкула. Яны могуць аб'ядноўвацца ў блок з некалькіх ілюстрацый. У асобных выпадках блокі ілюстрацый могуць займаць цэлыя старонкі.

4. Ілюстрацыі абавязкова павінны быць звязаны са зместам артыкулаў, а тэкст артыкула павінен арыентаваць чытача на ілюстрацыю і мець спасылку на яе («гл. малюнак», «гл. іл.», «гл. чарцёж», «гл. схему»).

## АСНОЎНЫЯ ВІДЫ І ПАМЕРЫ ІЛЮСТРАЦЫЙ

1. Асноўныя віды ілюстрацый:

а) фотаздымкі чорна-белыя і каляровыя (партрэты, віды прыроды, розныя збудаванні, малюнкі жывёл, раслін і да т.п.);

б) рэпрадукцыі твораў мастацтва (карціны, у т.л. партрэты, творы графікі, скульптуры, архітэктурныя збудаванні, прадметы прыкладнога мастацтва і інш.);

в) чарцяжы і схемы, якія ілюструюць пэўныя палажэнні матэматычных, астранамічных, геадэзічных, фізічных, хімічных, геолага-мінералагічных, фізіка-геаграфічных і біялагічных навук;

г) чарцяжы і схемы, якія характарызуюць прынцыпы дзеяння і будовы розных тэхнічных аб'ектаў (машын, агрэгатаў, прылад, зброі, інжынерных збудаванняў і да т.п.), а таксама вытворчыя тэхналагічныя працэсы;

д) графікі і дыяграмы, якія паказваюць працэсы эканамічнага развіцця або асобных галін эканомікі, змены колькасці і складу насельніцтва і да т.п.;

е) схемы (выкананыя на картаграфічнай аснове), якія ілюструюць гістарычныя і ваенна-гістарычныя артыкулы.

2. Памеры тэкставых ілюстрацый залежаць ад іх характару і значэння.

3. На адной старонцы можа быць некалькі ілюстрацый (6—8 і больш).

4. Для ўсіх партрэтаў вызначаецца адзін стандартны памер.

## ТЫПОВАЕ ІЛЮСТРАВАННЕ АРТЫКУЛАЎ

Прыблізная колькасць ілюстрацый:

1) Да артыкулаў пра вобласці Беларусі пажадана даваць 2 карты (адміністрацыйная і геаграфічная) і 6—8 ілюстрацый (прырода, эканоміка, культура, помнікі).

2) Да артыкулаў пра раёны Беларусі — 1 карта (адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел) і 1—2 здымкі.

3) Да артыкулаў пра абласныя гарады Беларусі — схема горада і 6—8 ілюстрацый (у т.л. герб горада).

4) Да артыкулаў пра гарады абласнога падпарадкавання (Пінск, Полацк, Нясвіж, Навагрудак і інш.) — па 2—3 здымкі (у т.л. гербы).

5) Да артыкулаў пра астатнія гарады і гар. пасёлкі Беларусі 1—2 ілюстрацыі.

6) Да артыкула «Мінск» — схема горада і 15—16 ілюстрацый (у т.л. герб).

7) Да артыкулаў пра сталіцы найбольшых ці суседніх з Беларуссю замежных дзяржаваў (Масква, Лондан, Парыж, Талін, Рыга, Кіеў, Варшава, Вільня і да т.п., а таксама г. Санкт-Пецярбург) — па 8—10 ілюстрацый.

8) Да артыкулаў пра сталіцы і найбольшыя гарады замежных дзяржаў 3—5-й груп даецца 1 ілюстрацыя ў тэксце.

9) Да артыкулаў пра старажытныя гарады на тэрыторыі былога СССР з наяўнасцю выдатных гістарычных помнікаў — 1—2 ілюстрацыі.

## АРТЫКУЛЫ ПА БІЯЛОГІІ

Расліны ілюструюцца агульным іх выглядам (1 малюнак).

Біялагічныя з'явы ілюструюцца 1—2 малюнкамі (напр., да артыкула «Мадыфікацыя» — розныя формы сцяблоў або лісця і раслін, якія выраслі ў розных умовах), схемамі (напр., схема адаптыўнай радыяцыі канечнасцей або схема кругавароту азоту і г.д.).

Найважнейшыя фізіялагічныя працэсы ў жывёл ілюструюцца схемамі працэсу і яго рэгуляцыі, графікамі змен функцыі або яе паказчыкаў (1—2 малюнкі).

Найважнейшыя фізіялагічныя сістэмы ілюструюцца схемай сістэмы і малюнкамі органаў ці тканак (раслін, жывёл, чалавека), якія ўваходзяць у сістэму (1—2 малюнкі).

Выгляд жывёлы ілюструецца малюнкамі выгляду жывёлы (у некаторых выпадках — 1—3 малюнкі: самца, самкі, малога).

Выкапнёвыя раслінныя або жывёльныя арганізмы ў шэрагу выпадкаў ілюструюцца паказам знойдзеных рэшткаў расліны, жывёлы або рэканструкцыямі (1 малюнак ці фотаздымак).

Галіны сельскай гаспадаркі (напр., «Пладаводства», «Свінагдоўля») ілюструюцца 1—2 здымкамі, якія паказваюць асноўныя працэсы вытворчасці.

Агароднінныя культуры (капуста, морква, кавун і інш.) ілюструюцца адным малюнкам з дзвюма-трыма пазіцыямі (караняплод, ліст, суквецце).

Дэкаратыўныя расліны. Да найбольш пашыраных на Беларусі раслін (ружа, вяргіня, півоні, флёксы, язмін, бэз і інш.) даецца блок каляровых ілюстрацый.

Курорты. Артыкулы пра асобныя курорты і дамы адпачынку звычайна ілюструюцца 1—2 іх фотаздымкамі.

Артыкулы пра найбольш вядомыя санаторыі і курорты Беларусі ілюструюцца так: агульны выгляд, курортныя збудаванні, лячэбніцы і да т.п. (3—4 здымкі).

Механізацыя апрацоўкі сельскагаспадарчых культур (цукровых буракоў, бульбы, лёну і інш.) ілюструецца тэхналагічнымі схемамі арганізацыі выканання работ (па адным малюнку).

Лекавыя расліны, якія растуць на Беларусі, ілюструюцца малюнкам ці фотаздымкамі расліны.

Орган чалавека ілюструецца схемамі-малюнкамі органа або сістэмы органаў (1—3 малюнкі).

**Пладовыя і ягадныя культуры.** Найважнейшыя пладова-ягадныя расліны Беларусі (яблыня, вішня, груша і інш.) ілюструюцца 3—4 малюнкамі.

**Пустазелле** ілюструецца адным малюнкам. Да артыкулаў пра найбольш шкоднае пустазелле можна змяшчаць некалькі малюнкаў.

**Род або іншая таксанамічная катэгорыя жывёл** ілюструецца: у адных выпадках адным малюнкам тыповага прадстаўніка, у іншых — блокам, дзе паказаны шэраг прадстаўнікоў.

**Род раслін** звычайна ілюструецца агульным выглядам тыповага прадстаўніка, а ў некаторых выпадках — і малюнкам будовы клеткі або іншага органа, характэрнага гэтаму роду.

**Сельскагаспадарчыя культуры.** Артыкулы пра асобныя палявыя культуры і кармавыя травы (напр., пшаніцу, жыта, канюшыну і г.д.) ілюструюцца звычайна адным малюнкам з 2—3 пазіцыямі (лісты, корань, сцябло, плод). Да артыкулаў пра найбольш важныя для Беларусі культуры (лён, бульба) можна даваць па 3—5 ілюстрацый.

**Шкоднікі сельскагаспадарчых раслін** ілюструюцца адным малюнкам з дзвюма-трыма і больш пазіцыямі (напр., яйцо, лічынка або гусеніца, кукалка, матылёк, жук). Пры артыкуле «Шкоднікі сельскагаспадарчых раслін» даецца блок ілюстрацый (8—10 малюнкаў).

## АРТЫКУЛЫ ПА МАСТАЦТВЕ І АРХІТЭКТУРЫ

**Віды, жанры і відавыя тэрміны мастацтва ілюструюцца:**

а) найбольш важныя — 8—15 ілюстрацыямі;
б) значныя — 3—4 ілюстрацыямі;
в) звычайныя — 1 ілюстрацыяй.

**Іншыя тыповыя артыкулы па рэдакцыі мастацтва і архітэктуры ілюструюцца:**

а) пра выяўленчае мастацтва і архітэктуру Беларусі;
б) пра замежных мастакоў;
в) пра выдатныя помнікі сусветнай архітэктуры і мастацтва.

Заўвагі: 1) Ілюстрацыйны матэрыял да артыкулаў, не агавораных вышэй, сканцэнтроўваецца ў блоках да

ілюстрацый краін, абласцей, гарадоў, мастацкіх стыляў, кірункаў, жанраў.

2) Характар ілюстрацый па архітэктуры ў артыкулах пра краіны, гарады і г.д. павінен абмяжоўвацца асобнымі архітэктурнымі помнікамі і комплексамі.

3) Ілюстраванне агульнага выгляду найбольшых гарадоў замежных краін рыхтуе рэдакцыя геаграфіі і геалогіі.

### Мастацкія стылі і кірункі ілюструюцца:

а) важнейшыя стылі і кірункі — 5—6 ілюстрацый;

б) значныя стылі і кірункі — 2—3 ілюстрацыі.

### Мастацкія помнікі і музеі ілюструюцца:

а) артыкул «Музеі мастацкія» 2—4 ілюстрацыямі;

б) асобныя артыкулы — 1—2 ілюстрацыямі.

Артыкулы пра старажытныя культуры і гістарычныя дзяржавы (па раздзеле мастацтва) ілюструюцца па тым самым прынцыпе, што і артыкулы пра сучасныя замежныя дзяржавы.

### Пластычныя мастацтвы

Асноўнай формай ілюстравання артыкулаў з'яўляецца фотарэпрадукцыя мастацкіх твораў. У неабходных выпадках даюцца графічныя ілюстрацыі (планы пабудоў і архітэктурных комплексаў, канструкцыйныя схемы, карты-схемы гарадоў і да т.п.).

### Раздзелы архітэктуры, тыпы і комплексы збудаванняў ілюструюцца:

а) найбольш важныя — да 10 ілюстрацый;

б) звычайныя — 1 ілюстрацыя.

## АРТЫКУЛЫ ПА ГІСТОРЫІ

### Археалогія

1. Антрапалогія — 8—10 ілюстрацый да артыкула «Расы». Антрапалагічныя тыпы ілюструюцца 1 малюнкам.

2. Археалогія:

а) артыкулы пра асноўныя раздзелы археалагічнай перыядызацыі (каменны, бронзавы і жалезны вякі) — блок тэкставых ілюстрацый;

б) асобныя тэкставыя ілюстрацыі даюцца да найбольш важных артыкулаў пра жыллё, розныя збудаванні, наскальныя адбіткі, надпісы, культавыя і пахавальныя помнікі, прылады працы і зброю, упрыгожанні, начынне, манеты;

в) артыкулы пра найважнейшыя археалагічныя культуры і асабліва пра асобныя археалагічныя помнікі, залежна ад неабходнасці, забяспечваюцца асобнымі ілюстрацыямі.

### Гістарычныя падзеі

Асноўнай формай іх ілюстравання з'яўляюцца дакументальныя фатаграфіі і гістарычныя дакументы.

Матэрыялы пажадана размяшчаць у храналагічнай паслядоўнасці.

Выкарыстанне твораў мастацтва дапускаецца ў тых выпадках, калі яны з'яўляюцца высокімі па майстэрстве выканання і раскрываюць змест гістарычнай падзеі.

### Этнаграфія

а) ілюструюцца артыкулы пра прылады працы, зброю, прадметы быту, адзенне і ўпрыгожанні, сродкі перамяшчэння, жыллё, пабудовы, тыпы паселішчаў, прадметы культу. Даюцца звычайна малюнкі;

б) артыкулы пра народы, якія маюць дзяржаўнасць, даюцца без ілюстрацый, паколькі ілюструюцца артыкулы пра адпаведныя краіны. Тэкставымі ілюстрацыямі суправаджаюцца артыкулы пра тыя народы, якія ў побыце і культуры ў значнай меры захавалі традыцыйныя самабытныя рысы, прычым ілюстравацца павінны пераважна тыя артыкулы, якія характарызуюць групы народаў.

## АРТЫКУЛЫ ПА НАРОДНАЙ АСВЕЦЕ І ДРУКУ

1. Усе ВНУ Беларусі ілюструюцца асобнымі фотаздымкамі.
2. Да артыкула «Акадэмія навук Беларусі» даецца 6—8 ілюстрацый.

## АРТЫКУЛЫ ПА ТЭХНІЦЫ І СПОРЦЕ

Артыкулы пра кірунак тэхнічнага прагрэсу (тэхніка высокіх скорасцей, глыбокага вакууму, звышглыбокага свідравання і да т.п.) ілюструюцца малюнкамі, якія адлюстроўваюць найбольш выдатныя дасягненні гэтага кірунку.

Від спорту (гімнастыка, лёгкая атлетыка і да т.п.) — да 3—4 ілюстрацый.

Вытворчы працэс (доменная вытворчасць, вытворчасць цукру, сернай кіслаты і да т.п.) ілюструецца:

а) тэхналагічнай схемай з умоўнымі абазначэннямі апаратуры і камунікацыі і паказам (умоўнымі лініямі і стрэлкамі) напрамку ходу сыравіны (нарыхтовак), адходаў і выхаду гатовай прадукцыі;

б) відамі тэхналагічнай схемы (у аксанаметрыі).

У неабходных выпадках даецца фатаграфія знадворнага выгляду прадпрыемства або агульнага выгляду цэха, у якім ажыццяўляецца вытворчы працэс.

Машына ілюструецца схемай (канструктыўнай, блок-схемай, кінематычнай і г.д.), а пры неабходнасці здымкам знадворнага выгляду машыны.

Схема машыны можа быць выканана аксанаметрычна.

Падмалюнкавыя подпісы, калі на чарцяжы ёсць абазначэнні, суправаджаюцца эксплікацыяй.

Калі ў тэксце не паказваюцца габарытныя памеры машыны, памер машыны даецца ў падмалюнкавым подпісе або на малюнку паказваецца супастаўны, выразна вызначаны аб'ект (чалавек, дзверы, акно і да т.п.).

Артыкул пра рабочы інструмент (разец, свердзел, фрэзу і да т.п.) ілюструецца схематычным паказам (у адной або некалькіх праекцыях), на якім выразна бачна геаметрыя рабочай часткі.

У тых выпадках, калі ёсць некалькі характэрных тыпаў афармлення інструмента, даецца малюнак знешняга выгляду або схематычны паказ тыпаў на адным малюнку.

Падмалюнкавы подпіс суправаджаецца эксплікацыяй.

Артыкул пра прыладу (апарат) ілюструецца яго схемай, якая дае ўяўленне пра ўзаемадзеянне вузлоў або асобных дэталяў. Артыкулы пра электрычныя (электронныя) прылады (апараты) суправаджаюцца схемай.

У выпадку неабходнасці даюцца адзін або некалькі канструктыўных выглядаў (план, бакавы выгляд, вузел). Пажаданы аксанаметрычны паказ. У асобных выпадках даецца малюнак «прадукцыі» (электронная фатаграфія, крывая і да т.п.) прылады (апарата).

Вонкавы выгляд прылады (апарата) даецца толькі ў тым выпадку, калі гэта садзейнічае больш поўнаму ўяўленню пра аб'ект, які ілюструецца.

Калі ў тэксце артыкула няма звестак пра знешнія памеры прылады (апарата), тады ў падмалюнкавым подпісе або на ма-

люнку паказваецца супастаўны, выразна выдзелены аб'ект (чалавек, запалкавы карабок і г.д.).

Падмалюнкавыя подпісы, калі на малюнках ёсць абазначэнні, суправаджаюцца экспплікацыяй.

Збудаванне або яго элемент. Ілюстрацыя да артыкула пра збудаванне (цеплавая станцыя, гідрастанцыя, аэравакзал, прамысловы ці гарадскі будынак) павінна паказваць архітэктурна-будаўнічую частку са схематычным паказам абсталявання (сілавыя ўстаноўкі, котлаагрэгаты, металургічныя печы і г.д.). Тое ж самае адносіцца да элемента збудавання, калі ў ім ёсць тэхнічнае абсталяванне; у адваротным выпадку даецца толькі архітэктурна-будаўнічая частка.

Найбольш буйныя збудаванні ілюструюцца фатаграфіямі агульнага выгляду або яго фрагмента.

Колькасць ілюстрацый — 1—2 (у залежнасці ад характару збудавання).

Канструктыўная частка будынка ілюструецца схематычным паказам часткі, якая апісваецца, у адной ці некалькіх праекцыях з неабходнай колькасцю сячэнняў. У асобных выпадках для нагляднасці малюнак можна даваць у аксанаметрыі або ў выглядзе натурнай фатаграфіі.

Колькасць ілюстрацый — 1—2.

Тып будаўнічай канструкцыі. Артыкул пра канструкцыю пэўнага тыпу ілюструецца чарцяжамі канструкцыі ў адной або некалькіх праекцыях (пераважна ў аксанаметрычных) або фатаграфіямі.

Колькасць ілюстрацый — 1—2.

Артыкулы пра матэрыялы і сплавы ў асобных выпадках ілюструюцца дыяграмамі, якія характарызуюць якасці матэрыялу або сплаву.

Колькасць ілюстрацый — 1—2.

Матэрыялы, інструменты, прыстасаванні вытворчасці Беларусі. Ілюструюцца, як правіла, тэкставай ілюстрацыяй. З астатніх ілюструюцца найважнейшыя.

Спартыўная гульня. Даецца схема спартыўнага поля з абсталяваннем для гульні.

Стадыён, водная станцыя і да т.п. Даецца блок здымкаў найбольшых стадыёнаў, водных станцый і да т.п. (беларускіх, замежных, алімпійскіх).

Фізічная з'ява ілюструецца:

а) схемай эксперыменту;

б) эксперыментальнымі звесткамі (фота, крывыя);

в) крывымі, якія характарызуюць заканамернасць з'явы.

Колькасць рысункаў — 1—3.

## АРТЫКУЛЫ ПА ЭКАНОМІЦЫ

### Галіны эканомікі і асобныя прадпрыемствы

1. У ілюстрацыях да артыкулаў пра найбольш важныя галіны эканомікі Беларусі (прамысловасць, сельскую гаспадарку, транспарт, будаўніцтва) паказваюцца найважнейшыя прадпрыемствы і асноўныя вытворчыя працэсы.

Прыблізная колькасць ілюстрацый — 1—3.

2. Да артыкулаў пра асобныя галіны прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспарту Беларусі даецца 1—2 ілюстрацыі.

3. У ілюстрацыях да артыкулаў пра асобныя прамысловыя і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы паказваюцца агульны выгляд прадпрыемства або асобных цэхаў (аддзяленняў), працэс вытворчасці, умовы працы і быту рабочых і служачых.

Прыблізная колькасць ілюстрацый — 1—2.

## БІЯГРАФІЧНЫЯ АРТЫКУЛЫ

Асноўнай формай ілюстравання біяграфічных артыкулаў з'яўляецца партрэт.

Замест партрэта-фатаграфіі стандартнага фармату ў артыкулах пра найбольш выдатных дзеячаў можа быць змешчаны партрэт, выкананы вядомым мастаком.

Артыкул пра найбольш выдатных дзеячаў літаратуры і мастацтва можа быць таксама праілюстраваны рукапісам (факсіміле), дакументальнымі фатаграфіямі, здымкамі мемарыяльных месцаў, творамі літаратуры (розныя выданні — у артыкулах пра пісьменнікаў і вучоных), мастацтва (у артыкулах пра мастакоў, архітэктараў), здымкамі артыстаў у ролях (у артыкулах пра акцёраў), фатаграфіямі сцэн са спектакляў і фільмаў (у артыкулах пра рэжысёраў-пастаноўшчыкаў).

Прыблізная колькасць ілюстрацый:

а) да артыкулаў пра найбольш вядомых дзеячаў навукі, літаратуры і мастацтва — 1—2 ілюстрацыі;

б) да артыкулаў пра найбольш вядомых мастакоў і артыстаў — 2—4 ілюстрацыі.

Партрэты даюцца да наступных біяграфічных артыкулаў:

Акадэмік АН Беларусі, былой АН СССР,
Лаўрэат Нобелеўскай прэміі,
Двойчы Герой Савецкага Саюза,
Маршал Савецкага Саюза,
Генерал-палкоўнік Беларусі,
Генерал арміі,

Адмірал,
Віцэ-адмірал,
Кіраўнік буйной замежнай дзяржавы,
Мастакі і пісьменнікі — лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Беларусі,
Дзеячы культуры, пісьменнікі — лаўрэаты міжнародных і саюзных прэмій,
Народныя паэты і пісьменнікі Беларусі,
Класікі замежнай літаратуры і культуры,
Беларускія спартсмены — чэмпіёны Алімпійскіх гульняў (залаты медаль),
Беларускія спартсмены — чэмпіёны свету (залаты медаль),
Выдатныя спартсмены свету.

## ПОДПІСЫ ДА ІЛЮСТРАЦЫЙ

1. Пад усімі ілюстрацыямі звычайна робяцца подпісы. Выключэнне — фотаздымак, завярстаны ў артыкуле, назва якога вынікае з тэксту артыкула.

2. Калі артыкул суправаджаецца малюнкамі, апісанымі ў тэксце, пад кожным з іх даецца подпіс: «мал. 1», «мал. 2» і г.д. У адпаведным месцы ў тэксце даецца спасылка: (гл. мал. 1), (гл. мал. 2).

3. У подпісе да блока ілюстрацый даецца абагульнены загаловак, потым ідзе нумарацыя ў парадку размеркавання сюжэтаў.

4. Пры прозвішчах дзяржаўных і палітычных дзеячаў, дзеячаў навукі, мастацтва і інш. у назвах прамысловых прадпрыемстваў, музеяў, плошчаў, вуліц і г.д. ініцыялы не ставяцца.

Прыклады:

Музей выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна.
Плошча імя Машэрава. Вуліца імя Даватара.

5. Паводле характару зместу подпісы падзяляюцца на некалькі відаў:

да фізіка-геаграфічных сюжэтаў;
да эканоміка-геаграфічных сюжэтаў;
да твораў мастацтва;
да гістарычных падзей;
да сюжэтаў з галіны прыродазнаўства;
да тэхнічных ілюстрацый;
да партрэтаў.

6. Узоры подпісу да малюнкаў:

а) Калі паказваецца фізіка-геаграфічны ландшафт, даецца яго вызначэнне і паказваецца месца знаходжання.

Прыклад:

Выток р.Волга каля с.Волгавярхоўе Цвярской вобл.

б) Калі паказваецца эканоміка-геаграфічны сюжэт, даецца яго вызначэнне, назва прадпрыемства, горад або раён і вобласць.

Прыклад:

У турбіннай зале Бярозаўскай ДРЭС. г.Бяроза.

в) Калі паказваецца плошча, сквер, вуліца, даецца іх назва з паказам горада.

Прыклад:

Мінск. Сквер імя Я.Купалы.

г) Калі асобныя сюжэты аб´ядноўваюцца агульнай тэмай у блок, у подпісе даецца назва тэмы, потым пералічваюцца асобныя сюжэты.

Прыклад:

Салігорскі 1-ы калійны камбінат: 1. Агульны выгляд камбіната. 2. Канвеер гатовай прадукцыі.

д) Калі паказваецца будаўніцтва, неабходна паказваць год фатаграфавання.

Прыклад:

На будаўніцтве Гомельскага суперфасфатнага завода. 1968.

е) Подпіс пад творамі мастацтва звычайна павінен уключаць прозвішча і ініцыялы аўтара, назву сюжэта, год стварэння твора і ў асобных выпадках тэхніку выканання. Месца знаходжання паказваецца толькі для твораў (скульптуры, эстампа і інш.), якія знаходзяцца ў беларускіх музеях ці ўстаноўлены ў гарадах Беларусі, і для твораў беларускіх мастакоў, якія знаходзяцца ў музеях за межамі Беларусі.

Прыклад:

У.Л. Баравікоўскі. Партрэт Е.У. Радзянка. 1821. Нацыянальны маст. музей Беларусі.

Калі твор мастацтва ўключаецца ў артыкул разам з дакументальнымі фатаграфіямі, подпіс трэба афармляць так:

Н.Л. Жылін. За мір. 1952.

ж) Калі ўвагу чытача трэба звярнуць на пэўны будынак або помнік, які знаходзіцца на вуліцы, плошчы або ў агульным ландшафце горада, подпіс робіцца наступным чынам:

Кіева-Пячэрская лаўра. Агульны выгляд. На заднім плане — Успенскі сабор (разбураны нямецкімі фашыстамі ў 1941).

з) Подпіс да сюжэтаў гістарычных падзей павінен уключаць вызначэнне сюжэта, месца падзеі і яе дату.

Прыклад:

Выступленне Міхася Ткачова на плошчы Незалежнасці ў Мінску. 1992.

і) Подпіс да малюнкаў, пра якія ў тэксце артыкула ёсць падрабязнае апісанне яго дэталяў, афармляецца так:

Паваротны залатнік: 1 — ўтулка; 2 — пласцінка.

7. У подпісах да ілюстрацый, якія паказваюць прадметы пад мікраскопам, абавязкова гаворыцца, у колькі разоў павялічана адлюстраванне ў параўнанні з натурай.

Прыклад:

Павелічэнне амаль у 50 разоў (не дапускаецца: «Вельмі павялічана»).

8. У тэхнічных ілюстрацыях пры паказе машын, станкоў і інш. неабходна даваць звесткі пра маштаб, змяшчаючы на малюнку чалавека (або прадметы, велічыня якіх супастаўная, напр., дзверы, акно і да т.п.) або пазначаючы памеры пад малюнкам.

9. Подпісы да малюнкаў, чарцяжоў і схем павінны ўключаць агульную назву і тлумачэнне асобных дэталяў, калі яны пранумараваны. Калі гэта магчыма, трэба даваць тлумачэнне асобных дэталяў у самім малюнку (схеме, чарцяжы), а пад малюнкам — толькі абагульнены подпіс.

Прыклад:

Мал. 3. Схема аўтамабіля МАЗ-420: 1 — радыятар; 2 — вентылятар; 3 — рухавік; 4 — рычаг пераключэння перадач.

10. Подпіс пад партрэтам павінен мець ініцыялы і прозвішча. Калі партрэт з'яўляецца творам мастацтва, пазначаюцца аўтар, гады стварэння партрэта.

Прыклад:

**Ф.Г.Волкаў.** Партрэт работы А.П.Ласенкі. 1763.
Рускі музей. Санкт-Пецярбург.

11. У подпісах пад ілюстрацыямі і ў загалоўках табліц нельга карыстацца скарочанай назвай артыкула.

### Тэхнічнае афармленне подпісаў

Назва артыкула (тэрміна) або тэмы ў подпісах пад ілюстрацыйнымі блокамі набіраецца паўтлустым шрыфтам. Подпісы да асобных ілюстрацый у блоку аддзяляюцца кропкамі. Парадкавыя лічбы даюцца прамым шрыфтам. Калі назва блока не супадае з назвай артыкула, то спасылка, да якога артыкула адносіцца блок, набіраецца курсівам.

Прыклады:

Кіты. 1. Сіні кіт (Balaenoptera musculus). 2. Фінвал (Balaenoptera physalus). 3. Сейвал (Balaenoptera borealis).
Б.В.Платонаў у ролях: 1. Рамэо ў п'есе «Рамэо і Джульета» У.Шэкспіра. 2. Адольфа Быкоўскага ў камедыі

«Паўлінка» Я.Купалы. 3. Пратасава ў п'есе «Жывы труп» Л.Талстога. 4. Эзопа ў п'есе «Лісіца і вінаград» Г.Фігейрэду і г.д.

Ірак. 1. Багдад. Агульны выгляд. 2. На адным з каналаў у Басры. 3. Рака Тыгр каля Багдада. 4. У порце Маргіль. 5. Агульны выгляд нафтаперагоннага завода ў Кіркуку.

Калі да аднаго артыкула даецца некалькі блокаў, аб'яднаных адн й тэмай, у правым або левым верхнім рагу даецца назва блока з парадкавым нумарам.

## Спасылкі на ілюстрацыі

1. Спасылкі на ілюстрацыі (фотаздымкі, чарцяжы, табліцы, карты, схемы і інш.), змешчаныя ў тэксце артыкулаў, даюцца, калі ў гэтым ёсць неабходнасць, паметамі: «гл. мал. 1», «гл. схему А», «гл. карту» і г.д.

2. Спасылкі на блокі ілюстрацый даюцца абавязкова, незалежна ад таго, змешчаны яны каля артыкула або не. Пры гэтым спасылкі могуць рабіцца:

а) на ўвесь блок і на яго асобныя часткі;

б) ад артыкула, да якога блок адносіцца непасрэдна, і ад розных іншых артыкулаў, змешчаных нават у розных тамах.

3. Спасылкі на блокі ілюстрацый афармляюцца наступным чынам:

а) калі назва блока ілюстрацый супадае з назвай артыкула: «Гл. іл.»;

б) калі адсылка робіцца на блок і блок мае назву, якая адрозніваецца ад назвы артыкула, спасылка афармляецца так: «Гл. іл. да арт. *Трусагадоўля*».

# XVI. КАРТАГРАФІЧНЫ МАТЭРЫЯЛ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1. Карты і схемы на картаграфічнай аснове грунтуюцца на выніках найноўшых даследаванняў прыроды і грамадства і асвятляюць асноўныя пытанні фізічнай, эканамічнай і палітычнай геаграфіі свету, асобных краін і іх частак, гістарычныя падзеі ад старажытных часоў да нашых дзён, самыя важныя прыродныя з'явы мінулага і сучаснасці.

2. Карты павінны быць навукова-пазнавальныя і даведачныя, мець максімальна-гранічную нагрузку, даваць дадатковыя звесткі да тэксту артыкулаў, якія яны ілюструюць. Усе карты даюцца з градуснай сеткай і маштабам. Пры вызначэнні маштабаў карт не дапускаецца іх дробнасць. Маштабы фізічнай, палітычнай і эканамічнай карты на адну і тую ж тэрыторыю павінны быць аднолькавымі.

3. Карты і схемы неабходна ўзгадняць з тэкстам артыкулаў і паміж сабой. Асноўную нагрузку карт павінны складаць звесткі, што ўпамінаюцца ў артыкулах (геаграфічныя аб'екты і іх назвы, населеныя і прамысловыя пункты, пункты, звязаныя з гістарычнымі падзеямі, даты падзей, арэалы пашырэння прыродных з'яў і г.д.).

4. Кожная карта ці схема звычайна ілюструе адзін артыкул, г.зн. паказвае адну пэўную тэрыторыю, адну грамадскую падзею ці якую-небудзь з'яву прыроды (дзяржава, вобласць, гістарычная падзея, геаграфічная з'ява, арэал пашырэння і інш.).

5. Усе карты незалежна ад прызначэння, характару і зместу завёрстваюцца ў тэкст артыкула (уклейкі не плануюцца).

Найбольшы фармат тэкставай карты абмяжоўваецца памерам адной старонкі (паласы набору). Найменшы памер тэкставай карты павінен адпавядаць шырыні адной калонкі. Карты могуць

займаць дзве, паўтары ці тры калонкі ў залежнасці ад прынцыпу афармлення кнігі.

6. Карты і схемы падзяляюцца на некалькі тыпаў. Аднатыпныя карты павінны быць звязаны паміж сабой адзінствам нагрузкі, афармлення, ствараецца паводле адзінага плана (праграмы) і стандартных умоўных знакаў для гэтага тыпу карт.

7. Тэкставыя карты падзяляюцца на:

а) агульнагеаграфічныя — кантынентаў, дзяржаў, краёў, абласцей, араграфічныя схемы вялікіх горных сістэм і краін;

б) эканамічныя — Беларусі і інш. дзяржаў свету.

в) спецыяльныя, якія паказваюць важныя прыродныя, гістарычныя і грамадскія з'явы, пытанні геаграфіі, біялогіі, геалогіі.

8. Каляровыя карты (яны звычайна выкананы ў чатыры колеры) даюцца да артыкулаў:

пра свет у цэлым (палітычныя);

мацерыкі і кантыненты (палітычныя);

акіяны (фізічныя);

Рэспубліка Беларусь (аглядныя карты) і яе вобласці, самыя важныя замежныя краіны (аглядныя і эканамічныя), да артыкулаў пра найважнейшыя падзеі грамадзянскай і ваеннай гісторыі, а таксама па геалогіі, біялогіі (спецыяльныя).

9. Усе ўмоўныя знакі і тлумачальныя подпісы да агульнагеаграфічных карт групуюцца ў спецыялізаваную табліцу, якая змяшчаецца ў першым томе энцыклапедыі. Легенды для спецыяльных карт распрацоўваюцца да кожнай работы асобна і змяшчаюцца ўрэзкай на самой карце. Пры яе складанні павінна захоўвацца уніфікацыя найбольш часта ўжывальных аднатыповых умоўных знакаў.

10. На ўрэзках у тэкставыя агульнагеаграфічныя карты пажадана даваць схемы месцазнаходжання гэтай краіны ці вобласці, а на каляровых картах дзяржаў, па магчымасці, і схемы адміністрацыйнага падзелу.

11. Транскрыпцыю назваў на картах робіць ЛКР у адпаведнасці з агульнапрынятымі прынцыпамі і рашэннямі тэрміналагічнай камісіі БелЭн.

12. Рыхтуючы карты і схемы, неабходна выконваць патрабаванні спецыяльных інструкцый па ахове дзяржаўнай і ваеннай тайны.

## ПАРАДАК ПАДРЫХТОЎКІ КАРТАЎ

13. Навукова-галіновыя рэдакцыі прадстаўляюць у групу картаграфіі спісы карт у строгай паслядоўнасці іх размяшчэння

(па алфавіце). Група картаграфіі на аснове прадстаўленых спісаў складае зводны спіс карт і перадае яго ў КМР для ўдакладнення і зацвярджэння ў Галоўнай рэдакцыі БелЭн. Усе змены, якія ўносяцца ў спіс карт, узгадняюцца з Галоўнай рэдакцыяй. Пры складанні карт і схем, што змяшчаюцца ў БелЭн, павінны быць выкарыстаны найноўшыя картаграфічныя, статыстычныя і даведачныя звесткі і матэрыялы.

14. Падрыхтоўку нагрузкі на карты ажыццяўляюць навукова-галіновыя рэдакцыі разам з групай картаграфіі. Адказнасць за правільны навуковы і палітычны змест карт, іх адпаведнасць тэксту артыкулаў, своечасовую здачу матэрыялаў у групу картаграфіі, прагляд і зацвярджэнне нясуць навукова-галіновыя рэдакцыі.

На групу картаграфіі ўскладаецца адказнасць:

а) за дакладны навуковы і палітычны змест карт і іх адпаведнасць аўтарскаму заказу;

б) за складанне і рэдагаванне агульнагеаграфічных карт у адпаведнасці з тэкстам артыкулаў і навукова абгрунтаванае абагульненне элементаў зместу карты;

в) за стварэнне матэматычнай і геаграфічнай асновы карт пры складанні карт паводле аўтарскіх матэрыялаў.

г) за уніфікацыю аднатыпных карт і ўмоўных знакаў для іх;

д) за своечасовае выпраўленне арыгіналаў карт па заўвагах навукова-галіновых рэдакцый і КМР.

Група картаграфіі ў адпаведнасці з зацверджаным Галоўнай рэдакцыяй спісам карт і ў тэрміны, прадугледжаныя графікам, выконвае:

а) падбор картаграфічных, статыстычных і іншых матэрыялаў для агульнагеаграфічных карт;

б) рэдагаванне прадстаўленых навукова-галіновай рэдакцыяй аўтарскіх матэрыялаў спецыяльных карт з пункту гледжання іх адпаведнасці зместу артыкула, паўнаты і правільнасці картаграфічнага адлюстравання зместу артыкула.

У выпадку складання карт на картфабрыцы група распрацоўвае рэдакцыйныя ўказанні з улікам патрабаванняў, вызначаных для аднатыпных карт БелЭн.

15. Для складання агульнагеаграфічных карт навукова-галіновыя рэдакцыі падаюць у групу картаграфіі копію артыкула, да якога рыхтуецца карта. Копія артыкула павінна быць падпісана рэдактарам, які вядзе артыкул, і загадчыкам рэдакцыі. Акрамя артыкула, галіновая рэдакцыя перадае ў групу картаграфіі і статыстычныя звесткі пра колькасць жыхароў у

населеных пунктах і зменах у адм.-тэр. падзеле краіны. Пры гэтым выкарыстоўваюцца звесткі, змешчаныя ў «дзяжурных» даведніках.

16. Матэрыялы для складання спецыяльных карт падаюцца навукова-галіновымі рэдакцыямі ў групу картаграфіі камплектна:

а) аўтарскі матэрыял (эскізы, калькі ці апісанні);

б) адрэдагаваны артыкул, да якога рыхтуецца карта;

в) спасылкі на выкарыстаныя аўтарам крыніцы пры падрыхтоўцы карты;

г) рэцэнзія спецыялістаў на аўтарскі матэрыял.

Аўтарскі матэрыял для спецыяльных карт павінен быць прарэцэнзаваны і адрэдагаваны навукова-галіновай рэдакцыяй і ўзгоднены з КМР.

Парады і заўвагі навукова-галіновых рэдакцый павінны змяшчаць звесткі, звязаныя са спецыфічнай асаблівасцю пэўнай карты, мець спасылкі на матэрыялы, выкарыстаныя пры складанні аўтарскага эскіза.

17. Заказ на падрыхтоўку аўтарскіх матэрыялаў карт ажыццяўляе навукова-галіновая рэдакцыя.

18. Артыкулы, да якіх плануюцца карты, павінны быць заказаны і адрэдагаваны на 4—6 месяцаў раней за іншыя артыкулы.

19. Калі навукова-галіновыя рэдакцыі парушаць планавы тэрмін здачы аўтарскіх матэрыялаў карт у групу картаграфіі, яны прымаюцца да апрацоўкі толькі з дазволу Галоўнай рэдакцыі.

20. Група картаграфіі пасля сканчэння кожнага асобнага працэсу работы над картай перадае матэрыял на прагляд і зацвярджэнне ў навукова-галіновую рэдакцыю разам са спісам геаграфічных назваў і тэкстам легенды. Пры неабходнасці галіновая рэдакцыя робіць і пераклад спісаў на беларускую мову. Далей спісы перадаюцца ў ЛКР, якая правярае іх у самы кароткі тэрмін.

У КМР і ЛКР перадаюцца на прагляд і зацвярджэнне:

а) агульнагеаграфічныя карты на стадыі штрыхавой пробы (каляровыя карты) і фотакопіі з арыгіналаў унутрытэкставых чорна-белых карт;

б) спецыяльныя карты на стадыі аўтарскіх арыгіналаў, штрыхавой пробы і фотакопіі з арыгіналаў унутрытэкставых карт.

21. Навукова-галіновыя рэдакцыі і КМР вызначаюць правільнасць зместу карты і адпаведнасць яе тэксту артыкула ў тэрмін:

а) унутрытэкставыя чорна-белыя — не больш як 5 дзён пасля паступлення іх у навукова-галіновую рэдакцыю;

б) штрыхавыя і каляровыя пробы каляровых карт — не больш як 10 дзён;

в) сігнальныя экзэмпляры карт — не больш як 3 дні.

22. Вынікі рэдакцыйнага прагляду карт у навукова-галіновай рэдакцыі і КМР перадаюцца ў групу картаграфіі. Усе прагледжаныя матэрыялы павінны быць падпісаны рэдактарам, які вядзе артыкул, і загадчыкам адпаведнай рэдакцыі. Копіі гэтых матэрыялаў (заўвагі да карт) павінны захоўвацца ў галіновай рэдакцыі і КМР для далейшага кантролю за выкананнем гэтых заўваг групай картаграфіі.

23. Усе заўвагі па змесце карт і транскрыпцыі павінны даваць навукова-галіновыя рэдакцыі, КМР і ЛКР не пазней, як на стадыі штрыхавой пробы. На стадыі каляровай пробы правяраецца выкананне гэтых заўваг і каляровае афармленне карт. Усе заўвагі па змесце ўнутрытэкставых карт прымаюцца групай картаграфіі толькі да здачы арыгіналаў карт у вытворчасць.

24. За выкананне заўваг, зробленых навукова-галіновымі рэдакцыямі, КМР і ЛКР, адказвае група картаграфіі.

25. Аддзелу камплектавання не дазваляецца прымаць ад навукова-галіновых рэдакцый артыкулы без адзнакі групы картаграфіі пра атрыманне матэрыялаў для складання спецыяльных карт.

# XVII. ТРАНСКРЫПЦЫЯ ЗАМЕЖНЫХ НАЗВАЎ

## АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Усе замежныя прозвішчы, імёны, геаграфічныя назвы, назвы газет, часопісаў, выдавецтваў, інфармацыйных агенцтваў, твораў мастацтва, навуковых і іншых устаноў, а ў некаторых выпадках і назвы літаратурных і навуковых твораў, палітычных і іншых арганізацый перадаюцца ў артыкулах БелЭн у беларускай транскрыпцыі з улікам традыцыйнасці.

Задача транскрыбіравання ў БелЭн — праверка беларускага і арыгінальнага напісання замежных імёнаў і назваў у слоўніках, артыкулах, на картах, у подпісах да ілюстрацый і ўсталяванне аднастайнасці напісання. Аднастайнасць транскрыбіравання іншамоўных назваў — неабходнае патрабаванне энцыклапедычнай уніфікацыі.

Галоўны прынцып транскрыбіравання — фанетычны, г. зн. перадача сродкамі беларускага алфавіта як мага больш дакладнага вымаўлення іншамоўных назваў. У БелЭн ён пашыраецца на ўсе іншамоўныя назвы.

## АРЫГІНАЛЬНАЕ НАПІСАННЕ

1. Пасля назваў артыкулаў («чорных слоў») пра дзеячаў, геаграфічныя аб'екты і іншыя ў дужках даецца іх арыгінальнае (замежнае) напісанне. Гэтае правіла пашыраецца на замежныя назвы, узятыя з моў, якія карыстаюцца лацінскай ці рускай графікай, і не пашыраецца на мовы, якія карыстаюцца іншай графікай (арабскай, кітайскай і г. д.). Для гэтых моў у загалоўках артыкулаў і ў тэкстах арыгінальныя назвы не даюцца, аднак там, дзе трэба, называецца мова, з якой слова паходзіць.

Прыклады:

А́АЛТАНЕН (Aaltonen) Вяйнё Валдэмар, фінскі скульптар.

**ГААСЮ́Н**, горад у Кітаі.

**ГІМАЛА́І** (санскр. хіма — снег + алая — жыллё).

2. Грэчаскія назвы даюцца ў дужках не грэчаскім, а лацінскім алфавітам (гл. раздзел «Этымалагічныя і тапанімічныя даведкі»).

3. Назвы зарубежных перыядычных выданняў даюцца на мове арыгінала (для моў з лацінскай і рускай графікай) і ў перакладзе на беларускую мову; беларуская транскрыпцыя ўжываецца толькі для перыядычных выданняў на мовах з асобай графікай (але не рускай і не лацінскай).

Прыклады:

«Wiener Zeitung» («Венская газета»).

«Аль-Гумхурыя» («Рэспубліка»).

4. Калі ў артыкулах ёсць назвы шырокавядомых замежных перыядычных выданняў, яны падаюцца толькі ў беларускай транскрыпцыі (напр., «Юманітэ»).

5. У артыкулах агляднага характару пра замежныя канцэрны, кампаніі арыгінальнае напісанне іх назваў даецца і ў тэксце артыкулаў.

## НЕКАТОРЫЯ ПРАВІЛЫ ТРАНСКРЫПЦЫІ

1. Пры транскрыбіраванні імёнаў (з англійскай, галандскай і іншых блізкіх да гэтых моў), якія пачынаюцца з літары «Н», апошняя перадаецца праз беларускае «Х».

Прыклад:

Хабл (Hubble), а не Габл.

Выключэнне дапускаецца толькі для тых імёнаў, якія прынята пісаць з «Г» па традыцыі.

У нямецкіх імёнах літара «Н» у пачатку слова перадаецца пераважна праз «Х» (за выключэннем слоў, якія прыжыліся ў беларускай мове з гукам «Г»).

Прыклады:

Габсбургі (Habsburger), а не Хабсбургі.

Хайдэгер (Heidegger), ням. вучоны.

2. Англійскае «w» у сярэдзіне слова, пасля галоснай і перад зычнай перадаецца праз «ў» (нескладовае).

Прыклад:

Роўлінсан (Rawlinson).

У пачатку слова — праз «у» (складовае).

Прыклад:

Уільям (William).

У традыцыйнай форме «в» захоўваецца.

Прыклад:

Вашынгтон (Washington), а не Уашынгтан.

3. Англійскае, галандскае, партугальскае і румынскае «l» перадаецца праз «л», а не праз «ль».

Прыклад:

Алмейда (Almeida) замест Альмейда.

У традыцыйных назвах захоўваецца «ль».

Прыклад:

Кромвель (Cromwell).

4. Спалучэнні еўрапейскага «l» з галоснымі «а», «о», «u» перадаюцца праз «ла», «ло», «лу» ў традыцыйных назвах.

Прыклад:

Ла-Рашэль (La Rochelle).

5. Падваенне зычных і падоўжанне галосных на беларускай мове не перадаецца.

Прыклады:

Гаўптман (Hauptmann),

Ахен (Aachen).

6. Іспанскае «j» (хота) перадаецца праз беларускае «х».

Прыклад:

Хуан (Juan).

7. Італьянскія спалучэнні «gi», «ci» перадаюцца праз беларускія «дж», «ч», замест традыцыйнага «джы», «чы», а спалучэнні «cio» — праз «ча».

Прыклад:

Борджа (Borgia) замест Борджыя.

Джавані (Giovanni) замест Джыявані.

Але ў некаторых выпадках захоўваецца традыцыйнае напісанне.

Прыклад:

Бакачыо (Boccaccio).

8. Французскае «eu», «oeu», нямецкае, шведскае і венгерскае «ö», нарвежскае «ø» перадаюцца праз беларускае «ё».

Прыклад:

Мантэск'ё (Montesquieu).

У пачатку слоў і пасля галосных пералічаныя іншамоўныя гукі перадаюцца праз беларускае «э».

Прыклад:

Эрэбру (Örebro).

9. Гукі тыпу французскага «u», нямецкага «ü» перадаюцца праз беларускае «ю».

Прыклад:

Дзюма (Dumas).

У пачатку слова — праз «і».

Прыклад:

Іберbegг (Überwerg), але (па традыцыі) Юманітэ (L'Humanite).

10. Нямецкія дыфтонгі «ei», «eу», «äu», «eu» у назвах перыядычных выданняў, кампаній і г. д. і ў нетрадыцыйных прозвішчах перадаюцца не праз «ей» («эй») і «ёй», а праз «ай» і «ой».

Прыклад:

Цайтунг (Zeitung) замест Цэйтунг.

11. Пры раздзельным напісанні складаных геаграфічных назваў паміж часткамі назваў ставіцца дэфіс, а часткі назвы пішуцца з вялікай літары, акрамя прыназоўнікаў, злучнікаў і іншых службовых слоў, якія пішуцца ў сярэдзіне назвы з малой літары.

Прыклад:

Шато-дзю-Луар (франц.).

12. Усе складаныя асабовыя імёны пішуцца без дэфісаў.

Прыклад:

Карл Філіп Эмануэль.

13. Прыназоўнікі пры замежных прозвішчах «дэ» (у раманскіх мовах), «ван» (у галандскай мове), «фон» (у нямецкай мове) пішуцца асобна з малой літары.

Прыклад: дэ Вільфос, ван Кампен, фон Гутэн.

Назвы артыкулаў, за невялікім выключэннем, даюцца не на прыназоўнік, а на асноўнае прозвішча.

Прыклад:

**ГОЛЬ** Шарль дэ.

14. Часціца «аль» (або «эль») і вытворныя ад яе («ас», «аш» і інш.) у арабскіх прозвішчах і геаграфічных назвах пішуцца з дэфісам; у прозвішчах з малой літары (ат-Табара), у геаграфічных назвах — з вялікай (Эль-Хаса).

15. Калі «чорным словам» ідзе найменне (часцей геаграфічнае), якое мае дзве разнамоўныя формы, то ў разрадку даецца другое найменне, а ў дужках у арыгінале паказваюцца абедзве формы.

Прыклад:

**ЛЁВЕН**, франц. Л ю в е н (флам. Leuven, франц. Leuvain).

16. У назвах перыядычных выданняў, тэатраў і г. д. усе складаныя словы назвы (акрамя пачатковага слова і ўласных імёнаў) пішуцца з малой літары.

Прыклад:

«Морнінг стар» («Morning Star»).

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ ФОРМЫ НАЗВЫ

1. У БелЭн вельмі шырока практыкуецца замена традыцыйных няправільных назваў правільнымі. Імёны і назвы (напрыклад, Парыж замест Пары), якія трывала замацаваліся ў беларускай навуковай, навучальнай і мастацкай літаратуры, у геаграфічных атласах і на картах пішуцца ў традыцыйнай форме. Імя французскіх каралёў Liuis па традыцыі пішацца Людовік, але, як выключэнне, Луі Філіп.

2. Калі назва артыкула даецца ў правільнай фанетычнай форме, але ў літаратуры бывае другое напісанне, то, акрамя асноўнага артыкула, павінен быць спасылачны, які адсылае чытача да правільнага напісання.

П р ы к л а д :

**ГВАРЭ́НГІ** Дж., гл. *Кварэнгі* Дж.

3. Калі назва артыкула даецца ў няправільнай, але традыцыйнай форме, то пасля назвы ў разрадку павінна ісці правільная фанетычная форма.

П р ы к л а д ы :

**АДЗІ́**, А д ы (Ady) Эндрэ.

4. Калі традыцыя няправільнага напісання вельмі трывалая, то правільная форма пасля назвы артыкула не паказваецца (напрыклад, у артыкуле «Гейнэ»).

Усе складаныя выпадкі напісання замежных назваў выносяцца на вырашэнне тэрміналагічнай камісіі.

# XVIII. ЭТЫМАЛАГІЧНЫЯ І ТАПАНІМІЧНЫЯ ДАВЕДКІ

1. Этымалагічныя даведкі, г. зн. даведкі пра паходжанне слова, даюцца да слоў, якія з´яўляюцца назвамі артыкулаў і яўнымі запазычаннямі з замежных моў. Этымалагічныя даведкі ідуць адразу пасля назвы артыкула, пасля так званага «чорнага слова».

Прыклад:

**МІ́СТЫКА** (ад грэч. mystika таямнічыя абрады).

Без этымалагічных даведак ідуць назвы:

а) хімічных злучэнняў;

б) лекавых сродкаў;

в) тэрміны, пра паходжанне якіх няма аўтарытэтных звестак.

2. Даведачныя словы пішуцца лацінскімі літарамі, калі яны ўзяты з моў, якія карыстаюцца лацінскай графікай. Грэчаскія словы перадаюцца лацінскімі літарамі на падставе табліцы на стар. 172.

У астатніх выпадках, калі іншамоўныя словы, на якія даюцца этымалагічныя даведкі, не могуць перадавацца лацінскай графікай, яны пішуцца беларускімі літарамі паводле прынятай у БелЭн сістэмы транскрыпцыі.

3. У словах лацінскага і грэчаскага паходжання, калі аснова іх па назоўным склоне незразумелая, даецца побач у дужках форма роднага склону, якая выяўляе чыстую аснову слова.

Прыклад:

**ПІРАМІ́ДА** [грэч. pyramis (pyramidos) ].

4. Пры наяўнасці некалькіх назваў артыкулаў аднаго паходжання этымалагічная даведка даецца толькі пры асноўным слове. Напрыклад, калі ідуць артыкулы «Аб´ект», «Аб´ект (у мовазнаўстве)», «Аб´ект права», «Аб´ектывізм», «Аб´ектыў» і г.

| Грэчаская літара | Назва | Лацінская літара |
|---|---|---|
| Α α | альфа | Aa |
| Β β | бэта | Bb |
| Γ γ | гама | Gg |
| спалучэнні | дзве гамы | ng |
| | гама + капа | nk |
| | гама + ксі | nx |
| | гама + хі | nch |
| Δ δ | дэльта | Dd |
| Ε ε | эпсілан | Ee |
| Ζ ζ | дзэта | Zz |
| Η η | эта | Ē ē |
| Θ θ | тэта | Th th |
| Ι ι | ёта | Ii |
| κ | капа | Kk |
| λ | ламбда | Ll |
| μ | мю | Mm |
| ν | ню | Nn |
| Ξ ξ | ксі | Xx |
| Ο ο | о мікрон | Oo |
| Π π | пі | Pp |
| Ρ ρ | ро | Rh rh |
| | | Rr |
| Σ σ | сігма | Ss |
| Τ τ | тау | Tt |
| Υ υ | іпсілан | Yy |
| | | Eu |
| ου | двухгалосныя | Uu |
| Φ φ | фі | Ph ph |
| Χ χ | хі | Ch ch |
| Ψ ψ | псі | Ps ps |
| Ω ω | амега | Ōō |

д., то дастаткова даць этымалагічную даведку да першага слова.

Прыклад:

АБ'ЕКТ (ад лац. objectum прадмет).

5. Прыстаўкі, пачатковыя ці канцавыя часткі слоў, якія часта паўтараюцца ў складаных словах іншамоўнага паходжання, вылучаюцца ў асобныя самастойныя артыкулы з пэўнымі этымалагічнымі даведкамі.

Прыклады:

А́НТЫ... (грэч. anti...)

А́НТРАПА... (ад грэч. anthrōpos чалавек).

6. Пры складаным слове даецца паходжанне частак, з якіх яно складаецца, і ў пачатку этымалагічнай даведкі пішацца прыназоўнік «ад».

Прыклады:

АКВАПЛА́Н (ад лац. aqua вада + planum плоскасць).

АКРАВЕ́РШ (ад грэч. akros крайні + лац. versus вершаваны).

АЎТАСТО́П (ад *аўта...* + англ. stop спыненне).

Знак + абазначае «і».

Калі граматычная форма простага чорнага слова не супадае з граматычнай формай запазычанага, таксама ставіцца прыназоўнік «ад».

Прыклад:

АГЛАМЕРА́Т (ад лац. agglomeratus далучаны, накоплены).

7. Калі беларускі тэрмін з'яўляецца калькай складанага слова з замежнай мовы, то ў этымалагічнай даведцы трэба назваць у арыгінале складанае слова і часткі, з якіх яно ўтворана.

Прыклады:

КАКАФО́НІЯ (грэч. kakophōnia ад kakos кепскі, благі + + phōnē гук).

СКАФА́НДР [франц. scaphandre ад грэч. skáphē чаўнок + + anēr (andrós) чалавек].

8. Калі беларускае значэнне адрозніваецца ад значэння замежнага слова, якое служыць крыніцай паходжання тэрміна, трэба зрабіць памету, што пераклад літаральны.

Прыклады:

НАЦЮРМО́РТ (франц. nature morte літар. мёртвая прырода).

СО́ЛА (італьян. solo літар. адзін, адзіны).

9. Лацінскія і грэчаскія дзеясловы і іх пераклад на беларускую мову даюцца ў этымалагічных даведках пераважна ў неазначальнай форме, але сустракаюцца выпадкі, калі даецца форма 1-й асобы адзіночнага ліку.

П р ы к л а д :

АЗАКЕРЫ́Т (ад грэч. ozō пахну + kēros воск).

10. Калі запазычаны тэрмін мае на другой мове значэнне, якое супадае з беларускім, то ў даведцы толькі называецца замежнае слова без перакладу.

П р ы к л а д :

БАСЕ́ЙН (франц. bassin).

11. Калі тэрмін запазычаны з малавядомай мовы, то дастаткова толькі назваць гэтую мову.

П р ы к л а д :

БАСКА́К (цюрк.).

12. Даведкі па тапаніміцы даюцца тады, калі назва мае важнае геаграфічнае ці гістарычнае значэнне і калі ёсць аўтарытэтныя крыніцы пра яе паходжанне. Тапанімічная даведка можа ісці адразу пасля назвы ці пасля дэфініцыі і складацца з адной ці некалькіх фраз.

П р ы к л а д ы :

АЙКУМЕ́НА, э й к у м е н а (грэч. Oikumenē ад oikeō насяляю).

АНАТО́ЛІЯ (грэч. Anatolē літар. ўсход).

# XIX. СКАРАЧЭННІ, ПРЫНЯТЫЯ Ў БелЭн

## АГУЛЬНЫЯ СКАРАЧЭННІ

ААН — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый
абл. — абласны
абс. — абсалютны
абх. — абхазскі
авіяц. — авіяцыйны
агр. — аграрны
агульнаадук. — агульнаадукацыйны
адб. — адбітак
аддз. — аддзяленне
а́ддз. — аддзел (у бібліяграфіі)
аддз-не — аддзяленне (у бібліяграфіі)
адж. — аджарскі
адм. — адміністрацыйны; адмірал (пры імю)
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
адм. ц. — адміністрацыйны цэнтр
аднайм. — аднайменны
АДПУ — Аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне
адукац. — адукацыйны
азб. — азбеставы
азерб. — азербайджанскі
айч. — айчынны
Айч. вайна — Айчынная вайна
ак. — акіян
акад. — акадэмічны; акадэмік (пры імю)
акр. — акруговы; акруга (пры назве)
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
алб. — албанскі
алг. — алгебраічны
алж. — алжырскі
алімп. — алімпійскі
алюм. — алюмініевы
АМ — Акадэмія мастацтваў
амер. — амерыканскі
АМН — Акадэмія медыцынскіх навук
АМРР — Асацыяцыя мастакоў рэвалюцыйнай Расіі
АН — Акадэмія навук
аналіт. — аналітычны
анат. — анатамічны
англ. — англійскі
ант. — антычны
антаган. — антаганістычны
антрапал. — антрапалагічны

антырэліг. — антырэлігійны
апавяд. — апавядальны; апавяданне (пры назве)
апазіц. — апазіцыйны
АПК — аграпрамысловы комплекс
АПН — Акадэмія педагагічных навук
апр. — апрацоўка (муз.)
аптыміст. — аптымістычны
апубл. — апублікаваны
араб. — арабскі
арг. — аргенцінскі
арган. — арганічны
арганізац. — арганізацыйны
арг-цыя — арганізацыя
арк. — аркестравы
арм. — армянскі
арт. — артыкул (пры назве); артыст (пры імю); у бібліяграфіі
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны; архітэктар (пры імю)
археал. — археалагічны
арыфм. — арыфметычны
асв. — асветны
АСЕАН — афіцыйная назва Асацыяцыі эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва краін Паўднёва-Усходняй Азіі
АСК — аўтаматычная сістэма кіравання
аскет. — аскетычны
асн. — асноўны
астр. — астранамічны
ат. м. — атамная маса
ат. н. — атамны нумар
атл. — атлантычны
атм. — атмасферны
атр. — атрад (у біялогіі)
АТС — аўтаматычная тэлефонная станцыя
атэіст. — атэістычны
аўт. — аўтаномны
аўтабіягр. — аўтабіяграфічны
аўтам. — аўтаматычны
аўтамаб. — аўтамабільны
аўстр. — аўстрыйскі
аўстрал. — аўстралійскі
афг. — афганскі
афіц. — афіцыйны
афр. — афрыканскі
АЭС — атамная электрастанцыя
б. — былы (пры назве)
Б. Усход — Блізкі Усход
бактэрыял. — бактэрыялагічны
балг. — балгарскі
балетм. — балетмайстар (пры імю)
балк. — балканскі
балт. — балтыйскі
БАН — Беларуская акадэмія навук
бас. — басейн
бат. — батанічны
башк. — башкірскі
БВА — Беларуская ваенная акруга
Б.г. — без году (у бібліяграфіі)
БДА — Беларускі дзяржаўны архіў
БДАМЛіМ — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва
БДГА — Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
белагв. — белагвардзейскі

бельг. — бельгійскі
бібліягр. — бібліяграфічны
біягр. — біяграфічны
біял. — біялагічны
б-ка — бібліятэка
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНФ — Беларускі народны фронт
Б.м. — без месца (у бібліяграфіі)
браз. — бразільскі
бронз. — бронзавы
брыт. — брытанскі
БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада
БСГА — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія
БСДП — Беларуская сацыялдэмакратычная партыя
БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада
БССР — Беларуская ССР
буд. — будаўнічы
буд-ва — будаўніцтва
буйн. раг. жывёла — буйная рагатая жывёла
бур. — бурацкі
бурж. — буржуазны
б.ч. — большая частка
БШПР — Беларускі штаб партызанскага руху
быт. — бытавы
В. — Вялікі (у назве)
в. — вёска (пры назве)
ВА — вытворчае аб´яднанне
ВАГ — ваенна-аператыўная група
вадасх. — вадасховішча
ваен. — ваенны
вайск. — вайсковы
вак. — вакальны
в-аў — востраў
ваяв. — ваяводства (пры назве)
ВДНГ — Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі
вегетац. — вегетацыйны
венг. — венгерскі
вер. — верасень
верас. — верасень (у бібліяграфіі)
верт. — вертыкальны
вет. — ветэрынарны
в´етн. — в´етнамскі
візант. — візантыйскі
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)
ВЛКСМ — Усесаюзны Ленінскі Камуністычны саюз моладзі
ВМС — ваенна-марскія сілы
ВМФ — ваенна-марскі флот
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
ВПС — ваенна-паветраныя сілы
ВРК — ваенна-рэвалюцыйны камітэт
ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі
вуч. — вучылішча (пры назве)
ВЦВК — Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы камітэт
ВЦСПС — Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесійных Саюзаў
ВЧ — высокая частата, высокачастотны

ВЧК — Усерасійская надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам
выбр. — выбраны
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вызв. — вызваленчы
выліч. — вылічальны
вып. — выпуск
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выш. — вышыня
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
Вял. кн. Літ. — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад; гара (пры назвах); гады
газ. — газета (пры назве)
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарыз. — гарызантальны
гасп. — гаспадарчы
гв., гвардз. — гвардзейскі
гг. — гады (у бібліяграфіі)
ГДК — гранічна дапушчальная канцэнтрацыя
геагр. — геаграфічны
геад. — геадэзічны
геал. — геалагічны
геам. — геаметрычны
геафіз. — геафізічны
геахім. — геахімічны
ген. — генеральны; генерал (пры імю)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант (пры імю)
ген.-м. — генерал-маёр (пры імю)
ген.-палк. — генерал-палкоўнік (пры імю)
генет. — генетычны
герм. — германскі
гідрамеліярац. — гідрамеліярацыйны
гідраўл. — гідраўлічны
гіст. — гістарычны
гл. — глядзі
глыб. — глыбіня
г.н. невяд. — год нараджэння невядомы
горназдаб. — горназдабыўны
г.п. — гарадскі пасёлак; пасёлак гарадскога тыпу
гр. — група (хім.)
грамадз. — грамадзянскі
грамат. — граматычны
груз. — грузінскі
грэч. — грэчаскі
губ. — губерня (пры назве), губернскі
гуманіст. — гуманістычны
гуманіт. — гуманітарны
ГЭС — гідраэлектрастанцыя
Д. Усход — Далёкі Усход
давед. — даведнік (у бібліяграфіі)
даг. — дагестанскі
дакумент. — дакументальны
дарэв. — дарэвалюцыйны
даўж. — даўжыня
дац. — дацэнт
дзес. — дзесяціна
дзярж. — дзяржаўны
докл. — доклады (у бібліяграфіі)
дол. — долар
д-р — доктар

д-р н. — доктар навук
драм. — драматычны
драматург. — драматургічны
дрэваапр. — дрэвaапрацоўчы
ДРЭС — дзяржаўная раённая электрастанцыя
дыв. — дывізія
дыпламат. — дыпламатычны
дыялект. — дыялектычны
дэкар. — дэкаратыўны
дэмакр. — дэмакратычны
дэп. — дэпутат
дэп. Вярх. Савета — дэпутат Вярхоўнага Савета
егіп. — егіпецкі
еўрап. — еўрапейскі
ж. — жыхар
жал. — жалезны
жан. — жаночы
жн. — жнівень
ж.р. — жаночы род (грам.)
жыл. — жыллёвы
З — захад (напрамак свету)
заал. — заалагічны
заг. — загадчык
заканад. — заканадаўчы
зап. — запіскі (у бібліяграфіі)
засл. — заслужаны
засл. арт. — заслужаны артыст
засл. дз. культ. — заслужаны дзеяч культуры
засл. дз. маст. — заслужаны дзеяч мастацтва
засл. дз. нав. — заслужаны дзеяч навукі
засл. дз. нав. і тэхн. — заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі
засл. работнік культ. — заслужаны работнік культуры
засн. — заснаваны
зах. — заходні
зах.-бел. — заходнебеларускі
зах. д. — заходняя даўгата
зб. — зборнік (пры назве); збор (у бібліяграфіі)
зб-кі — зборнікі (пры назве)
ЗВЧ — звышвысокая частата, звышвысокачастотны
з-д — завод
і г.д. — і гэтак далей
избр. произв. — избранные произведения
і пад. — і падобныя
ідэалаг. — ідэалагічны
ідэаліст. — ідэалістычны
іл. — ілюстрацыя
ільноапр. — ільноапрацоўчы
імперыял. — імперыялістычны
імправіз. — імправізаваны
ІМЭФ — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору
інд. — індыйскі
інданез. — інданезійскі
індустр. — індустрыяльны
індывід. — індывідуальны
інж. — інжынерны; інжынер (пры імю)
інстр. — інструментальны
ін-т — інстытут
інтэрнац. — інтэрнацыянальны
інфарм. — інфармацыйны
інфекц. — інфекцыйны
інш. — іншыя
ірл. — ірландскі
ісп. — іспанскі
італ. — італьянскі (у бібліяграфіі)
італьян. — італьянскі
каап. — кааператыўны
каб.-балк. — кабардзіна-балкарскі
кав. — кавалерыйскі

каз. — казахскі
калан. — каланіяльны
калг. — калгасны; калгас (пры назве)
калект. — калектыўны
калм. — калмыцкі
каманд. — камандуючы
камб. — камбінаваны
кам.-вуг. — каменнавугальны
камед. — камедыйны
камуніст. — камуністычны
кан. — канадскі
канд. — кандыдат
канстр. — канструкцыйны
кантынент. — кантынентальны
канф. — канферэнцыя (у бібліяграфіі)
канфер. — канферэнцыя
капіталіст. — капіталістычны
кар. — карэйскі
каракалп. — каракалпакскі
касм. — касмічны
кастр. — кастрычнік; кастрычніцкі
кат. — каталог
каўк. — каўказскі
каэф. — каэфіцыент
КБ — канструктарскае бюро
КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі
КЗаП — Кодэкс законаў аб працы
кірг. — кіргізскі
кіт. — кітайскі
КК — Крымінальны кодэкс
ккдз — каэфіцыент карыснага дзеяння
кл. — клас
кн. — кніга (пры назве); князь (пры імю)
К° — кампанія
контррэв. — контррэвалюцыйны
КПБ — Камуністычная партыя Беларусі
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
КПК — Крымінальна-працэсуальны кодэкс
КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза
кр. — крыніцы (у бібліяграфіі)
крас. — красавік; красавіцкі
крымін. — крымінальны
крышт. — крышталічны
к-т — камітэт
к-та — кіслата
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
Л. — Ленінград (у бібліяграфіі)
лат. — латышскі
латв. — латвійскі
лац. — лацінскі
лац.-амер. — лацінаамерыканскі
лек. — лекавы
лесаапр. — лесаапрацоўчы
лесапрам. — лесапрамысловы
ЛіБ — Літва і Беларусь
ЛіМ — «Літаратура і мастацтва»
ліп. — ліпень
ліст. — лістапад; лістападаўскі
лістап. — лістапад (у бібліяграфіі)
літ. — літаратурны; літаратура (у бібліяграфіі); літоўскі

літар. — літаральна
літ.-знавец — літаратуразнавец
літ.-знаўства — літаратуразнаўства
л-ра — літаратура
ЛЭП — лінія электраперадачы
лют. — люты (у бібліяграфіі)
Лют. рэв. — Лютаўская рэвалюцыя
м. — мыс; мора
М. — Малы (пры назве); Масква (у бібліяграфіі)
магн. — магнітны
макед. — македонскі
макс. — максімальны
малд. — малдаўскі
манапал. — манапалістычны
манарх. — манархічны
манг. — мангольскі
манум. — манументальны
марфал. — марфалагічны
маст. — мастацкі; мастак (пры імю)
мат.-тэхн. — матэрыяльна-тэхнічны
мат.-тэхн. забесп. — матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне
матэм. — матэматычны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
матэрыяліст. — матэрыялістычны
мед. — медыцынскі
мекс. — мексіканскі
меліярац. — меліярацыйны
метал. — металічны
металаапр. — металаапрацоўчы
метафіз. — метафізічны
мех. — механічны
механіст. — механістычны
МЖС — машынна-жывёлагадоўчая станцыя
МЗС — міністэрства замежных спраў
міжнар. — міжнародны
мікрабіял. — мікрабіялагічны
мілітар. — мілітарысцкі
мін. — мінорны; міністр (пры імю)
мін-ва — міністэрства
мінер. — мінеральны
мінім. — мінімальны
М.; Л. — Масква — Ленінград (у бібліяграфіі)
млн. — мільён
млрд. — мільярд
ММС — машынна-меліярацыйная станцыя
Мн. — Мінск (у бібліяграфіі)
мн. л. — множны лік
м. р. — мужчынскі род
МСАП — Міжнародны саюз аховы прыроды
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
МУС — міністэрства ўнутраных спраў
мусульм. — мусульманскі
мяса-мал. — мяса-малочны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
н. р. — ніякі род (грам.)
н.ст. — новы стыль
н.э. — наша эра
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
найб. — найбольшы, найбольш
найважн. — найважнейшы

найвыш. — найвышэйшы
наз. — называецца
нам. — намеснік
нап. — напісана
напр. — напрыклад
нар. — народны
НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь
нар. гасп. — народная гаспадарка
нар.-гасп. — народнагаспадарчы
нарв. — нарвежскі
нас. — насельніцтва
НАСА — Нацыянальнае кіраўніцтва па аэранаўтыцы і даследаванні касмічнай прасторы (ЗША)
наст. — наступны
НАТО — афіцыйная назва ваенна-палітычнага саюза, створанага на аснове Паўночнаатлантычнага пакта
нафтапераг. — нафтаперагонны
нафтаперапр. — нафтаперапрацоўчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нацыяналіст. — нацыяналістычны
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
НДІ — навукова-даследчы інстытут
нерв. — нервовы
нерж. — нержавейны
нідэрл. — нідэрландскі
НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі
НКУС — Народны камісарыят унутраных спраў
новазел. — новазеландскі
НЧ — нізкая частата, нізкачастотны
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
отд. — отдел (у бібліяграфіі)
отд-ние — отделение (у бібліяграфіі)
п. — памёр
Пб. — Пецярбург (у бібліяграфіі)
Пг. — Петраград (у бібліяграфіі)
pH — вадародны паказчык
пав. — павет (пры назве); павятовы
паветр. — паветраны
пагран. — пагранічны
пад каманд. — пад камандаваннем
падатр. — падатрад
падп. — падпольны
падсям. — падсямейства
пал. — палавіна
паліграф. — паліграфічны
палінез. — палінезійскі
паліт. — палітычны
палк. — палкоўнік (пры імю)
пам. — памочнік
параўн. — параўнанне; параўнай
парт. — партыйны
партуг. — партугальскі
партыз. — партызанскі
пас. — пасёлак (пры назве)
пасаж. — пасажырскі
паст. — пастаноўка; пастанова
паталаг. — паталагічны
патрыят. — патрыятычны
паўд. — паўднёвы
паўд. ш. — паўднёвая шырата

паўн. — паўночны
паўн. ш. — паўночная шырата
паўн.-асец. — паўночнаасецінскі
п-аў — паўвостраў
пач. — пачатак; пачатковы
пашыр. — пашырана
паэт. — паэтычны
Пд — поўдзень
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
пер. — пераклад, перакладчык
перс. — персідскі
перыяд. — перыядычны
пецярб. — пецярбургскі
пл. — плошча
плем. — племянны
Пн — поўнач
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
політэхн. — політэхнічны
Полн. собр. соч. — Полное собрание сочинений (у бібліяграфіі)
ППА — проціпаветраная абарона
ППХА — проціпаветраная і проціхімічная ахова
пр. — працы (у бібліяграфіі)
прав. — правінцыя
правадз. (чл.) — правадзейны (член)
правасл. — праваслаўны
прагрэс. — прагрэсіўны
прадукц. — прадукцыйны
пралет. — пралетарскі
прамысл. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафілакт. — прафілактычны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
прыбл. — прыблізна
псеўд. — псеўданім
псіхал. — псіхалагічны
ПСРЛ — Поўны збор рускіх летапісаў
публ. — публікацыя (у бібліяграфіі)
р. — рака (пры назве)
р.п. — рабочы пасёлак
р.ц. — раённы цэнтр
развед. — разведвальны
раздз. — раздзел
рамант. — рамантычны
рас. — расійскі
расл. — раслінны
р-н — раён (пры назве)
РВС — рэўваенсавет
РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя
РСЧА — Рабоча-сялянская Чырвоная Армія
РТС — рамонтна-тэхнічная станцыя
руб. — рубель
рум. — румынскі
рус. — рускі
рым. — рымскі
рыс. — рысунак
рэакц. — рэакцыйны
рэаліст. — рэалістычны
рэв. — рэвалюцыйны
рэвіз. — рэвізійны
рэд. — рэдактар (пры імю); рэдакцыя; рэдакцыйны
рэж. — рэжысёр (пры імю)
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка; сяло (пры назве)

сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
самадз. — самадзейны
самаст. — самастойны
сан. — санітарны
санскр. — санскрыцкі
сапр. — сапраўдны
сатыр. — сатырычны
сац. — сацыяльны; сацыялістычны (у спалучэнні Герой Сацыялістычнай Працы)
сацыяліст. — сацыялістычны
сб. ст. — сборник статей (у бібліяграфіі)
с. в. — светлавое выпрамяненне
св. — святы
с.-г. — сельскагаспадарчы
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
СЕАТО — афіцыйная назва ваеннага блока, створанага на аснове дагавору пра калектыўную абарону ў Паўднёва-Усходняй Азіі
СЕНТО — афіцыйная назва ваеннага блока, створанага на аснове «Багдадскага пакта»
СІ — Міжнародная сістэма адзінак
сіб. — сібірскі
сім. — сіметрычны
сімф. — сімфанічны; сімфонія (пры назве)
сінт. — сінтэтычны
сінтакс. — сінтаксічны
сістэм. — сістэматычны
сканд. — скандынаўскі
СКБ — спецыяльнае канструктарскае бюро
скл. — скланенне; скліканне;
склад. — складальнік (у бібліяграфіі)
скульпт. — скульптурны; скульптура; скульптар (пры імю)
слав. — славянскі
СМ — Савет Міністраў
снеж. — снежань; снежаньскі
СНК — Савет Народных Камісараў
Собр. соч. — Собрание сочинений (у бібліяграфіі)
сост. — составитель (у бібліяграфіі)
Соч. — Сочинения (у бібліяграфіі)
спарт. — спартыўны
Спб. — Санкт-Пецярбург (у бібліяграфіі)
спец. — спецыяльны
СССР — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік
с/с — сельсавет (пры назве)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе; стагоддзі
Стараж. — Старажытны (у назвах: Старажытны Рым, Старажытная Русь і пад.)
стараж. — старажытны
стараслав. — старaславянскі
стат. — статыстычны
стр. — струнны
стралк. — стралковы
стратэг. — стратэгічны
студз. — студзень
суд. — судовы
сусв. — сусветны
сухап. — сухапутны
СФП — Сусветная Федэрацыя прафсаюзаў
сх. — схема

схаласт. — схаластычны
сял. — сялянскі
сям. — сямейства (у біялогіі)
сцэн. — сцэнічны
т. — том
t, т-ра — тэмпература
t кіп. — тэмпература кіпення
t пл. — тэмпература плаўлення
табл. — табліца
тадж. — таджыкскі
танк. — танкавы
танц. — танцавальны
тапагр. — тапаграфічны
ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза
тат. — татарскі
ТБМ — Таварыства беларускай мовы
ТБШ — Таварыства беларускай школы
тв. — творы
т-ва — таварыства
т. зв. — так званы
тр. — труды (у бібліяграфіі)
т-р — тэатр
т-ра — тэмпература
традыц. — традыцыйны
ТРАМ — тэатр рабочай моладзі
трансп. — транспартны
трыкат. — трыкатажны
туб. — туберкулёзны
тув. — тувінскі
тур. — турэцкі
туркм. — туркменскі
т.ч. — такім чынам
тыс. (ж.) — тысяча (жыхароў); тысячагоддзе (пры лічбе)
тэарэт. — тэарэтычны
тэатр. — тэатральны
тэкст. — тэкстыльны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя; тэрытарыяльны
тэрапеўт. — тэрапеўтычны
тэрарыст. — тэрарыстычны
тэхн. — тэхнічны
тэхнал. — тэхналагічны
У — усход
УАСГНІЛ — Усесаюзная акадэмія сельскагаспадарчых навук імя У.І. Леніна
УВЧ — ультравысокія частоты
удз. в. — удзельная вага
удм. — удмурцкі
узб. — узбекскі
узбр. — узброены
узв. — узвышша (пры назве)
узнаг. — узнагароджаны
узр. м. — узровень мора
укл. — уключна; уклейка
уклад. — укладальнік (у бібліяграфіі)
УКП — Усеагульная канфедэрацыя працы
укр. — украінскі
УКХ — ультракароткія хвалі
унутр. — унутраны
ун-т — універсітэт
ураўн. — ураўненне
усерас. — усерасійскі
усх. — усходні
усх. д. — усходняя даўгата
у т. л. — у тым ліку
у. х. — ударная хваля
фабр. — фабрычны
фабр.-зав. — фабрычна-заводскі
факс. выд. — факсімільнае выданне (у бібліяграфіі)
фалькл. — фальклорны
фанет. — фанетычны
фантаст. — фантастычны

фармаліст. — фармалістычны
фатагр. — фатаграфічны
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
фельч.-ак. — фельчарска-акушэрскі
фіз. — фізічны
фіз.-матэм. — фізіка-матэматычны
фіз.-хім. — фізіка-хімічны
фізіял. — фізіялагічны
філал. — філалагічны
філас. — філасофскі
фін. — фінансавы; фінскі
фінл. — фінляндскі
ф-ка — фабрыка
ф-ла — формула
флам. — фламандскі
фп. — фартэпіяна
фр. — французскі (у бібліяграфіі)
франц. — французскі
ФРГ — Федэратыўная Рэспубліка Германіі
ф. ст. — фунт стэрлінгаў
ф-т — факультэт
функцыян. — функцыянальны
хар. — харавы
харч. — харчовы
хім. — хімічны
хірург. — хірургічны
хім.-тэрм. — хіміка-тэрмічны
хр. — хрыбет (пры назве)
хранік. — хранікальны
хрысц. — хрысціянскі
царк. — царкоўны
цв. — цвёрдасць
ЦВК — Цэнтральны выканаўчы камітэт
ЦКК — Цэнтральная Кантрольная камісія
ц. н. с. — цэнтральная нервовая сістэма
ЦО — Цэнтральны орган
цукр. — цукровы
ЦШПР — Цэнтральны штаб партызанскага руху
цэм. — цэментавы
цэнтр. — цэнтральны
ЦЭС — цеплаэлектрастанцыя
ЦЭЦ — цеплаэлектрацэнтраль
цюрк. — цюркскі
ч. — частка
чал. — чалавек (пры лічбе)
час. — часопіс (пры назве)
часоп. — часопіс (у бібліяграфіі)
ЧК — надзвычайная камісія
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чув. — чувашскі
чыг. — чыгунка (пры назве); чыгуначны
чыг.-ліц. — чыгуналіцейны
чыг.-плав. — чыгунаплавільны
чыг. ст. — чыгуначная станцыя
чырв. — чырвоны
Чырв. Армія — Чырвоная Армія
чэрв. — чэрвень; чэрвеньскі
чэч.-інг. — чэчэна-інгушскі
чэш. — чэшскі
шатл. — шатландскі
швед. — шведскі
швейц. — швейцарскі
шматнац. — шматнацыянальны
ШСЗ — штучны спадарожнік Зямлі
шт. — штука
шчыльн. — шчыльнасць
шыр. — шырыня
эвалюц. — эвалюцыйны

ЭВМ — электронная вылічальная машына
эканам. — эканамічны
экз. — экзэмпляр
эксперым. — эксперыментальны
эл. — электрычны
эл.-магн. — электрамагнітны
энергет. — энергетычны
энцыкл. — энцыклапедыя, энцыклапедычны (у бібліяграфіі)
эпідэміял. — эпідэміялагічны
эрс. — электрарухальная сіла
эст. — эстонскі
эстр. — эстрадны
эстэт. — эстэтычны
этн. — этнічны
этнагр. — этнаграфічны
югасл. — югаслаўскі
ЮНЕСКА — установа ААН па пытаннях асветы, навукі і культуры
юрыд. — юрыдычны
ядз. — ядзерны
як. — якуцкі
які-н. — які-небудзь
яп. — японскі
яўр. — яўрэйскі

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ, РЭКАМЕНДАВАНЫХ У ДЭФІНІЦЫЯХ *

абл. — абласны
авіяц. — авіяцыйны
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
адм.ц. — адміністрацыйны цэнтр
Айч. вайна — Айчынная вайна
антыфеад. — антыфеадальны
археал. — археалагічны
аўт. — аўтаномны
Б. Усход — Блізкі Усход
бас. — басейн
бурж. — буржуазны
б. ч. — большая частка
в. — вёска (пры назве)
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
Вял. кн. Літ. — Вялікае княства Літоўскае
гар. пасёлак — гарадскі пасёлак
геагр. — геаграфічны
геал. — геалагічны
Герой Сав. Саюза — Герой Савецкага Саюза
Герой Сац. Працы — Герой Сацыялістычнай Працы
гіст. — гістарычны
губ. — губерня
Д. Усход — Далёкі Усход
даўж. — даўжыня
дзярж. — дзяржаўны
дробнабурж. — дробнабуржуазны
засл. — заслужаны
засл. арт. — заслужаны артыст

* Заўвага. Першае слова ў дэфініцыі не скарачаецца.

засл. работнік культ. — заслужаны работнік культуры
засл. дз. маст. — заслужаны дзеяч мастацтва
засл. дз. культ. — заслужаны дзеяч культуры
засл. дз. нав. — заслужаны дзеяч навукі
засл. дз. нав. і тэхн. — заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі
засн. — заснаваны
зах. — заходні
імперыял. — імперыялістычны
індустр. — індустрыяльны
інтэрнац. — інтэрнацыянальны
капіталіст. — капіталістычны
манарх. — манархічны
матэрыяліст. — матэрыялістычны
метафіз. — метафізічны
міжнар. — міжнародны
мінер. — мінеральны
мяст. — мястэчка
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
паліт. — палітычны
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
пас. — пасёлак
паўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
прагрэс. — прагрэсіўны
пралет. — пралетарскі
прамысл. — прамысловы
прафес. — прафесійны
р. — рака (пры назве)
р.ц. — раённы цэнтр
рэв. — рэвалюцыйны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — сяло (пры назве)
Сав. Армія — Савецкая Армія
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
спец. — спецыяльны
сусв. — сусветны
сям. — сямейства
т-ра — тэмпература
т. зв. — так званы
тэхн. — тэхнічны
узбр. — узброены
усх. — усходні
феад. — феадальны
хрысц. — хрысціянскі
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгунка
Чырв. Армія — Чырвоная Армія

## СКАРОЧАНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ АДЗІНАК ФІЗІЧНЫХ ВЕЛІЧЫНЬ

А — ампер
а.а. — астранамічная адзінка
а.а.м. — атамная адзінка масы
аб/мін — абароты за мінуту
аб/с — абарот за секунду
Б — бел
Бк — бекерэль
В — вольт
Вб — вебер
Вт — ват
г. — год
г — грам
га — гектар
гадз — гадзіна
Гн — генры
...$^{o}$ — градус вуглавы
$^{o}$C — градус Цэльсія
$^{o}$P — градус Рэамюра
$^{o}$F — градус Фарэнгейта

Гр — грэй
Гц — герц
Дж — джоўль
Зв — зіверт
К — кельвін
кар — карат
кВ — кілавольт
кВт — кілават
кг — кілаграм
кГц — кілагерц
кДж — кіладжоўль
Кі — кюры
Кл — кулон
км — кіламетр
$км^2$ — квадратны кіламетр
$км^3$ — кубічны кіламетр
км/гадз — кіламетр за гадзіну
км/с — кіламетр за секунду
к.с. — конская сіла
кэВ — кілаэлектронвольт
л — літр
лк — люкс
лм — люмен
м — метр
$м^2$ — квадратны метр
$м^3$ — кубічны метр
мА — міліампер
мВ — мілівольт
мВт — міліват
мг — міліграм
м/гадз — метр за гадзіну
МГц — мегагерц
мін — мінута
...′ — мінута вуглавая
мкА — мікраампер
мкВ — мікравольт
мкФ — мікрафарад
мм — міліметр
$мм^2$ — квадратны міліметр
$мм^3$ — кубічны міліметр
мм рт. сл. — міліметр ртутнага слупа
м/с — метр за секунду
МэВ — мегаэлектронвольт
Н — ньютан
Ом — ом
Па — паскаль
пк — парсек
Р — рэнтген
с — секунда
...″ — секунда вуглавая
св. год — светлавы год
см — сантыметр
$см^2$ — квадратны сантыметр
$см^3$ — кубічны сантыметр
ст. — стагоддзе
сут — суткі
т — тона
Тл — тэсла
тыдз — тыдзень
Ф — фарад
ц — цэнтнер
ц/га — цэнтнер на гектар (з гектара)
эВ — электронвольт

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ НА КАРТАХ

АА — аўтаномная акруга
АВ — аўтаномная вобласць
АР — аўтаномная рэспубліка
а-вы — астравы
акр. — акруга
арх. — архіпелаг
ат. — атол
б-ка — банка
бал. — балота
бас. — басейн
бух. — бухта
в. — востраў
вдсп. — вадаспад
вдсх. — вадасховішча
верх. — верхні
влк. — вулкан

вобл. — вобласць
воз. — возера
вял. — вялікі
г. — гара; гады
гав. — гавань
геагр. вобл. — геаграфічная вобласць
гіст. вобл. — гістарычная вобласць
горны прх. — горны праход
губ. — губерня
дал. — даліна
дэпарт. — дэпартамент
з.д. — заходняя даўгата
зак. — заказнік
зал. — заліў
запав. — запаведнік
зах. — заходні
кан. — канал
катл. — катлавіна
Кр. — Красны
лаг. — лагуна
лев. — левы
лед. — ледавік
лім. — ліман
м. — мыс
нац. — нацыянальны
ніж. — ніжні
ніз. — нізіна
пав. — павет
падв. — падводны
паляр. ст. — палярная станцыя
пар. — парог
п-аў — паўвостраў
пд. ш. — паўднёвая шырата
паўд. — паўднёвы
пн. ш. — паўночная шырата
паўн. — паўночны
пер. — перавал
пр. — праход
прав. — правы
прал. — праліў
пяч. — пячора
р. — рака
р-н — раён
рэсп. — рэспубліка
св. — святы
ск. — скала
спрэчн. — спрэчныя
ст. — стагоддзе, стагоддзі
стар. — стары
сярэд. — сярэдні
тэр. — тэрыторыя
узв. — узвышша
упадз. — упадзіна
у. д. — усходняя даўгата
усх. — усходні
хр. — хрыбет
цэнтр. — цэнтральны
цясн. — цясніна
чырв. — чырвоны
шэльф. — шэльфавы

# КАРЭКТУРНЫЯ ЗНАКІ І КАРЫСТАННЕ ІМІ

Агульныя палажэнні

1. Карэктура — гэта выпраўленне памылак, недакладнасцей, выяўленых як у рукапісе (арыгінале), так і ў адбітках з набору (гранках, лістах і зверачных экзэмплярах).

2. Выпраўленне памылак у адбітках з набору робіцца з дапамогай спецыяльнай сістэмы ўмоўных карэктурных знакаў.

3. Карэктурныя выпраўленні ў адбітках з набору памячаюцца двума аднолькавымі карэктурнымі знакамі: адзін ставіцца ў тэксце на памылцы, а другі — на бліжэйшым полі адбітку на ўзроўні таго радка, дзе знаходзіцца памылка.

4. Калі ў адным ці некалькіх сумежных радках трапляюцца аднатыпныя выпраўленні (замена няправільных літар, знакаў, слоў правільнымі), выкарыстоўваюцца варыянты карэктурных знакаў. Гэтыя варыянты ствараюцца з асноўнага знака дабаўленнем да яго штрыхоў (флажкоў). Дадатковыя штрыхі (флажкі) робяць знак разнастайным і паказваюць сваім напрамкам, на якое поле вынесена праўка.

5. Калі ў адным радку ці ў некалькіх сумежных радках бывае многа аднолькавых правак (марашак, сапсаваных, перавернутых ці аднолькавых літар), то кожнае выпраўленае месца памячаецца ў адбітку карэктурным знакам, а на полі гэты знак паўтарасцца не больш як 2 разы на 4—5 радкоў.

6. Усе асноўныя заўвагі і тлумачэнні, што даюцца на палях побач з карэктурнымі памстамі, абавязкова трэба браць у кружок.

7. Стандартныя карэктурныя знакі не суправаджаюцца ніякімі слоўнымі заўвагамі.

8. Выпраўленні ў адбітку з набору робяцца толькі сінім чарнілам, выразна і зразумела. Выпраўляючы памылкі, трэба эканомна карыстацца знакамі. Напрыклад, калі ў адным слове правяцца суседнія літары ці літары, паміж якімі стаіць

правільная літара, трэба закрэсліваць іх адным карэктурным знакам. Гэта аблягчае работу праўшчыка.

9. Карэктурныя знакі стандартызаваныя і абавязковыя як для аўтараў, рэдактараў, карэктараў і тэхнічных рэдактараў выдавецтва, так і для карэктараў і наборшчыкаў друкарні.

## ЗНАКІ ЗМЕНЫ, ВЫКІДКІ І ЎСТАЎКІ

 — замяніць няправільную ці пашкоджаную літару (знак) адной ці некалькімі іншымі

 — замяніць малую літару вялікай

 — замяніць вялікую літару малой

 — замяніць дзве ці некалькі літар (знакаў) іншымі

 — замяніць кавалак тэксту (групу знакаў) новымі

 — выкінуць

 — уставіць слова, фразу, кавалак тэксту

 — дэфіс

 — працяжнік

 — уставіць адзін ці некалькі радкоў паміж іншымі радкамі

## ЗНАКІ ПЕРАСТАНОЎКІ МАТЭРЫЯЛУ

 — памяняць месцамі суседнія літары, словы ці групы слоў

 — памяняць месцамі больш двух слоў ці групу слоў

 — перанесці слова ці частку тэксту з аднаго радка ў другі, выправіць перанос

 — памяняць месцамі суседнія радкі

 — падаць тэкст управа ці ўлева (стрэлка паказвае, у якім напрамку)

 — падняць ці апусціць згодна з указаннем

## ЗНАКІ ЗМЯНЕННЯ ПРАБЕЛАЎ

— павялічыць прабел паміж словамі ці асобнымі знакамі

— паменшыць прабел паміж словамі ці асобнымі знакамі

— ліквідаваць прабел паміж часткамі слова ці асобнымі знакамі

— павялічыць прабел паміж радкамі

— паменшыць прабел паміж радкамі

## ЗНАКІ АБЗАЦА, НОВАГА РАДКА І ШРЫФТАВЫХ ВЫДЗЯЛЕННЯЎ

Z Z — выключыць у «чырвоны радок»

Z — зрабіць абзац ці направіць абзацавы водступ

— набраць упадбор, без абзаца і не з новага радка

—— — набраць паўтлустым малым шрыфтам

~~~~ — набраць курсівам

— набраць паўтлустым курсівам

==== — набраць тлустым вялікім шрыфтам

- - - - — зрабіць разрадку ўнутры слова

— зняць разрадку ўнутры слова

— набраць светлым прамым шрыфтам

## ЗНАКІ ВЫПРАЎЛЕННЯ ТЭХНІЧНЫХ ДЭФЕКТАЎ НАБОРУ І НАЦІСКУ

× — замяніць «чужую», г.зн. іншага шрыфту (ці папсаваную, няясную), літару

— перавярнуць

|| — выраўнаваць край набору
~~~~

